# крыніца

ISSN 0234—1387

9

Казімір МАЛЕВІЧ:
«ТАЙНА СУПРЭМАТЫЗМУ»

Падарожжа ў IX стагоддзе

ФУТБОЛ: рэха чэмпіянату Еўропы

Аляксандр ЛАПАЦЕНКАЎ: «Як адрадзіць гаспадара?»

АС / ДС: перапады напружання

Фота У. ВІТЧАНКІ

## ПАЗІЦЫЯ

Гаспадар... Надзіва ёмістае, простае і такое складанае паняцце. Колькі бур і вятроў пранеслася над ім, колькі стыхій прыгнула яго да зямлі, намагаючыся вырваць з коранем... А здарылася б такое — зямля апусцела б. Перастала б карміць людзей, зарасла б бур'янам ды кустоўем. Рэкі абмялелі б, гаі зачэзлі...

Нельга без гаспадара. Немагчыма. Толькі вось шмат гадоў запар гаспадарамі нярэдка называлі тых, хто не клапаціўся пра зямлю, а рабаваў і нявечыў яе. Хто ў імя маланкавага поспеху выціскаў з яе, дый з людзей таксама, апошнія сілы. Любой цаною, любымі сродкамі — адно б дасягнуць перамогі. А пераможцаў не судзяць! Судзяць. Прыйшоў такі час...

А тых, у каго сэрца крывёю аблівалася пры выглядзе ўсяго гэтага, хто змагаўся як мог, хто ішоў іншым шляхам, тых... выхоўвалі, каралі, адлучалі ад справы. Тыя плацілі за ўсё ранняй сівізною ды сваім здароўем. І добрасумленна служылі сваёй справе. Бо былі гаспадарамі. Сапраўднымі. Верылі, што настане іх час і што не будзе ў ім месца часовым людзям.

Так, нельга без гаспадара. Немагчыма. Але чым запоўніць страты! Як адрадзіць гаспадара!

АДРАДЖЭННЕ ГАСПАДАРА
гл. на стар. 14

ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# крыніца

№ 9
1988

ШТОМЕСЯЧНЫ
ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ
І ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС
ЦК ЛКСМБ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Мінск, «Полымя»
Выдаецца са студзеня 1988 года



Выдаецца на рускай
і беларускай мовах

Рэдакцыя прымае матэрыялы, аб'ём якіх не перавышае 25 старонак машынапісу праз два інтэрвалы. Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і па пошце аўтарам не вяртае.

ПІШЫЦЕ:
220807
г. Мінск, ГСП,
вул. Кісялёва, 11

Выдавецтва «Полымя» Дзяржаўнага
камітэта Беларускай ССР па справах
выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю
Здадзена ў набор 18.07.88.
Падпісана да друку 24.08.88.
АТ 06341.
Фармат 60×90 1/8.
Афсетны друк.
Ум.-друк. арк. 5,5.
Ум. фарб.-адб. 16.
Ул.-выд. арк. 8,9.
Зак. 1086.
Тыраж 37 480.
Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга
друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Адрас: 220041, г. Мінск,
Ленінскі праспект, 79

СПАДЧЫНА

Тадэвуш ЛАДА-ЗАБЛОЦКІ

# ДА ДЗВІНЫ

*ЭЛЕГІЯ*

Радзімая рака! Шмат збегла год,
Калі на беразе тваім праводзіў час астатні
І хвалям дасылаў тады на адыход
Перад чужынай пацалунак братні.

Тады, як і цяпер, часінаю начной
Па небе месяц ціхенька каціўся.
Тады, як і цяпер, далінаю рачной
Ў адбітках зорак твой паток бруіўся.

Тады, як і цяпер, халодная імгла
Тваё шырокае люстэрка пакрывала.
Тады, як і цяпер, ноч ясная была,
І прыгажосцю ўсё навокал чаравала.

Але не я адзін наведваў бераг твой.
Ах! Трое нас было з юнацкім уяўленнем.
Хацелі сцежкай па жыцці ісці адной,
З'яднаныя навек сяброўскім пагадненнем.

Тады на розвіт мы сышліся свой,
Тады з табой прыйшлі, Дзвіна, расстацца.
Жадалі ўдосталь адвітальнаю парой
Мы хваль тваіх вадой насмакавацца.

І я спяваў ім песенькі расстання,
І гукі пранікалі іх ва ўсе затокі.
Мы плакалі — і слёзы развітання
Злівалі у твае, Дзвіна, патокі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А я, што край свой легкадумна кінуў,
Калі да мар нязбытных ўсё гарнуўся,
Вясну жыцця на чужыне пакінуў,
Пагарджаны быў і зноў на бераг твой
вярнуўся.

Дзвіна! Твой шэпат хваляў ціхі і самотны
Мне сны прыгожыя ў дзяцінстве калыхаў.
За той, адрэзак часу мімалётны
Саму раскошу з шчасцем я ўвабраў.

Ах! Дзе ж зараз тыя мары маладосці,
Што вабілі мяне ўсяго і без астатку?
Дзе ж тая здань кахання, весялосці,
З якою песціўся я на жыцця пачатку!

Мінула ўсё!.. Хоць не мая віна,
Чаму ж ты, сэрца, каменем не стала!
Чаму ж, надзеяў поўная, Дзвіна,
Мяне ў свае глыбіні не забрала!

Мажліва, сёстры доўга плакалі б ў жалобе,
Мажліва, маці безліч слёз зліла б.
Але не чуў бы я той жаласнай шкадобы.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Бывай, мая Дзвіна! Бо час не за гарой,
Калі прымусяць зноў цябе пакінуць.
І нават з ветрам прах не данясецца мой,
Калі ў краі далёкім прыйдзецца загінуць.

З польскай пераклаў
Аляксандр БАРКОЎСКІ

У папярэдніх нумарах пад рубрыкай «Спадчына» мы друкавалі творы беларускамоўных аўтараў, а тут — пераклад з польскай...

Наш зямляк Тадэвуш Лада-Заблоцкі (1811—1847) паходзіць з тае беларускае шляхты, якая ўспрыняла польскую мову і культуру і шмат зрабіла для яе абагачэння. У 18-м стагоддзі гэтая шляхта дала Польшчы Францішка Дыянізыя Князьніна, у 19-м — несмяротнага Адама Міцкевіча. Гэтыя пісьменнікі не былі абыякавыя да свайго краю, да свайго народа. Духоўныя дзеці Асветніцтва, яны звярталіся ў сваёй творчасці да гісторыі роднай зямлі, да народнае творчасці. Асабліва інтэнсіўна працэс вяртання да народа, да мовы прадзедаў адбываўся пасля падаўлення паўстання 1830—1831 гг. Прадстаўнікі колісь апалячанай шляхты стварылі падмурак новай беларускай літаратуры, заклалі яе дэмакратычныя традыцыі. Ян Баршчэўскі, Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч, Кастусь Каліноўскі, Адам Гурыновіч, Янка Лучына, Францішак Багушэвіч, Карусь Каганец, Янка Купала...

Тадэвуш Лада-Заблоцкі нарадзіўся на Віцебшчыне, у Віцебску скончыў гімназію, вучыўся ў Маскоўскім універсітэце (Віленскі быў зачынены), сышоўся з гуртком Вісарыёна Бялінскага, быў сасланы.

У ягонай элегіі «Да Дзвіны» відзён уплыў сентыменталізму, але ў цэлым гэта рамантычны твор. Тлумачыць яго змест, мусіць, няма патрэбы.

Застаецца дадаць, што перакладчык — Аляксандр Баркоўскі — наш зямляк, які жыве і працуе ў Якуціі.

Уладзімір ГРАЎЦОЎ

# САГА ПРА ВЯСКОВАЕ НАСТАЎНІЦТВА

## (НАТАТКІ ДЫРЭКТАРА ШКОЛЫ)

Малады настаўнік? У вёсцы? Гм...— Я задумаўся.— Гэта досыць...

— Што, цяжка? Ты ж сам малады спецыяліст! Табе не ведаць пра іх жыццё!..

Мне, і праўда, грэх не ведаць. Скажу болей, тэма гэтых нататак мяне даўно вабіла і ў той жа час... насцярожвала. Бо, з аднаго боку, сам тры гады як скончыў універсітэт, сам лічуся яшчэ маладым спецыялістам — адчуў на сабе ўсе прывілеі, перажыў усе пакуты чалавека, які пасля студэнцтва, пасля ўсіх выгод сталічнага жыцця вымушаны быў ехаць у вёску, а, з другога боку, на пасадзе дырэктара школы, які штодня сутыкаецца з маладымі спецыялістамі, мушу бачыць у іх перш за ўсё не сваіх аднагодкаў, не сяброў па ўзаемных успамінах, а перш за ўсё настаўнікаў, якія хочуць або не хочуць аддаваць свае веды дзецям, сваю душу «забітай» вясковай школе.

Я, думаю, не памылюся, калі скажу, што сэрцавінай праблемы «малады спецыяліст у вёсцы» з'яўляецца незадаволенасць. Адсюль — раздражненне. У маладых настаўнікаў — да камісіі па размеркаванні, да вёскі, да тых, хто ўвасабляе сабою вынік іх «загубленага» жыцця, да вясковай школы, г. зн. дырэктара (старшыні калгаса, старшыні сельсавета).

Але незадаволенасць гэтая — узаемная. Бо накіравана яна ў дырэктара школы (старшыні калгаса, старшыні сельсавета) на тых, хто мог бы аддаць свае веды і маладую энергію адраджэнню вёскі, мог бы зрабіць вясковую школу не горшай за гарадскую, мог бы... Але не хоча. Так яны і існуюць. Па адзін бок «барыкады» — малады спецыяліст, яго неацэненыя здольнасці, яго пабытовая няўтульнасць, а па другі бок тыя, хто «загнаў» яго сюды, хто працягвае «мучыць» яго.

У час напісання гэтых нататак я так часта пераўвасабляўся то ў маладога спецыяліста, то ў дырэктара школы, што нарэшце махнуў рукой і даў выгаварыцца абодвум. Тым больш што частыя гутаркі як з маладымі настаўнікамі, так і з дырэктарамі школ даюць магчымасць паказаць абодва бакі «ва ўсім узбраенні».

Але спачатку — ЭКСКУРС.

**Міжволі згадваю той час, калі быў вясковым хлапчуком і ўжо тайна марыў пра той свет, што пачынаўся за нашым райцэнтрам Круглае. Разам са сваімі аднагодкамі я любіў слухаць заезджых мужыкоў, салдат, што дэмабілізаваліся, няўдачнікаў, якіх жыццё занесла ў наш сонны, пыльны Рубеж.** Чаго мы не наслухаліся ад іх — страшнага, жудаснага, нават агіднага. Толькі тым больш біліся нашы дзіцячыя сэрцы ў гарачым жаданні ўбачыць той чужы, але прывабны свет.

І таму з асаблівым хваляваннем мы чакалі прыезду маладых настаўнікаў. Не таму, што старыя блага выкладалі. Не! А таму, што яны прыязджалі АДТУЛЬ! З тых вялікіх гарадоў, дзе жыццё цікавае, як у арабскіх і індыйскіх фільмах, што паказвалі ў нашым клубе. І гэта ўсё (о, слава невядомаму РАЗМЕРКАВАННЮ!) яны везлі НАМ, мурзатым хлапчукам, і прыязджалі не на тыдзень, як гарадскія хлопцы да сваіх цётак, і невыпадкова, як былы марак Серж, а спецыяльна да НАС, дзеля НАС! А гэта значыць, што водбліск «ВЯЛІКАЕ ЗЯМЛІ» не толькі міргне, а, дасць бог, і заззяе нарэшце над нашым шэрым, нецікавым такім існаваннем...

І вось яны з'ўляліся. Маладыя, прыгожыя, у моднай адзежы... Нават пах ад іх ішоў той... «вяліказемельны». І першы іх жэст, першае іх слова (беларускае або рускае), выраз іх твару ўспрымаўся намі як адкрыццё, як надзея, што ў нашай школе пачнецца новае, цікавае жыццё...

Але... Тут я пакуль спынюся і вярнуся ў дзень сённяшні.

### Голас першы. МАЛАДЫ НАСТАЎНІК

— Эх-х, канешне, я не думаў, што ў школе працаваць буду. Тым больш, вясковай. Недзе на курсе трэцім даведаўся, што размеркаванне ў нас такое кепскае. І то не верыў. Ды вы б спыталіся ў нас тады, хто ў вёску паедзе. Ніхто! Усе былі ўпэўненыя, што ў горадзе застануцца. Пазней нам ужо так і казалі: «Едзеце ў вясковыя школы». А мы не верылі. Усё спадзяваліся. На што? Адны хлопцы

Заканчэнне на стар. 10

Афармленне Сяргея ФІЛІПАВА

ЭКС-ЗАКРЫТАЯ ТЭМА

Алесь УСЕНЯ

# ПА ТОЙ БОК АГАРОДЖЫ

Я яшчэ не паспеў як след пазнаёміцца з начальнікам жаночай калоніі агульнага рэжыму Пятром Аляксандравічам Санковічам і яго намеснікам па палітыка-выхаваўчай рабоце Ірынай Уладзіміраўнай Вялікай, як у кабінет зайшла сівая старая жанчына з паперамі ў руках. Твар яе свяціўся ціхай радасцю.

— Вось, падпішыце, калі ласка. Выходжу на волю.

У кароткай размове даведаўся, што Валянціна Аляксееўна Баранава некалі працавала галоўным інжынерам жыллёва-камунальнай гаспадаркі Калінінградскага гарвыканкома. Пры размеркаванні кватэр брала хабар. Была асуджана да шасці гадоў. У калоніі паводзіла сябе станоўча, добра працавала, таму і вызвалілі яе амаль на два гады раней тэрміну.

Жыццё Валянціны Аляксееўны склалася нялёгка. Памерлі маці, муж, загінуў адзіны сын. І тады яна ўзяла прыёмнага. У час суда яму ўжо было 15 гадоў.

— А праз два дні ён ідзе ў армію,— на вачах жанчыны выступілі слёзы.— Я яшчэ паспею на яго зірнуць, я на крылах дамоў палячу...

— Шчаслівай дарогі, Валянціна Аляксееўна!

На такой вось радаснай ноце пачалося маё знаёмства з жаночай калоніяй. Але гэта было ледзь не адзінае светлае імгненне за тыя два дні, што правёў я тут. Наперадзе чакалі пакалечаныя лёсы, слёзы і боль...

Палова з тых, хто адбывае пакаранне,— моладзь да 28 гадоў. Сумная лічба. У гэтых дзяўчат наперадзе доўгае жыццё. Якое яно будзе?..

Прыкладна кожная трэцяя з асуджаных адбывае пакаранне за крадзеж, кожная пятая — за забойства, каля 15 працэнтаў — за рабаўніцтва, разбой, каля 10 — за хабар... Вось такая раскладка. Яна дае добрае ўяўленне, на якія сацыяльныя хваробы нам трэба звярнуць увагу ў першую чаргу.

Як яны ўжываюцца разам, такой разнастайнай кагортай з «рознакаляровым букетам» злачынстваў: інтэлігентная хабарніца і зладзейка-п'янчужка, прыстойная бухгалтарка і распусная прастытутка-венерычка?.. Напэўна, і тут, у калоніі, праяўляюць свае заганныя звычкі і імкненні, жывучы паводле законаў злачыннага свету? Не, гэта зусім не так. Ва ўсіх зняволеных, як адзначыла І. Вялікая, тут праяўляецца надзвычай вострае пачуццё несправядлівасці. І нейкага падману ці крывадушша ў адносінах адна да адной яны не дапусцяць. Няма сярод іх і ніякай «дыскрымінацыі» за ўчыненае злачынства. І жорсткая забойца, і выпадковая зладзейка — усе роўныя. І толькі адно яны не прабачаць ніколі — злачынства супраць дзяцей.

Неяк у калонію трапіла маладая маці. Каб выйсці замуж і выглядаць «чыстай» перад каханым, яны прывяла ў лес сваё пяцігадовае дзіця, прывязала да дрэва і спаліла яго жывым. Пра яе злачынства даведаліся асуджаныя. Дзетазабойцу хацелі ўтапіць у туалеце. Яе тэрмінова давялося перасылаць у іншую калонію. Такі ж лёс чакаў і мінчанку — урача, якая адрэзала вуха чужому дзіцяці (гэты выпадак, апісаны нядаўна ў друку, літаральна ўскалыхнуў усю сталіцу). Яе таксама давялося ратаваць ад расправы.

...У калоніі ёсць школа. Той, хто не мае сярэдняй адукацыі, абавязаны павышаць свае веды. Напрыклад, цыганка Лёля Арловіч адна праходзіць курс за пяты клас. Старанная. Вядома, далёка не ўсе выказваюць гарачае імкненне да ведаў. Многіх прываблівае толькі тое, што «вучаніцы» вызваляюцца ад «інвентаркі» — дадатковай работы па добраўпарадкаванні тэрыторыі калоніі. Нездарма самая хадавая адзнака — «троечка». Але ёсць і такія, хто, атрымаўшы сярэднюю адукацыю, пасля вызвалення паступілі ў тэхнікумы і нават інстытуты. У адной з гомельскіх школ, напрыклад, працуе настаўніцай былая асуджаная Галіна Г. Гісторыя Галіны — павучальная і разам з тым сумная: не заўсёды нам хапае дабрыні і чуласці да чалавека, які хоць раз аступіўся.

Галіна выхоўвалася ў дзіцячым доме, за злачынства была асуджана да трох гадоў. Адбыла ўвесь тэрмін, бо ў калоніі паводзіла сябе вельмі дрэнна. Праўда, начальнік атрада заўважыў у дзяўчыне адметную струнку — Галіна цягнулася да кніг. І вось яе прызначылі бібліятэкаркай. Лепш пачала і вучыцца.

Пасля вызвалення Галіна вырашыла паступіць на вучобу ў Гомельскі чыгуначны тэхнікум. Там зірнулі на атэстат, выдадзены школай № 6, і са здзіўленнем вярнулі дакументы назад:

— Такой школы мы не ведаем.

Ну як было не адчаяцца дзяўчыне ў тыя хвіліны! Але яна знайшла ў сабе сілы, паступіла на завочнае аддзяленне Мазырскага педінстытута. Калі ўладкавалася на працу ў школу, паляцелі ананімкі ў гарана: хіба можа такі чалавек выхоўваць дзяцей? Усё ўжо ішло да звальнення... І тады Вера Аляксандраўна Ліпаева, якая працавала ў калоніі нампалітам, надзела сваю парадную форму і пайшла ў аблана.

— Не стаўце на чалавеку крыж! Мы ёй верым!

Галіна Г. працуе ў школе і цяпер. Не горш за іншых.

Жыццё ў калоніі ідзе па заведзеным рэжыме. У 6 гадзін раніцы — пад'ём, сняданак. Затым — 8-гадзінны рабочы дзень. Застаецца і вольны час. Рэгулярна праходзяць чытацкія канферэнцыі, дыспуты, гутаркі з медыкамі, юрыстамі, былымі воінамі-інтэрнацыяналістамі, шэфамі з фабрыкі імя 8 Сакавіка. Прычым, калі для нас, людзей на волі, усё гэта часам здаецца заштампаваным і будзённым, то яны, асуджаныя, успрымаюць гэтыя мерапрыемствы абвострана-неабыякава. Часам яны заканчваюцца адзіным дружным плачам, у якім выказваецца ўсё: і боль за змарнаваны лёс, і неадольны смутак па волі.

— Што для вас тут, у калоніі, самае цяжкае? — пытаўся ў жанчын.— Праца? Пастаянны нагляд кантралёраў?

— Не,— адказалі яны.— Праца для нас нібы аддушына. У ёй мы забываемся. І работнікі калоніі ставяцца да нас спагадліва, і вольны час ёсць дзе бавіць. Але невыносна цяжка пераносіць расстанне з роднымі, мы зайздросцім нават дрэўцу, якое расце на волі...

Н. З.: «Ехалі ў Светлагорск 2 гадзіны. Быў стан душэўны незразумелы, уся акамянела ад добрага, радаснага, не верылася, што еду ў аўтобусе. Жанчыны спявалі, жартавалі, а я не магла налюбавацца на лес, на дарогу, страціла мову. Бо столькі прыгажосці навокал, якой раней не заўважала, не цаніла!..»

Г. В.: «Калі выйшла з КП, то мне яшчэ не верылася, што я іду на прыпынак і паеду дамоў. Мне здавалася, што мяне вязуць у бальніцу ў суправаджэнні. Я нават некалькі разоў азірнулася. Купіла білеты, зайшла ў тралейбус. І калі тралейбус паварочваўся, я ўбачыла будынак нашай школы, і мне так хацелася плакаць, што я на гэтым баку агароджы, што я вольная, што так усё побач, а там людзі, як птушкі ў клетцы. Еду і мне ўсё роўна не верыцца...»

Гэта ўрыўкі са шматлікіх лістоў, якія былыя асуджаныя прысылаюць нампаліту (Ірына Уладзіміраўна ўвогуле чалавек мяккі, душэўны, да яе ідуць з самым набалелым).

Дзіцячы сад у калоніі... Што можа гучаць больш кашчунна і неверагодна! Але ён ёсць — і ад гэтага нікуды не дзенешся. Дзеці выхоўваюцца тут да двухгадовага ўзросту. Затым, калі асуджаная працягвае адбываць пакаранне, а сваякі адмаўляюцца забраць малое, яно накіроўваецца ў дзіцячы дом.

Сумна глядзець на гэтых дзяцей, зачатых у асноўным пасля п'янага разгулля ці ў прытоне. У большасці з іх парушана цэнтральная нервовая сістэма.

Калі тут, у калоніі, маці-зязюлі вымушаны прыглядваць і карміць сваіх немаўлят (гэта дае пэўныя льготы), то, апынуўшыся на волі, многія пакідаюць іх на волю лёсу. У свой час у калоніі выхоўвалася дачка Ларысы Пракаповіч. Маці адбыла тэрмін і забрала яе з сабой. Неўзабаве Пракаповіч зноў апынулася за сцяной калоніі. Цяпер давялося выхоўваць яе сына. Калі ў Ларысы запыталіся, дзе знаходзіцца дачка, яна адказала: «Не ведаю»...

І. Вялікая паказала мне неверагодны па сваёй трагічнасці дакумент — ліст хлапчука.

«Начальніку міліцыі. Добры дзень! Піша вам мамін сын. Мая мама сядзіць у вас у гэтай каморцы ці яна ўжо дома? Напішыце мне, калі ласка, адрас, дзе яна цяпер знаходзіцца. Завуць мяне Дабравольскі Слава, а маці Сулімская Ірына Яўгенаўна. Вось вам мой адрас: Віцебская вобласць, Полацкі раён, Ветрынская школа-інтэрнат. І перадайце ёй гэты ліст:

Добры дзень, дарагая мамачка! Піша табе твой сын Слава і твая дачка Наташа. Мы вельмі хочам, каб ты нам прыслала пасылку ці пісьмо. Дарагая мамачка! Віншуем цябе з Міжнародным жаночым днём — 8 Сакавіка. Мама, я ўмею вязаць і ўжо звязаў шалік, давязваю камізэльку. Я добра вучуся, за другую чвэрць атрымаў толькі 4 і 5. Да сустрэчы, мама! Чакаю адказу, як салавей лета. Пішы, я буду чакаць».

Уся трагічнасць у тым, што ліст Славы датаваны сакавіком гэтага года, а яго маці была выпушчана з калоніі яшчэ летась у ліпені. Амаль за цэлы год яна так і не наведала сваіх дзяцей!..

Доўгая гутарка са зняволенымі адбылася ў атрадзе № 8. У ім знаходзяцца жанчыны, якія трапілі ў калонію не ўпершыню. Некаторыя пабывалі тут па пяць разоў, некаторыя — па сем. Адна са зняволеных у агульнай колькасці «адсядзела» 30 гадоў і апошні раз выйшла адсюль сівой...

У асноўным такія «доўгажыхары» — зладзейкі. Што ж прымушае іх, нягледзячы на непазбежнасць пакарання, зноў і зноў брацца за свой ганебны промысел? М. Малашанка (у калоніі — сёмы раз) адказала так:

— Гэта ўжо ў крыві. І не трэба чужое, а рукі самі цягнуцца...

А. Мітраковіч (агульны «стаж» у калоніі 19 гадоў) растлумачыла ўсё інакш:

— Выйдзеш на волю — куды паткнуцца? Жылля няма. На работу нідзе не бяруць. Міжволі пойдзеш у прытон. А адтуль дарога адна — сюды...

Можна скептычна паставіцца да гэтых слоў, але трэба прызнаць, што доля ісціны ў іх ёсць. Да мяне ўвесь час падыходзілі асуджаныя (большасць з іх тыя, што трапілі сюды ўпершыню) і прасілі толькі пра адно:

— Напішыце, каб пасля вызвалення нас бралі на работу. Дапамажыце! Паверце! Інакш нас чакае такі ж лёс...

Сапраўды, не сакрэт, што былых асуджаных бяруць на работу вельмі неахвотна. З аднаго боку, кіраўнікоў можна зразумець: баяцца, як бы чаго не выйшла. А з другога? Хіба не натуральная крыўда былых асуджаных? Яны ж лічаць, што сваё ўжо атрымалі...

Цяпер выказваюцца прапановы аб неабходнасці лібералізацыі нашага заканадаўства. Аднак, як паказваюць апытанні, 80 працэнтаў насельніцтва стаяць на тым, што пакаранне злачынцаў павінна быць гэткім жа строгім. Прызнаюся, да гэтых «працэнтаў» адносіў сябе і я. Толькі пасля наведвання жаночай калоніі перакананасць пахіснулася...

Не трэба забываць, што задача грамадства — не толькі пакараць злачынцу, але і перавыхаваць яго. Ці прыносіць у гэтым сэнсе доўгатэрміновае зняволенне (асабліва жанчын) належны плён? Вось што думае наконт гэтага І. Вялікая:

— Чалавек, які трапіў сюды ўпершыню, спазнае і ўсвядоміць усё і за пяць месяцаў. Праз шэсць-сем гадоў асуджаная поўнасцю траціць цікавасць да жыцця, да свайго існавання.

Ад сябе дадам. Калі ў першыя гады асуджаная яшчэ трымаецца, беражэ сябе ад розных заганных спакус, то потым непазбежна «зрываецца». Да яе ліпнуць усе каланісцкія заразы: курэнне, наркотыкі, лесбіянства... Ад сябровак яна засвойвае поўны курс «школы злачыннасці» (тут ужо ніякая выхаваўчая работа не дапаможа) і выходзіць на волю з новымі задаткамі. Многія з асуджаных на доўгі тэрмін зноў трапляюць на лаву падсудных.

Магчыма, гэтыя думкі здаюцца спрэчнымі. Але яны заснаваны на рэальных прыкладах. Там, у калоніі, жыццё мае іншыя вымярэнні...

Фота Ігара САЎЧАНКІ

Заканчэнне. Пачатак на стар. 7

з пенай на вуснах даводзілі, што «самая лафа» на два гады ў войска афіцэрам ісці. Другія хітра намякалі, што іх чакае цікавая праца ў гаркоме камсамола, у міліцыі і бог ведае дзе яшчэ. Толькі не ў школе. Трэція ж прылюдна кляліся ў любові да школы і нечакана жаніліся з мінскімі дзяўчынкамі, у якіх акрамя сталічнай прапіскі — о, выпадковасць! — бацькі сядзелі ў «высокіх» крэслах.

А пра дзяўчат-аднакурсніц і казаць няма чаго! Недзе пасля трэцяга курса як навыперадкі кінуліся: хто хутчэй замуж выйдзе. І выходзілі. І палова — за «мінчан». А тыя, каму не пашанцавала, на ўсё ішлі: фіктыўны шлюб, купля прапіскі, даведка ад псіханеўролага, што ў школе працаваць нельга... Абы не ў вёску! І не паехалі.

А паехалі МЫ! Толькі чым мы горшыя за тых, хто ў Мінску застаўся?! Чым? Ведамі? Дыпломам? Дык вунь сябар мой: чырвоны дыплом меў, з першага па пяты курс у бібліятэцы праседзеў. А паехаў у вёску. Бо прапіскі няма.

Чаму некаму — і Мінск, і кватэра, і тэатры, і магазіны розныя, а мне — толькі вёска, школа, вучні напалову дэбільныя, фільмы індыйскія ў вясковым клубе ды, прабачце, прыбіральня на вуліцы за сто метраў?!

Хто мне верне тыя гады, што правёў тут? Хто?! Рамантыка? Не трэба! Усе вёску хваляць, а саміх з Мінска калом не выганіш! Будзем шчырыя. Нам не пашанцавала. Проста н е п а ш а н ц а в а л а! Не было «валасатай» рукі, не ўчапіліся за горад. Куды дзецца?! А калі сям'я? Тут нават калі і ёсць магчымасць свабодны дыплом набыць, дык сам хіба адмовішся? Бо дзе жыць? На што? Шэсцьдзесят — семдзесят рублёў за кватэру даваць? Адкуль?.. Вось і едзеш сюды, у гэтую вёску чортаву...

Добра яшчэ, што грошы неблагія ідуць. Ледзь не паўтары стаўкі набягае. А яшчэ вячэрняя школа, завочная, гурткі розныя... Якая-ніякая, а хоць нейкая кампенсацыя за загубленую маладосць!.. А вы мне яшчэ пра нейкія высокія матэрыі расказваць будзеце. «Ах, вёска!..» Не пашанцавала проста... Вунь мая знаёмая за тры гады, што ў вёсцы жыла, у партыю ўступіла. «Усё,— уздыхае,— не дарма мёрзла». А вы... Эх!..

## Голас другі. ДЫРЭКТАР ШКОЛЫ

— Ну як тут працаваць?! Або пенсіянеры, або спецыялісты маладыя. Маладыя, адукаваныя, а не ведаеш, радавацца ім ці не. Колькі іх перад маімі вачыма правярнулася! Гастралёры! Ведаюць толькі «давай!», а патрабуеш чаго, дык пачуеш у адказ: «Ах, мы не абавязаныя! Ах, нас не вучылі гэтаму!»... Толькі і думаюць, як адбыць тры гады, грошай ухапіць паболей ды ўцячы хутчэй!

Што ім гэтыя вучні, паспяховасць іх! «Фі, бацькі п'яніцы! Фі, у тэатрах не былі!..» А ты звазіў іх у тэатр той? Паспрабаваў хоць?..

Самае страшнае — гэта тое, што прыязджаюць яны да нас, як у... ссылку. Так, так! І думкі ў іх не пра тое, каб нешта пакінуць пасля сябе, што зрабіць, каб людзі добрым словам успомнілі. Не! «Радуйцеся, што мы ўвогуле ў вашай школе працуем! — крычаць іх вочы.— Што прыехалі ў вашае (капрызны жэст!) Пагарэлае (Негарэлае, Закарэлае і г. д.)! У вашай «дыре» і працаваць, раскрывацца не хочацца!..

А гэтае «высокомерие»! А выраз твару, з якім некаторыя з маладых, што лічаць сябе асаблівымі інтэлектуаламі, у клас уваходзяць! На ім і боль, і пагарда, і адчай, як у чалавека, які пасля сталічных дэлікатэсаў вымушаны грубую ежу есці. І дзеці адчуваюць гэта. І помсцяць за гэта кепскімі паводзінамі на ўроку, непавагаю, абыякавасцю да прадмета. Такія адносіны напамінаюць ненавісны шлюб, у якім ні ён, ні яна не знаходзяць радасці і мараць толькі пра тое, каб гэта хутчэй скончылася.

Як, як пераканаць іх, што цэнтр зямлі там, дзе ты стаіш, а не там, дзе большы магазін?! Што лепш: быць вясковым, але НАСТАЎНІКАМ, чым гарадскім, але КЛЕРКАМ?! Якую павагу, якую любоў да роднае вёскі яны выхаваюць у вучняў, калі ўся іх сутнасць крычыць: «У Маскву! У Маскву! У Маскву!..»

## Голас трэці. МАЛАДАЯ НАСТАЎНІЦА

— Ладна, у горадзе з жыллём праблема. Горад усё ж. А то — у вёсцы! Жывеш у якой-небудзь бабкі Матруны. У закуточку. І тое не бяры, і тое не ўключай, і святло не палі, і гасцей не вадзі... Добра, калі тэлевізар ёсць! А калі і яго няма? І гэта ўсё пасля пяці-шасці гадоў жыцця ў студэнцкім інтэрнаце?! Ехаць к чорту на рогі, каб не мець права чытаць калі хочаш або знаёмага хлопца на гарбату запрасіць?!

Некаторым шанцуе — у інтэрнаце жывуць. Ды ці лепш там? Заходзіла неяк узімку да настаўніц знаёмых. Пяць іх у адным пакоі, за сцяной вучні з далёкіх вёсак жывуць, так што ні бялізну памыць, ні гасцей прыняць («О, да настаўніц мужчыны ходзяць!»), ні адпачыць пасля работы. Ды яшчэ халадэча такая, што — брр! — не тое што планы да ўрокаў пісаць, а ўвогуле жыць не хочацца. Сядуць вакол электранагравальніка, і то, каб дырэктар не ўбачыў (тэхніка бяспекі!), завернуцца ў коўдру з нагамі, так і сядзяць доўгія зімовыя вечары, лічаць дні да летняга адпачынку ды паціху сваю жаночую долю аплакваюць. Бо ім не тое што любіцца, а пагаварыць, акрамя сябе, няма з кім. У клубе такая ж самая халадэча, у кіно схадзіць — рызыкнуць здароўем трэба, дый фільмы там бачаныя-перабачаныя. Хіба што танцы пасля... Ды, па-першае, там свае ж школьнікі пераважна, а па-другое, заўтра ж па вёсцы плёткі пойдуць: з кім танцавала, хто дамоў праводзіў... А патрэцяе, і танцаваць няма з кім. Заляцанні ж вясковых механізатараў прыняць... Гм, лепш адной быць. Праўда, бываюць выключэнні. Нават замуж выходзяць. Але гэта калі ўжо дзяўчыне за дваццаць пяць пойдзе, калі няма куды і няма да каго ехаць.

Але самае цяжкае — духоўны голад. Пражывеш год у вёсцы, а такое адчуванне, нібы ўсё жыццё міма цябе прайшло. Вось і атрымліваецца: дырэктару да нас ніякае справы няма — абы планы пісалі, загадчыку райана абы намі дзірку ў якой школе закрыць, а старшыня калгаса ўвогуле чужынцамі і лайдакамі лічыць. І нікому мы акрамя сябе не патрэбныя.

У калгасе летам пуцёўка ў дом адпачынку «гарэць» будзе, а настаўнікам не дадуць. Чужыя!..

## Голас чацвёрты. СТАРШЫНЯ КАЛГАСА

— Маладыя настаўнікі? Такая сіла, такія магчымасці... Гэта ж такія справы можна ў калгасе зрабіць!.. А яны пазалазяць у свае норы ды толькі скуголяць: «Не любіце нас, не даяце нічога!..»

А каму я ў першую чаргу даваць павінен пуцёўку тую ж: даярцы, у якой ні выхадных, ні прахадных» — ні ўлетку, ні ўзімку, ці настаўніцы, у якой сорак восем дзён адпачынак летам?! Га?

«Ах, калгас не цікавіцца, як мы жывём!..» А яны цікавяцца, як калгас жыве?! Былі яны хоць раз на ферме якой? Выступілі хоць раз з лекцыяй якой, га?

«Жылля не дае...» А што мне рабіць, калі ў мяне трэць калгаса не ўкамплектаваная кадрамі спецыялістаў. Дый тыя, што ёсць, уцякаць сабраліся. Чаму? Усё з-за таго, з-за жылля.

А, і гаварыць не хочацца!.. Прыязджаюць пасля інстытутаў сваіх — гатовая схема ў галаве: «Так павінна быць!» А як яно на самай справе робіцца ды дастаецца, хіба цікавіць іх?! Адно слова: «Не баліць ім!..»

Вось і выгаварыліся ўсе патрохі. І ўсе ўпэўненыя ў слушнасці сваіх довадаў, і кожны вінаваціць другога. Чыя тут праўда, чыя віна? Калі лічыць, што гэта абстрактныя героі, дык пачухаеш патыліцу ды адыдзеш прэч, адкінуўшы гэтую ж «Крыніцу» далей ад вачэй. А калі сам вымушаны «варыцца» сярод гэтых герояў ды яшчэ быць у «шкуры» некага з іх і хочаш звесці ў адзін вузел усе гэтыя канцы?..

## ЭКСКУРС (заканчэнне)

...Але надзеі нашы не апраўдаваліся. Праходзіў год. Аднаго настаўніка за гэты час забралі на павышэнне ў раён, другі піць пачаў, а трэцяя ў горад уцякла... І сталі мы чакаць вясну. Бо за вясной прыйдзе лета, а там, дасць бог, прышлюць новых настаўнікаў. І можа, тады...

Летам зноў прыязджалі маладыя настаўнікі, і ўсё паўтаралася нанова. Мы чакалі і спадзяваліся, спадзяваліся і чакалі. І нарэшце дачакаліся...

Мо мне і цяпер не трэба губляць надзеі?..

Асіповіцкі раён,
Пагарэльская СШ



Генадзь ДАВЫДЗЬКА

## МАЛЮНАК ДЗЯЦІНСТВА

Зімовы дзень быў стылы, ціхі, шэры.
Кажух не грэў.
Пазвоньвалі хрустальныя фужэры
вялізных дрэў.
І ў гэтай музыцы, трывожнай
і лірычнай,
быў сэнс і лёс.
Звычайны, пэўны, просты,
фантастычны,
як сам мароз.
Стаяў хлапчук — маленькі перад
лёсам —
і слухаў ён,
як вецце заінелае з нябёсаў
прымае звон.

◆ ◆ ◆

Цудоўны свет, дзе ёсць Дабро
І Зло,
дзе непарыўным блытаным вузлом
навечна звязаны Нянавісць
і Каханне,
Надзея,
Вера
і Расчараванне.
У кожным Шчасці прысмак Страты
ёсць,
як ёсць у старасці
пачуццяў маладосць...
Усё складана ў гэтым дзіўным свеце,
дзе мы шукаем Прастату,
як дзеці.

## СЛОВА

Слова слагаются в романы
и в приговоры, и в стихи.
Словами вяжутся обманы
и отпускаются грехи.

Слова... Слова...
Они — мгновенье.
Они живут, пока летят,
но только искра, дуновенье —
и нас слова испепелят.

Уйдем —
подсудные и судьи...
Но не оставят нас слова!
Сейчас мы здесь, как слово «люди»,
потом как «листья»,
«дождь»,
«трава»...



Пісаць вершы Генадзь Давыдзька пачаў яшчэ ў школе. На рускай мове. Беларус, ён з 6-ці гадоў жыў на Калыме. Скончыўшы Уладзівастоцкі інстытут мастацтваў, працаваў у Арэнбургскім тэатры і толькі ў 25 гадоў вярнуўся на Беларусь і ўбачыў, як вырас дуб, што пасадзіў колісь разам з бабуляю ў роднай вёсцы Папоўка Сенненскага раёна. Неўзабаве ён стаў акцёрам купалаўскага тэатра і напісаў першыя вершы на роднай мове.

## ОБЩЕЖИТИЕ ГПТУ

Комфортабельные клетки.
Клеток девять этажей.
В них девчонки-малолетки
проживают без мужей,
без родителей, без братьев,
без желания зубрить,
без зарплаты, чтобы платье
заграничное купить.
На стене висит Есенин,
рок-кумир, ковер-олень.
В окна ломится весенний
полувечер-полудень.
Мимо окон, ухмыляясь,
силой мартовской пьяны,
нецензурно злясь и лаясь,
ходят парни. Табуны.
Ох, и хочется, и колко
тем, что здесь, и тем, что там.
«Познакомилась, а толку...
Врун, нахал, развратник, хам...»
В клетках девочки как птицы,
да и некуда лететь...
Только вниз. Им не сидится —
безработица сердец.
Все же верх берет природа.
Любопытны и нежны,
выйдут девочки к уродам,
покидая этажи...
И вернутся, как хмельные,
все познавши наконец,
и хронически больные
безработицей сердец.

## ПОКЛОН ХУДОЖНИКУ

Я жил взахлеб и твердо верил:
во всем достигну славы, звезд.
Но вот Художник мне доверил
палитру, краски, кисти, холст...
Предупредил, что я рискую,
но я уже спешил творить!
Я в ночь вошел, как в мастерскую,
где все должно мечте служить.
Без мук, без страсти, без эскиза
я краску взял на колонок,
я был уверен: Мона Лиза —
еще не верх, не потолок!
И мир забился, вырываясь,
воображеньем взятый в плен,
душа безумная металась
в переплетеньи жарких вен.
Меня пронзало предвкушенье
шедевра, чуда, божества.
Казалось — Истины мгновенье
вот-вот откроется с холста...
Но краски мне не поддавались,
рука дрожала, холст был мал,
на нем никак не умещалось
все то, что я любил и звал.
Вошел рассвет. Сквозь вязь растений
на холст пролился солнца лак,
и стало ясно: я не гений...
Я жил как мог, а мог не так!
Но я смогу. Я все познаю.
Я у Сомнений поучусь.
Ночь не потеряна, я знаю:
придет Художник — поклонюсь.

**Леанід ДАЙНЕКА**

# АГНІ і ЦЕНІ



## Войшалк

ён жа Вышелк, Вышлег, Войселк, Волштынік, Волстынік, старэйшы сын Міндоўга, князь Навагародскі, вялікі князь Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. У ягоных жылах цякла балцкая і славянская кроў. Пражыў ён усяго сорак пяць гадоў (1223—1268) і за такі кароткі зямны век паспеў некаторым сваім сучаснікам запомніцца як бязлітасны кат-душагуб, іншым — як мудры дзяржаўны дзеяч і асветнік, які запаліў святло пісьменства і кнігачэйства, заснаваўшы ў 1262 годзе Ла́ўрышаўскі манастыр «на Немне межи Литвою и Новогородком». Але галоўная заслуга Войшалка Міндоўгавіча (і гэта з кожным годам бачыцца ўсё выразней) у тым, што ён з'явіўся фактычным заснавальнікам магутнай балцка-славянскай дзяржавы, якая атрымала назву Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага і стала на некалькі стагоддзяў агульнай радзімай і домам для літоўцаў, беларусаў і ўкраінцаў. Бацька ягоны Міндоўг толькі ўскапаў зямлю, толькі падрыхтаваў месца, а дрэва новай дзяржавы пасадзіў менавіта Войшалк.

Чым глыбей уваходзіш у нашу даўніну, тым болей наўкол цябе «легендарнага туману». Амаль не бачна твараў, не чутно слоў. Толькі — імёны... Вось адно з іх — Войшалк. Для сябе, для свайго духоўнага ўжытку я заўсёды «расшыфроўваю» няпростыя нязвычныя імёны. Імя Войшалк я расшыфраваў як «вой шалёны». З «воем» усё зразумела. Воін, рыцар, змагар. А чаму «шалёны», па-руску «бешеный»? Пры ўсёй катэгарычнасці, завостранасці слова яго таксама можна вытлумачыць вельмі напружанай, вельмі драматычнай сітуацыяй, якая складвалася ў сярэдзіне XIII стагоддзя на берагах Нёмана і Віллі, дзе продкі літоўцаў адвеку суседзілі з продкамі беларусаў. Вялікая бяда ішла на гэтую зялёную зямлю. З усходу і поўдня націскала татара-мангольская конніца, «псы, што кормяцца чалавечым мясам». З захаду і поўначы, з Прусіі і Лівоніі, сталёвым таранам няспынна білі і білі крыжакі. Справа ішла пра само выжыванне аўкштайтаў і жамойтаў, крывічоў і дрыгавічоў, бо, напрыклад, прусы, іхнія заходнія суседзі, паміралі ўжо вёска за вёскаю, чалавек за чалавекам, сын за бацькам пад капытамі закаваных у браню крыжацкіх коней.

Нашы продкі (і за гэта мы сёння павінны ім пакланіцца) вельмі своечасова вылучылі са свайго асяроддзя адважных і мудрых вояў. Адзін з іх — Войшалк. Нарадзіўся ён, мяркуючы па ўсім, у Варуце, у горадзе свайго бацькі кунігаса Міндоўга. Пра яе ў «Гісторыі Літоўскай ССР (Вільнюс, «Мокслас», 1978) напісана: «месцазнаходжанне не ўстаноўлена». Беларускі вучоны Міхась Ткачоў лічыць, што гістарычная Варута знаходзілася на месцы сённяшніх Карэліч над ракою Рутай.

У нарысе «Гістарычны лёс Літоўскага Палесся» вядомы беларускі этнограф Адам Кіркор пісаў: «...У Міндоўга быў старэйшы сын Войшалк, у праваслаўі Раман, што нарадзіўся ў 1223 годзе ад князёўны цвярскай. Юнацтва сваё ён правёў пры розных дварах, быў харобры, але, як запэўніваюць летапісцы, вельмі жорсткасардэчны. Лівонцы ліслівілі яму, а папа абяцаў зрабіць каралём Русі, калі прыме каталіцтва. Войшалк, аднак, адчуваў, што пры жыцці бацькі для яго няма справы. Ён пайшоў у Палонінскую абіцель на Валыні, пастрыгся ў манахі. Потым пачаў падарожжа на Афонскую гару, але, не дабраўшыся туды, вярнуўся на радзіму і з архімандрытам Елісеем, сынам князя Траняты, на беразе Нёмана, непадалёку ад Навагрудка, заснаваў абіцель. Туды дайшлі весткі пра смерць бацькі. Баючыся за сваё жыццё, ён уцёк у Ляшчынскі манастыр каля Пінска. Між тым у Навагрудку адбываліся смуты... Тады Войшалк здымае клабук і становіцца гордым мсціўцам. І рускія і літоўцы адразу яму пакарыліся».

І грозны князь, і сціплы манах, і падарожнік, і страсны прапаведнік летапіснай мудрасці, і бязлітасны помснік. Хто ж ён, Войшалк?

Тут абавязкова трэба адзначыць, што як дзяржаўны дзеяч, як палітык Войшалк заўсёды адстойваў інтарэсы Навагародскай (Навагрудскай) зямлі. Да яго Галіцка-Валынскі летапіс успамінае ў Навагрудку яшчэ аднаго князя: «По том же лете (1235 г.— **Л. Д.**). Данил же возведе на Кондрата Литву Миндога, о Изяслава Новогородского».

Навагародак XIII стагоддзя — адзін з магутнейшых гарадоў Панямоння. Ф. Гурэвіч, якая амаль 30 гадоў вяла тут раскопкі, у кнізе «Старадаўні Навагрудак» (Ленінград, «Наука», 1981) піша, што ён быў забудаваны багатымі дварамі, многія пабудовы на гэтых дварах былі двухпавярховыя, з вялікімі зашклёнымі вокнамі (рэдкасць для таго часу!), са сценамі, пакрытымі яркімі роспісамі, што аснову дабрабыту яго жыхароў складалі ювелірнае рамяство і гандаль.

Навагародскія феадалы і купцы, адчуўшы смяротэльную небяспеку, якая ішла ад крыжакоў і татара-мангольскіх ханаў, пачалі збіраць у адзіную дзяржаву, у адзін кулак землі Панямоння. Напачатку яны выкарысталі ў сваіх мэтах кунігаса Міндоўга, які, ратуючыся ад помсты супернікаў, прыбег з суседняй Літвы, а потым — ягонага сына Войшалка. Такія запрашэнні князёў былі ў звычаях таго часу. У 1265 годзе гэткім жа самым чынам пскавічы прымуць да сябе нальшчанскага кунігаса Даўмонта з дружынаю, і ён так праславіцца ў барацьбе за Пскоў, што пасля смерці яго аб'явяць святым.

Цяпер самы раз высветліць, што ж гэта такое — летапісная Літва і дзе яна ў той час знаходзілася. У гэтым пытанні я салідарны з канцэпцыяй вядомага беларускага даследчыка Міколы Ермаловіча. У артыкуле, змешчаным ў кнізе «Праблемы этнічнай гісторыі балтаў» (Рыга, «Зінатне», 1985), ён піша: «Старадаўняя Літва ўваходзіла клінам паміж Полацкай, Турава-Пінскай і Навагародскай землямі... Атаясамленне ўласна Літвы XII—XIII стст. з якой-небудзь часткай сучаснай Літвы неправамернае. Яна знаходзілася ў Верхнім Панямонні прыблізна паміж Мінскам і Навагрудкам з усходу на захад і паміж Маладзечнам і Ляхавічамі з поўначы на поўдзень, што пацвярджаецца і наяўнасцю тапаміма «Літва» ў гэтым «рэгіёне». Ад сябе дадам, што падобны «балцкі востраў» (племя голядзь) знаходзіўся ў той час непадалёку ад Масквы і паступова асіміляваўся славянамі.

Калі паставіць поруч Міндоўга і Войшалка, то апошні, на маю думку, вышэйшы ў маральным, чыста чалавечым плане. Міндоўг мітусіўся, мяняў саюзнікаў, хрысціўся то ў праваслаўе, то ў каталіцтва, а потым зноў вяртаўся ў паганства. Дайшло да таго, што ён настроіў супроць сябе ўсіх — на ягоную дзяржаву рушылі з мячом і жамойты, і немцы, і яцвягі, і галіцка-валынскія князі, якія валодалі ў той час Берасцейскай зямлёю, і палаўцы. Войшалк жа праявіў сябе тонкім дальнабачным палітыкам і дыпламатам. Ён таксама быў аблытаны кампрамісамі — то, каб памірыцца з галіцка-валынскімі князямі, аддаваў за аднаго з іх сваю сястру, то зачыняўся ў манастыры, то ўручаў усю сваю дзяржаву (!) Раману Данілавічу Галіцка-Валынскаму. Заўважце: не Шварну ўручаў, мужу сваёй сястры, а ягонаму брату. Войшалк вельмі добра бачыў унутраныя слабасці Галіцка-Валынскай зямлі і вельмі ўмела распальваў супярэчнасці паміж сынамі князя Данілы Галіцкага. Галоўная ж мэта ягонага жыцця — умацаванне Навагародскай зямлі, яе саюз з Літвою. Літва на той час была апошняй язычніцкай зямлёй Еўропы. Агонь Пяркунаса нязгасна гарэў над зялёнымі дубамі. Паганства было перашкодаю аб'яднанню Літвы з Навагародкам, і Войшалк будуе Лаўрышаўскі манастыр, тры гады жыве ў Палонінскай абіцелі, дзе падшуквае адукаваных манахаў, перапісчыкаў кніг.

Страснае, бурлівае жыццё, як полымя, узвітае парывістым ветрам! Ён пражыў усяго сорак пяць гадоў. Князь Леў Данілавіч, брат Шварна, запрасіў Войшалка ў Міхайлаўскі манастыр і ў застоллі па-здрадніцку страшным ударам шаблі засек яго — аж мозг пырскнуў на сцяну.

Што ж можна сказаць пра Войшалка? Дзякуючы такім адважным і нястомным людзям, як ён, сталі на ногі, захавалі сваю незалежнасць Беларусь і Літва, і нашых продкаў не напаткаў жахлівы лёс прусаў з яцвягамі, якія загінулі, ад якіх засталіся толькі ўспаміны ў старадаўніх пажоўклых летапісах.

Мал. Уладзіміра ЛУКАШЫКА




# АДРАДЖЭННЕ ГАСПАДАРА,

**Маналог Аляксандра Міхайлавіча ЛАПАЦЕНТАВА, старшыні калгаса «Радзіма»**

— Ах, як бы ўсіх задаволіў гэтакі цукровы старшыня — чысцёха! Каб хадзіў па гнаі ды абцасікі не запэцкаў. Каб мільёны былі ў руках, а ўсё праскоквала без сучка і задзірынкі. Кіраваў бы такімі рознымі, складанымі людзьмі, а кожнаму — любы, дарагі...

Не, не бывае такога ў жыцці. Дый не трэба, бадай. Вартае жалю гэтае відовішча, калі кіраўніка больш за ўсё клапоціць, як яму ні з кім не сапсаваць адносіны, быць усім добрым. Так, часам не абысціся без кампрамісаў. Але ўжо ніяк не абысціся і без прынцыповасці, а іншы раз і цвёрдасці. Чаго варты старшыня, які не ўмее вылучыць галоўнае і не бачыць гэтае галоўнае за гарызонтам звычнага мыслення! Няздольны падставіць свае плечы пад любы цяжар адказнасці! Каму прынясе карысць яго двудушнае «так», калі вопыт, перакананні, сумленне старшыні кажуць «не». А згадзіцеся, каб цвёрда сказаць «не», калі ўсе чакаюць «так», аднае толькі мужнасці не хапае. Трэба быць душою справы, каб вось так па-бальшавіцку змагацца за яе. Змагацца за агульную справу за добрага і вельмі блізкага чалавека больш настойліва, чым за самога сябе.

У адной з кніг пра Кірылу Пракопавіча Арлоўскага, чыё імя носіць калгас «Рассвет», знайшоў дужа цікавы адказ на традыцыйнае пытанне журналістаў: у чым сакрэт іх дасягненняў!

— У чатырох «не»: не гультайнічаць, не п'янстваваць, не красці, не пускаць словы на вецер...

І ўвесь адказ. І ўся да геніяльнасці простая формула. А каб яна стала законам жыцця, патрэбны быў час. Найстражэйшая, на мяжы жорсткасці дысцыпліна. Чысціня. І бясконцая вера.

Так, цяпер іншы час. Іншыя ўмовы. Але не губляюць сваёй дзейснасці маральнага закону чатыры «не» Арлоўскага ў любой гаспадарцы, дзе па-сапраўднаму хочуць дамагчыся поспеху. Дзе пра справу думаюць сур'ёзна і грунтоўна. Дзе не вераць у цуд і не шукаюць універсальных лекаў ад усіх бед.

Ведаеце, што найбольш губіць гаспадара! Гэта калі ён, паверыўшы ў існаванне панацэі, бяздумна, стрымгалоў спяшаецца выпрабаваць гэтыя лекі ў сябе, у сваёй справе. Што і казаць, і брыгадны падрад, і арэнда — выдатнае выйсце з безнадзейнага становішча. Гэта рэальны шлях ад адраджэння гаспадара. Я гэта ўсё выдатна разумею. Але не магу зразумець другое: чаму ўсё гэта павінна ўводзіцца спешна і ўсюды! Без уліку рэальнай сітуацыі канкрэтнае гаспадаркі. Усё гэта дужа выдае на чарговую кампанію. А колькі было гэтых кампаній і эксперыментаў! Страшэнна стаміліся ад іх і людзі, і зямля...

І нельга так прымітыўна тлумачыць складанасці ўвядзення тае ці іншае навацыі: маўляў, віною ўсяму руціннае мысленне кіраўніка, яго бюракратычныя высілкі. Вядома, такіх фактаў аж занадта. Але гэта не азначае, што скрозь адно і тое ж. А менавіта так часцей усяго тлумачаць цяжкасці ўвядзення газетныя артыкулы, пра гэта штодня гавораць нам па радыё і тэлебачанні.

Выходзіць, што гаспадар сам сабе вораг, калі супраць новага, эфектыўнага. Замест таго каб дзвюма рукамі схапіцца за падрад ці арэнду, ён робіць падкопы, спасылаецца на неіснуючыя цяжкасці. Словам, паводзіць сябе, як зацяты бюракрат.

Каб усё тлумачылася гэтак проста... Я перш за ўсё — за сістэму. За стабільнасць. Я не веру, што гаспадарку можна паставіць на ногі рыўком. Усё роўна як перакулены дагары коламі трактар. Падагналі тэхніку, якая ёсць самая магутная, падчапілі тросам, рывок — і ўсё ў парадку. Ды які там парадак... Толькі выveраная на справе сістэма, толькі паслядоўнае вырашэнне комплексу праблем і найістотнейшых пытанняў могуць забяспечыць стабільны рост як вытворчых паказчыкаў, так і дабрабыту людзей.

Я старшынёю ўжо сем гадоў. Калі прыняў калгас, было мне дваццаць шэсць. Энергіі — мора. Жаданняў — яшчэ больш. Вядома, праз месяц-другі праблемы, якія не рашаліся дзесяткамі гадоў, бы пятлёю на шыі сышліся. Але адступаць не было куды.

І вось, уявіце сабе, за гады па дэталях, па вінціках збіраеш машыну. Запускаеш яе. Рэальна бачыш эфектыўнасць і аддачу. І раптам табе кажуць: «Што машыну сабраў — малайчына. Але за руль не сядай. Няхай яна працуе сама».— «Чакайце, а чым тады мне займацца!» — «А ты ёй дарогу пракладвай. Змазвай. Запраўляй».

Брыгадны падрад, арэнда — гэта тая ж машына, якая прыводзіцца ў рух учарашнімі выканаўцамі чужое волі. Атрымліваецца, што старшыня ўсё роўна як і не патрэбны ўжо. Вядома, не кожны пойдзе на гэта самахоць. Але, з другога боку, старшыня не вечны. Няхай ты — самы цудоўны гаспадар, аднак, калі ўсё трымаецца толькі на тваім аўтарытэце, на тваёй строгасці і тваім кантролі, калгаснікам, хочуць яны таго ці не, адводзіцца роля радавых выканаўцаў. І яны прывыкаюць да гэтае ролі, яна робіцца нормаю жыцця.

Падрад і арэнда ставяць іх у абсалютна іншыя ўмовы. Тут калі кожны не будзе гаспадаром, на поспех не разлічвай. Але пакуль у новай сістэме (я маю на ўвазе свой калгас) у наяўнасці адны мінусы. Што ж, гэта можна растлумачыць. Не проста прызвычаіцца да думкі, што ўсё, абсалютна ўсё ў брыгадзе вырашаюць самі ж механізатары. Што гэта яны павінны не толькі сумленна папрацаваць сёння, але і спланаваць дзень заўтрашні і якасць выкананай работы праверыць.

Так, прыходзіцца напамінаць, падказваць. І гэта ўспрымаецца як звычайная будзённасць. Дужа ўжо моцна сядзіць у сялянскай псіхалогіі звычка, што вось дасць кіраўніцтва каманду — і нехта каменне з поля прыбярэ. Начальства вызначыць галоўнае на сённяшні дзень, а ўвечары праверыць выкананне. А што тут дзівіцца: да гэтага прывучана не адно сялянскае пакаленне. А мы хочам умомант усё змяніць. З радавых выканаўцаў з наскоку зрабіць першакласных гаспадароў. Ледзь не фірмачоў. Пакончыць з гэтай рабскай пакорлівасцю, ад якой да абыякавасці — адзін крок. Не, не проста ўсё гэта і, вядома, не адразу робіцца.

Вось і прыходзіцца гаварыць пакуль што пра мінусы. Дрэнна засеялі. Прапусцілі тэрміны хімпраполкі. А што такое — спазніцца з ёю на дзень-другі! А тое, што трыста калгаснікаў на гэтых палях будуць тыдзень з праклёнамі гнуць спіны.

Якую ж тактыку выбраць старшыні ў такой вось дужа няпростай сітуацыі! Перш за ўсё — цярпенне. Спакойна растлумачыць, разабраць зробленыя памылкі. Без крыку, абвінавачванняў, проста і па-дзелавому. Каб людзі паверылі ў перавагі і выгоды новае сістэмы, аднае агітацыі мала. Трэба да гэтае веры спачатку цярпліва весці іх — ад аднае мэты да другой. А далей яны пойдуць самі.

Дык вось, толькі стаў прыжывацца брыгадны падрад, пачулася каманда: уводзьце арэнду ці сямейны падрад. Але, па-першае, у гэтым няма пакуль што неабходнасці. А па-другое, не кожнаму можна даверыць дзесяткі гектараў зямлі. Ну як можна з лёгкай душою здаць у арэнду калгасную зямлю чалавеку, у якога прысядзібны ўчастак зарос лапухамі ды чартапалохам! Гаспадара не выхаваеш цыркулярамі. Патрэбны час. А яго якраз у нас няма і не будзе. Што ж тады застаецца! Галоўнае: вырабляць хлеб, мяса, малако. І не за кошт цудапанацэі, а за кошт прадуманай гаспадарчай сістэмы, якая не давала б збояў ні пры якім надвор'і. І тут мала думаць, меркаваць, прыкідваць — трэба дзейнічаць і дзейнічаць. Калі мы выйшлі нарэшце з прарыву па кармах, я вельмі хутка пераканаўся, што радавацца яшчэ рана. Убогае мысленне праекціроўшчыкаў комплексу, які абышоўся ў шэсць з паловаю мільёнаў, стала для нас непераадольнай бядою. Комплекс сяк-так зляпілі. Цялят завезлі. А потым раптам успомнілі, што іх жа карміць трэба. Пакуль думалі ды рашалі, галодныя цяляты раўлі так, што шкло ў вокнах дрыжэла. Па дзесяць-дванаццаць галоў штодня на жывёламогільнік выцягвалі. Не адкормачнік атрымаўся, а сапраўдны канцлагер для цялят...

І людзям прыходзілася не лягчэй. Праходы, нават кармушкі затопленыя жыжкаю. Увесь год, бывала, не здымалі гумавых ботаў. Рэўматызмам скручвала так, што хоць крыкам крычы. Усім даставалася. Усім... А начальства прыедзе, паспачувае, паўздыхае, развядзе рукамі дый пакоціць сабе ў цёплыя кабінеты. Нам жа заставалася, як пісалі ў газетах, «гераічна пераадольваць цяжкасці ды выяўляць працоўны энтузіязм».

У пячонках у мяне сядзяць гэтыя цяжкасці. Я разумею іх непазбежнасць у пасляваенныя гады. Калі бабы замест коней упрагаліся ў плуг. Калі на ўсю вёску былі толькі дзве каровы.

Ну, а потым, калі перавялі дыханне, калі з зямлянак і халуп перабраліся ў хаты і сталі жыць па-людску, каму, пытаюся, спатрэбілася нагрувашчваць чарговыя цяжкасці! Абразаць соткі, пералічваць у хлявах худобу і дрэвы ў садах! Каму ўсё гэта трэба было! І каму замінала што! Смешна сказаць, каб калгасніку закалоць парасё, трэба было везці яго ў лес, хавацца, бы зладзюгу якому, а то ж прымусяць скуру зняць. А што гэта за сала без скуры!.. Не падпарадкуешся — аштрафуюць, пакараюць. А раз караюць, дык нашто рызыкаваць — абыдземся як-небудзь і без парасяці. Плаціць падатак за яблыні і вішні! Ну, не ўжо — лепш пад корань іх. А выходзіла, што пад корань пускалі гаспадара... Замест таго каб даваць гораду прадукты, цягнулі з горада ў вёску. І гэта стала нормаю жыцця.

Шмат гадоў не стваралі мы гаспадара, а знішчалі яго. Выжывалі толькі самыя стойкія...

Неяк на семінары сакратар абкома пытаецца ў мяне з прэзідыума (а я за трыбунаю быў, выступаў), калі, маўляў, будзе тэхналагічнае прыбаўленне жывёлы ў вазе на комплексе! «Ніколі»,— адказваю. Таму што «комплекс па накіраваным гадаванні цялят на прамысловай аснове» — усяго толькі назва. На самай справе — гэта бездань. Патрэбна рэканструкцыя. І неадкладная. Раз выкінулі на вецер шэсць з паловай мільёнаў рублёў, дык дазвольце дзеля іх уратавання выкарыстаць яшчэ хоць бы тысяч сто. Ды дзе там! Рэакцыя вядомая: не паложана. І мяса, малако таксама даваць трэба.

Я як толькі пачую што-небудзь мне цікавае ці прачытаю пра тое, што можна ўзяць на ўзбраенне — неадкладна туды еду. А разгледзеўшы, вывучыўшы, дома аналізую, параўноўваю, прыкідваю, уцягваю ў гэтую мазгавую працу ўсіх спецыялістаў — і вось ён, адзіны правільны варыянт. Прычым, уласны варыянт. Вось так на комплексе з'явілася падлога з адтулінамі. На ёй і капыты цяляты не траўміруюць, і ў боксах суха, чыста. І стойкі драўляныя замест металічных. І брэкетыроўшчык прыдумалі, які акуратна выдае гіганцкія таблетачкі (дарэчы, адзін такі станочак элементарна забяспечыць 5—6 гаспадарак). А ў таблетках гэтых — і соль, і кальцый, і рыбін тлушч, і маса іншых рэчываў, неабходных арганізму жывёліны гэтаксама ж, як і паветра. І першыя ў раёне зладзілі летні лагер з усёй тэхналогіяй.

Да нас прыязджаюць, глядзяць, хваляць. Нават семінары праводзяць. Толькі вось што я зразумеў: зрабіць — не самае галоўнае. Галоўнае — падтрымаць ідэю, распаўсюдзіць і практычна выкарыстаць. Калі гаспадарка не зацікаўленая, то ніякімі семінарамі, ніякай агітацыяй нічога не даб'ешся.

З усімі згаджацца, усім падпяваць (а я з дзяцінства ненавіджу харавыя спевы) ды ківаць галавою — справа не надта цяжкая. Толькі той кіраўнік, які жыве сваім розумам, сваім сумленнем, сваёй пазіцыяй, чагосьці варты ў нашыя дні. Такія вось людзі заўсёды вядуць перабудову.

**НАШ КАМЕНТАРЫЙ:** Пасля працы старшыня сабраў механізатараў на машынным двары, пасадзіў у кузаў грузавіка, і сталі мы ездзіць па ўсіх, якія ні ёсць, дарогах. Зверху відаць усё як на далоні. І прасветы, і пустэчы — баклалайкі, як завуць іх механізатары.

— Хто сеяў! — пытаецца старшыня.

Маўчанне. Потым чыйсьці незадаволены голас:

— Сеялка вінаватая. Не трэба было тут анкернай сеяць.

— А вось тут падкормку рабілі. Гляньце на поле! Чаму адзін след так далёка ад другога! А таму, што не пра падкормку думалі, а як бы найхутчэй работу выканаць. Што, хіба не так!

Вось так ездзілі мы амаль дзве гадзіны. І ўсе хібы бачныя. А потым зноў сабраліся на машынным двары. І адбылася размова па душах. І тут я пачуў ад механізатара нечаканае: «Калі працавалі калгасам, было лепей. Ніхто не дзяліў, маё поле ці не маё. Нашае яно, поле, калгаснае — і ўся размова...»

Ломка... Яна ж праходзіць па жывому. Тыповае пераўтварае ў новае — і наадварот. І ўсё праз душы, праз галовы і сэрцы. Праз нервы. А галовы ж гэтыя адвучаныя ад самастойнасці. І душы даўно перасталі балець. Выходзіць, усё трэба пачынаць з вытокаў, з чыстых крыніц. А калі і яны вычарпаныя! І чысціню сваю страцілі! Тады як! Цярпенне і талент нашага народа, талент, які нічым не высушыць, нічым не выветрыць, возьмуць сваё. Неадменна возьмуць.

Бялыніцкі раён



Глэдзіс ЛАЙНЭ

# ВЫПРАБАВАННЕ

## ФАНТАСТЫЧНАЕ АПАВЯДАННЕ

### 1

Увесь свет некуды знік. У галаве панаваў першабытны хаос. Думкі мітусіліся, разбягаліся, сутыкаліся і змешваліся, нібыта бактэрыі ў лабараторнай прабірцы. Дорыс марна імкнулася неяк звязаць пераблытаныя абразкі мінулага. Але выразна высвечвалася толькі адна карціна, на імгненне згасала, а потым узнікала зноў і зноў. І кожны раз яе з'яўленне аддавалася ў душы пякучым болем.

Дзе і калі яна магла бачыць гэта? Практычна ў любым кутку зямлі, куды закідваў яе неспакойны лёс то з тэатрам, то з кінагрупай. Магчыма, яна бачыла гэта ў якім-небудзь маленькім горадзе, дзе быў свой звярынец, застаўлены старымі цеснымі клеткамі. У адной з такіх клетак сядзеў воўк. Дакладней, гэта быў не воўк, а вялікая, у падпалінах, ваўчыца. Яна была яшчэ не старая, але выгляд яе выклікаў спачуванне і шкадобу. Поўсць на ёй злямчылася, жывы бляск у вачах патух, галава бездапаможна матлялася на апушчанай шыі. Яна не сядзела, не ляжала і нават не глядзела праз краты са звычайнай у паднявольных жывёлін журботай. Нібы вялізная заводная цацка, яна бясконца кружляла па клетцы і ад гэтага няспыннага руху ў гледачоў пачынала кружыцца ў галаве.

Цяпер у галаве ў Дорыс не кружылася, таму што яна сама няспынна кружляла па камеры: дзесяць крокаў да акна, паварот, чатыры крокі ўлева, зноў паварот... І гэтак адзін раз, другі, трэці, дзесяты... Часам Дорыс спрабавала спыніцца, але нейкая сіла зноў штурхала яе наперад. Яна адчувала сябе той самай ваўчыцаю, хаця на вокнах і не было кратаў. Іх знялі пасля таго, як электрычнае крэсла замянілі зомбінгам. Якая гуманнасць! Новыя камеры нават нагадвалі невялічкія пакоі ў небагатых гатэлях. Але адсюль выходзілі толькі адзін раз! Пакой выглядаў звычайна і нават утульна, толькі высока пад столлю свяцілася маленькая адтуліна велічынёй са звычайную электрычную лямпачку. Гэта было жывое бяссоннае вока, якое сачыла за кожным рухам зняволенага. Паны ахоўнікі павінны быць упэўненыя, што вязень будзе жывы і здаровы да самага дня пакарання. Гэтае пільнае вока наводзіла на Дорыс нейкі містычны жах, хаця і выглядала як аб'ектыў звычайнай кінакамеры, а Дорыс лічыла, што за дваццаць гадоў яна прызвычаілася да аб'ектываў. Аднак гэтая праклятая дзірка была не аб'ектывам, а гнюсным шпіёнам, даносчыкам. Цяжкім каменем прыціскала душу самота. Чаканне рабілася нясцерпным і ёй хацелася толькі аднаго: каб хутчэй усё скончылася! Не суцяшала і тое, што цяпер смяротны прысуд азначаў зусім не тое, што раней. Раней чалавека проста пазбаўлялі жыцця, а зараз яго пазбаўлялі душы, пакідаючы жывое цела, але ўжо з новай душой, з новай свядомасцю. Газеты навыперадкі трубілі, што зомбінг — гэта вельмі гуманнае пакаранне, што гэта самае геніяльнае вынаходніцтва за ўсе вякі існавання роду чалавечага. Аднак для Дорыс гэта было ўсё адно што смерць, таму што яна, Дорыс Піке, новая Мерылін Манро, знікне назаўсёды! Праз некалькі дзён яе заменяць нейкім іншым чалавекам і прымусяць забыць усё, што раней было яе жыццём: родны горад пад белым снежным дываном, пунсовае вячэрняе неба Вайкікі, горы кветак у тэатры, прамяністыя вочы Тоні. Якім шчасцем яны зіхцелі ў той далёкі вечар, калі ім упершыню пашчасціла застацца сам-насам!

Звонку Дорыс выглядала спакойнай і абыякавай. Аднак душу яе поўніла гаркота. Якая несправядлівасць! Яна ж невінаватая! Увесь час, пакуль ішоў працэс, яна спадзявалася, што вось-вось усё высветліцца і праўда пераможа. Аднак таго не адбылося. Пасля таго як суддзя хрыпатым стомленым голасам прачытаў прысуд, з ёю здарыўся істэрычны прыпадак. Але потым яна спасцігла ўсю страшную безнадзейнасць свайго становішча і зразумела, што ніхто не пачуе яе крыку і ніхто не прыйдзе на дапамогу. Поўная абыякавасць цалкам апанавала яе. Спачатку Дорыс збіралася крыкнуць сваім катам штосьці накшталт Марыі Сцюарт: «Жывіце ў шчасці, калі нябесны валадар дазволіць вам такое!», але потым адмовілася ад гэтай задумы. Душа яе здранцвела і яна рабіла толькі адно: дзесяць крокаў, паварот, чатыры крокі, паварот, і зноў усё спачатку.

### 2

Колькі хвілін Олаф Уэстмен сядзеў нерухома, у задуменні стукаючы пальцамі па стале, потым імкліва ўстаў і схапіўся за тэлефон. Ён доўга думаў і вагаўся, ці варта званіць увогуле, але выйсця не было — ён мусіў распісацца ў сваёй бездапаможнасці.

— Алё, Магнус! Олаф турбуе... Прабач, але справа неадкладная... Не, гэта не па тэлефоне... Давай сустрэнемся дзе-небудзь у кавярні або ў рэстаране... Лепей увечары... Ну, добра... Выбірай сам, мне ўсё роўна... Калі? А палове восьмай? Добра...

Бадай што апошнія словы ён сказаў не падумаўшы. Мінула добрыя паўгадзіны, перш чым Олаф сабраўся. Потым на рагу вуліцы давялося доўга чакаць таксі. Ён занепакоена глядзеў, як паўз яго праляталі машыны, і стараўся запэўніць сябе, што часу яшчэ хапае. Нарэшце ўдалося злавіць старую абшарпаную «Таёту», але праз хвіліну яны трапілі ў вялізны затор на Дрэйтан Брыдж. Калі ж нарэшце ён дабраўся да месца, на гадзінніку было ўжо восем. Магнус сустрэў яго на парозе маленькага кабінета. Олаф паглядзеў на стол і міжволі здрыгануўся: плаціць па рахунку павінен быў ён.

— Я тут сёе-тое заказаў, ты не супраць? — задаволена ўхмыльнуўся Магнус.

Олаф моўчкі сеў за стол і ўзяўся за прыбор.

— Люблю салату з ракавых шыек...— пачаў Магнус, але тут афіцыянт прынёс цудоўны грыбнік, потым на стале з'явілася смажаніна ў арэхавай падліве, а потым чорная ікра. Уся гэтая смаката добра ішла пад сапраўдную «смірноўку» ўперамешку з вясёлымі показкамі, якіх Магнус ведаў цэлую процьму. Олаф спакойна слухаў усю гэтую вясёлую лухту і ў глыбіні душы дзівіўся з Магнусавай бясконцай весялосці і магутнага апетыту. Праўда, на свой апетыт і ён не мог паскардзіцца, а таму аддаў належнае майстэрству рэстараннага кухара. Нарэшце прынеслі каву, задаволены Магнус задыміў цыгарай, і Олаф распачаў гаворку пра тое, што прывяло яго сюды. Магнус адразу стаў сур'ёзны і ў ягоных вачах бліснула цікаўнасць. Яму хацелася даведацца, які вузел прыйдзецца развязваць гэтым разам. Магнус папрасіў яшчэ кавы — такую ён меў звычку весці дзелавыя размовы.

— Тыдні тры таму да мяне ў офіс завітаў адзін кліент. Гэта быў Лоўэркрыст, пісьменнік і сцэнарыст. Уяві сабе, ён прапанаваў мне дзесяць тысяч за справу незалежна ад таго, чым яна скончыцца. А калі я змагу абвергнуць доказы абвінавачвання, а значыць, і прысуд, дык ён дае мне дваццаць пяць тысяч і аплоціць усе мае выдаткі.

— Нядрэнная прапанова,— сказаў Магнус і выпусціў вялізнае воблака дыму.

— Як сказаць... Ты лепей адгадай, якую справу ён мне ўсунуў?

— Як гэта ўсунуў? Што ж ён, гвалтам прымусіў цябе узяцца?

— Ну як тут сказаць... Не, ён не ціснуў на мяне. Словам, справа тычыцца Дорыс Піке.

— Той самай кінапрымадоны?

— Разумееш, тут не такі ўжо і просты выпадак. На мой погляд, справа даволі незвычайная.

— Мне пра яе вядома толькі з газет. Ды я і чытаў не ўсё.

— Добра. Пятага ліпеня ў доме нейкай Дэзі Хоўсан успыхнуў пажар. На шчасце, сігналізацыя спрацавала і пажарныя прыехалі даволі хутка. Яны выламалі дзверы і ўсё патушылі. У куце яны знайшлі напалову абгарэлы труп. Ну, адразу ж выклікалі паліцыю. Ахвярай аказалася гаспадыня кватэры Фані Флакс, ужо немаладая жанчына, якая апошнія дзесяць гадоў не пакідала інвалідную каляску, таму што была паралізаваная. У яе была прастрэлена галава, а на падлозе побач з каляскай валяўся буйнакаліберны армейскі пісталет, праўда, моцна пашкоджаны, бо ад агню паўзрываліся патроны. З кватэры нічога не знікла.

— Звычайны прыём,— перабіў Магнус.— Забойца падпаліў кватэру, каб схаваць сляды.

— Гэтак жа мяркуе і старшы інспектар Дроўэрс. Ён выявіў, што пані Флакс наняла гэтую кватэру дзесяць гадоў таму, калі перабралася да нас з Сан-Францыска. Жыла яна самотна, цураючыся людзей. Сем гадоў у яе працавала адна пакаёўка, Элізабет Сэйак, якая прыходзіла толькі ўдзень. Але тым днём яе не было. У яе стопрацэнтнае алібі.

— Не веру я такім жалезным алібі,— зноў перапыніў Магнус.

— Алібі бясспрэчнае. Я сам усё спраўдзіў. Пані Флакс мела ў горадзе толькі адну сяброўку. Яна часам і наведвала яе. Гэта Дорыс Піке. Элізабет Сэйак сцвярджае, што ў памяці робата-служкі застаўся яе голас.

— Як гэта магло здарыцца?

— А вось так! Усе ж астатнія запісы наўмысна сцёртыя. А такое магла зрабіць толькі гаспадыня.

— Зразумела...

— Калі толькі... Але пра гэта пасля... Значыць, першае: пісталет належыць Дорыс Піке. Ён зарэгістраваны чатырнаццаць гадоў таму ў Каліфорніі.

— Пісталет? Вось гэта дзіўна.

— Дарэчы, сама Дорыс Піке пацвердзіла гэта. Яна купіла зброю, таму што ад гэтых бязглуздых фільмаў у яе пачалася манія праследвання. Акрамя таго, усім вядома, што яна выдатна страляе. Так што пісталет належыць акторцы, хаця на ім і няма адбіткаў яе пальцаў. Тым днём Дорыс Піке гасцявала ў Фані Флакс, але дадому вярнулася гадзіны праз дзве пасля візіту. Аднак за гэты час ніхто не бачыў Піке і не званіў ёй. Такім чынам, алібі ў яе няма.



Афармленне Сяргея ФІЛІПАВА

— Ну што ж, даволі пераканаўча...

— У тым і справа. Доказы відавочныя. Старшы інспектар Дроўэрс даволі хутка ў гэтым разабраўся і адразу ж арыштаваў Дорыс Піке. Яе судзілі. І хаця матывы забойства не высветленыя, прысяжныя прызналі яе вінаватай. Прысуд будзе выкананы праз месяц, сёмага верасня. Сёмага верасня Дорыс Піке перастане быць Дорыс Піке. Лоўэркрыст прыйшоў да мяне адразу ж пасля працэсу. Мяне парэкамендаваў яму Холіэс.

— Хвілінку...— Магнус пацёр пальцамі скроні. Ён стараўся штосьці ўзгадаць.— Ці не той гэта Холіэс, што судзіўся з-за спадчыны з Гравенінам?

— Ну-ну, той самы. Але зараз гаворка не аб ім. Лоўэркрыст — стары сябра і заўсёдны партнёр Дорыс Піке. Нават сцэнарыі пісаліся адмыслова для іх. Няма ніякага сакрэту і ў тым, што яны былі партнёрамі не толькі на сцэне. Дык вось, менавіта таму Лоўэркрыст і сцвярджае, што Дорыс Піке — незвычайна добры чалавек. На мяне Лоўэркрыст зрабіў добрае ўражанне. Мне здаецца, што ён добры, сумленны і разумны чалавек, але ёсць у ім нешта такое... Пра такіх кажуць, што яны не сваімі нагамі ходзяць. Карацей, папярэднія вынікі...

— Потым, потым. Ты і так навярнуў мне цэлую кучу самых пераканаўчых контрдоказаў.

— Калі б гэта было так, мы з табой не сядзелі б тут, а Дорыс Піке — у турме.

— Дык чаго ты дасягнуў?

— Да таго і вяду. Я ўжо тры тыдні займаюся расследваннем і сцісла ўсяго не перакажаш.

Олаф лічыўся спрактыкаваным дэтэктывам. Яго добра ведалі ва ўсім штаце і нават далёка за яго межамі. Ён апавядаў Магнусу пра сваё следства амаль не кранаючы дэталяў, а гаварыў толькі пра самае галоўнае. Бадай упершыню за дзесяць гадоў ён трапіў у такое цяжкае становішча. Чым далей пасоўвалася следства, тым болей сумненняў і няпэўнасцяў з'яўлялася ў дэтэктыва. Адну за адной ён ствараў і адкідваў версіі, пакуль нарэшце не палічыў, што становішча — безнадзейнае. Не заставалася нічога іншага, як звярнуцца да свайго старога сябра Мак Магнуса. Мак Магнус быў прафесарам антрапалогіі і праславіўся сваім незвычайна вострым розумам. Ён умеў знаходзіць самыя нечаканыя рашэнні нават тады, калі лічылася, што аніякіх рашэнняў быць не можа. А выпадак з Дорыс Піке якраз і быў «тухлы». Многія акалічнасці справы ставілі Олафа ў тупік, а некаторыя з іх увогуле супярэчылі чалавечай логіцы. Навошта забойца падпальвае кватэру, а пісталет пакідае на самым відавоку? Няўжо ён такі наіўны і думаў, што метал згарыць або расплавіцца? Апрача таго, жанчыны абдумваюць свае злачынствы больш падрабязна і старанна, чым мужчыны. А хто сцёр запісы ў памяці робата-служкі? Такія робаты слухаюцца толькі гаспадара або гаспадыню, словам, яны настроеныя на голас толькі аднаго чалавека. Дзіўным здаецца ў гэтай гісторыі і тое, што ў кватэры не знайшлі ніводнага адбітка пальцаў гаспадыні, ніводнага яе фотаздымка. Паўсюль жа былі адбіткі пальцаў Дорыс Піке, яе фотаздымкамі былі завешаны ўсе сцены ў пакоі, яе выявамі былі запоўнены дзесяткі відэа-касет.

— Адкуль ты ўсё гэта ведаеш?

Олаф запытальна паглядзеў на Магнуса, які з легкадумным выглядам памешваў каву.

— Ты не закажаш яшчэ кубачак?



— Добра,— Олаф націснуў кнопку і ў кабінеце імгненна з'явіўся афіцыянт.— Неблагое тут месца, прынамсі можна адпачыць ад гэтых кібераў і аўтаматаў.

— А галоўнае, тут добра гатуюць.

«Вядома,— падумаў Олаф.— Асабліва, калі хто-небудзь плаціць за цябе».

Нейкі час сябры маўчалі. Олаф цярпліва чакаў. Ён хацеў, каб Магнус пачаў першы, але той рабіў выгляд, што цалкам заняты сваёю каваю.

— Не разумею, як маглі сябраваць кіназорка і гэтая палярушная сугнейка? Прынамсі я лічу, што гэта даволі дзіўныя адносіны. Ты гэтак не думаеш?

— Нічога дзіўнага,— адказаў Олаф.— Гадоў дзесяць таму Дорыс Піке моцна пашкодзіла хрыбетнік у аўтамабільнай катастрофе. Для яе гэта было катастрофай усяго жыцця, бо яна не ўяўляла сябе па-за сцэнай. Дорыс доўга хварэла, але ўсё ж лячэнне дало эфект. Яна пачала ачуньваць, калі раптам на пятым пазванку выявілі злаякасную нарасць. Пасля аперацыі ногі паралізавала. Лекары вынеслі свой страшны і канчатковы прысуд: хадзіць яна болей ніколі не зможа.

— Гэтак жа, як і ў Фані Флакс. Вельмі цікава! І што далей? — Мак Магнус, прыжмурыўшы вочы, паглядзеў на суразмоўцу.

— А далей адбыўся цуд — асуджаная выздаравела. Праз паўгода Дорыс Піке хадзіла, нібыта ў яе ніколі і не было ніякай хваробы.

— А не магла яна ачуняць сама па сабе?

— Не ведаю. Ёй пашчасціла трапіць у прыватную клініку Санта Ніньо.

— Куды? У Санта Ніньо?

— Менавіта туды. А што тут дзіўнага?

— Не, нічога. Я проста спытаўся. А якая-небудзь афіцыйная назва ў гэтай цуда-клінікі ёсць?

— Ёсць. Шпіталь Міласэрных самарыцян. Лячэнне там фантастычна дарагое, але Дорыс Піке змагла заплаціць за яго. Там яна і пазнаёмілася з Фані Флакс, якая была прыкладна ў такім жа становішчы. Прынамсі сімптомы былі дакладна такія ж, як і ў Дорыс Піке. Аднак Фані Флакс медыцына не дапамагла. Пасля вяртання з клінікі Дорыс Піке стала своеасаблівай апякункай Фані Флакс.

— Зразумеў.

— А я не. У гэтай гісторыі зашмат цёмнага. Па-першае, мяне ўразіла такая дэталь: у кватэры не было аніякіх слядоў пражывання Фані Флакс. А потым я выявіў і болей цікавыя рэчы. У Сіэтле, дзе нібыта нарадзілася Фані Флакс у 1995 годзе, ніякіх запісаў аб нараджэнні гэтай асобы не знайшлося.

— Неверагодна! — цяпер на твары Магнуса была сапраўдная зацікаўленасць.

Олаф употай адзначыў гэта і працягваў:

— Я адшукаў у кнігах толькі адну Фані Флакс, якая нарадзілася ў 1951 годзе. Ды і тая аказалася бабуляй Дорыс Піке. Вось у мяне і ўзнікла пытанне: а як жа сапраўды звалі забітую? Не магла ж яна быць той самай Фані Флакс, якая памерла ў Сан-Францыска 50 гадоў таму. Я схадзіў на яе магілу. Там стаіць шыкоўны помнік.

— І як ты толькі паспеў? Сапраўды, неверагодныя звесткі!

### 3

Мінулай пятніцай Лоўэркрыст прынёс Олафу ліст. Уласна кажучы, гэта быў не ліст, а маленькі шматок паперы, надрукаваны на машынцы. Нехта невядомы паведамляў Лоўэркрысту, што ў яго маюцца нейкія звесткі, якія бясспрэчна дапамогуць разгадаць таямніцу Дорыс Піке. Аўтар ліста адразу ж патрабаваў даволі вялікую ўзнагароду за гэтыя звесткі. Лоўэркрыст лічыў, што гэта проста дробны махляр, а не сапраўдны вымагацель. Адчувалася, што ліст напісаны расчараваным і злым няўдачнікам, бо кожны радок быў прасякнуты гаркотай, нянавісцю, прагай помсты і нажывы. У ім крылася нейкая змрочная і пагрозлівая загадка. Незнаёмы прапанаваў сустрэцца ў невялічкай кавярні на пляжы Сэнд Бейн.

Кавярня не адносілася да ліку самых папулярных, а таму там не было звычайнай у канцы тыдня цісканіны. Чаму гаспадар дагэтуль яшчэ не прагарэў, было, напэўна, ягонай сямейнай таямніцай.

«Лепшага месца для спаткання ён знайсці не мог,— падумаў Олаф.— А гаспадару ці то ўяўлення бракуе, ці то ён лічыць непатрэбным хаця б як-небудзь аздобіць свой балаган. Але ў такіх зацішных мясцінах часам бывае даволі небяспечна. Неабавязкова мець вялікі розум, каб пасадзіць там тузін агентаў, а тыя ўсё падслухаюць, запішуць і здымуць на стужку. Ціха — не значыць спакойна».

У кавярні быў толькі адзін чалавек, напэўна, заўсёднік гэтай шаноўнай установы. З выгляду ён нагадваў рыбака, які пры бутэльцы піва бавіў час у пустой зале. Олаф не разлічыў часу і прыйшоў раней. Ён сеў за стол і замовіў шэрры. Па твары гаспадара расплылася задаволеная ўсмешка.

Па некаторым часе ў залу ўвайшоў даволі дзіўнага выгляду мужчына. Асабліва кідалася ў вочы ягоная тыповая ірландская знешнасць. Олаф не ведаў, ці гэтага чалавека ён чакае, але на ўсялякі выпадак выцягнуў з кішэні газету «Аргус» са здымкам Дорыс Піке на першай старонцы. Чалавек падышоў да яго.

— Вы містэр Лоўэркрыст?

— На жаль, не,— адказаў Олаф.

— Я не буду размаўляць з вамі,— і чалавек павярнуўся да дзвярэй.

— Я ўсё ж папрашу вас затрымацца, містэр...э...э...э...

— Пэддзі О'Мур.

«Ну і мянушка»,— падумаў Олаф.

— Містэр О'Мур, я прыйшоў на спатканне з вамі па даручэнню Лоўэркрыста. Я не паліцэйскі, я прыватны дэтэктыў,— Олаф паглядзеў на свайго суразмоўцу.— Усё, што вы раскажаце застанецца паміж намі, калі толькі ў вас ёсць што расказаць.

— Вядома, ёсць,— змрочна адказаў О'Мур і жэстам запрасіў Олафа на веранду.

У паводзінах О'Мура было штосьці дзіўнае. Ён не ішоў, а дробненька перабіраў нагамі, не еў, а прагна каўтаў страву, раз-пораз прыхлёбваючы віскі. І ён увесь час гаварыў. Перапыніць яго было немагчыма. Олаф здзіўляўся: чаго ён так спяшаецца? А можа, гэта проста нахабнік, які збірае абы-што, толькі б на дармавіну наесціся і напіцца? Наўрад. Хоць мужчына і меў убогі выгляд, ён усё ж не быў люмпенам. Апрача таго, ён гаварыў даволі красамоўна і аздабляў сваё апавяданне такімі дэталямі, прыдумаць якія было немагчыма. І адкуль іх столькі? Калі б гаворка ішла пра мафію ці пра якую-небудзь падобную арганізацыю, усё было б зразумела, хоць кожнаму вядома, што пра такія справы лепей маўчаць, а не гаварыць. Але тут усё падавалася даволі лагічным — ці мала на свеце арганізацый і прадпрыемстваў, якія нібыта імкнуцца да высакароднай мэты, а на самай справе...

І ўсё ж тут было гэтулькі вузлоў, што разблытаць іх О'Мур не мог, хоць і быў архіварыусам у шпіталі Міласэрных самарыцян. Ён усяго толькі мізэрная шрубка ў вялізнай машыне, памеры і мэты якой яму невядомыя. Шмат чаго ён даведаўся з чутак і плётак. Напрыклад, яму казалі, што ў адным з паўночных штатаў, Віскансіне, ці што, правялі медыцынскі эксперымент, цесна звязаны са справамі шпіталя Міласэрных самарыцян. Не адзін раз яму даводзілася чуць і пра другі інтэрнат Санта Ніны — Флорэнс Найцінгел. Кажуць, што там дзеля папаўнення генетычнага фонду вырошчваюць дзяцей у колбах. Сам жа фонд, заліты вадкім геліем, захоўваецца ў патаемнай пячоры недзе ў Сініх гарах. Гэты склад аберагаюць як зрэнку вока. Генетыкі нарэшце дабіліся свайго: спалучаючы розныя гены, яны могуць вырошчваць жывыя істоты паводле зададзенай праграмы. Яны могуць з клетак аднаго чалавека вырасціць ягоную дакладную копію. Магчыма, што гэта не так ужо і бесчалавечна. Сапраўды, калі чалавек нежанаты або чамусьці не можа мець дзяцей, але вельмі хоча іх мець, то ён можа замовіць сабе дзіцёнка, калі не хоча ўсынавіць якога-небудзь сірату. І гэта зразумела, бо прадоўжыць свой род — для многіх справа ўсяго жыцця. Такі патаемны дзіцёнак, своеасаблівы гамункулус, потым змяшчаецца ў інтэрнат і праходзіць спецыяльны курс навучання ў спецшколе імя Флорэнс Найцінгел.

О'Мур гаварыў блытана, часта збіваўся, ды яно і не дзіва, бо ён сам ніколі не бачыў працэсу вырошчвання людзей. Свае высновы ён сам рабіў толькі на падставе папер, якія траплялі да яго ў архіў, а таксама дзякуючы запісам на крышталях памяці. Адтуль ён і здабыў звесткі пра капіраванне людзей, а гэта мае непасрэдную сувязь з трагічным лёсам Дорыс Піке. А ён жа і сапраўды трагічны, ці не так? Цяпер ёй не пазайздросціш, але і раней жыццё ў яе было не мёд... О'Мур спачуваў ёй ужо тады, як толькі яна трапіла ў Санта Ніньо.

Пакрысе Олаф пачаў здагадвацца хто такая Дорыс Піке, а хто — Фані Флакс. Пра бяду Дорыс Піке ён ужо чуў. Пасля катастрофы артыстка стала бездапаможнай калекай, хаця хвароба пачала развівацца значна раней. Яе лячылі розныя славутасці, але нічога не дапамагала. Наадварот, яе лёс быў яшчэ болей цяжкі, чым у іншых. Урэшце, яна ж была звычайным чалавекам. А таму як апошні водгук надзеі прагучала запрашэнне з Санта Ніны:

«Міс Піке, мы не можам гарантаваць абсалютны поспех, але апошнія нашы даследванні ўсё ж даюць падставы спадзявацца, што паляпшэння можна дабіцца».

Дорыс Піке вырашыла скарыстаць гэты шанц і паехала ў Санта Ніньо. Там яна сустрэлася з галоўным лекарам клінікі. Яны гутарылі сам-насам, пра што — няцяжка здагадацца.

І гэтым разам лячэнне аказалася беспаспяховым. Тагачасныя медычныя сродкі не маглі спыніць развіцця хваробы. Тады ёй прапанавалі яшчэ адно выйсце: стварыць копію, рэплікат.

З артысткі знялі дакладную біялагічную копію, якая цалкам адпавядала сапраўднай Дорыс Піке. Копію вырошчвалі некалькі месяцаў, недзе 10—18 тыдняў. Так на свет з'явілася новая Дорыс Піке. Яна атрымала ад сваёй папярэдніцы яе прыгажосць, памяць і ўсе рысы характару. Рэплікат працягваў артыстычную дзейнасць Дорыс Піке, а яна сама сышла са сцэны. Так было зроблена, каб новая Дорыс Піке не пакутвала на комплекс непаўнацэннасці. За яе пакутвала сапраўдная Дорыс Піке, якая лячылася ў Санта Ніны. Вельмі цяжка было перанесці тое, што рэплікат нічым не адрозніваўся ад яе, і жанчына перажывала сваю бяду за дваіх. Сцэнічныя поспехі новай Дорыс — гэта яе поспехі! Можна ўявіць, як пакутвала артыстка, але нічога іншага клініка прапанаваць не магла. Можа, пазней... Калі б хвароба была не такая цяжкая, то можна было б вырасціць асобны орган для трансплантацыі. Але тут перасадка тканак не прынесла поспеху. Прапанова раздвоіцца патрабавала роздуму, нялёгка было прыняць яе, але спакуса жыць двайным жыццём пакрысе пачала авалодваць артысткай. Спачатку яе палохала тое, што прыйдзецца стаць аб'ектам нейкіх доследаў. Але ж рэплікатаў на свеце даволі многа, а хто яны — гэта прафесійная таямніца. Калі кліент не мог заплаціць усю суму адразу, можна было падпісаць дамову і плаціць грошы на працягу дзесяці гадоў з адпаведнымі працэнтамі. Міласэрных самарыцян нельга абвінаваціць у тым, што яны абдзіралі сваіх кліентаў. Эканамічнае становішча таксама бралася пад увагу. Напрыклад, пяцьдзесят працэнтаў з Дорыс Піке наўрад ці было зашмат. Частка грошай ішла як аплата за копію, частка пакідалася сапраўднай Дорыс Піке. Астатняе ішло рэплікату. І можна сказаць, што кіназорка не жыла ў галечы. Даволі гуманна, праўда? Ніхто не пакрыўджаны. А галоўнае, што такое размеркаванне прыбыткаў выключала ўсялякія спрэчкі і сваркі паміж вытворцамі і рэплікатам.

Дорыс Піке знаходзілася ў клініцы Санта Ніньа ўжо шмат месяцаў. І вось аднойчы да яе ў пакой пасялілася новая пацыентка. Але пасялілася яна не да Дорыс Піке, а да Фані Флакс. Псеўданім, вядома, быў не з лепшых, але часцяком людзі выбіраюць імёны па першаму імкненню душы, і часцей за ўсё гэта бываюць імёны бабуль ці дзядуль. Аднак потым памяняць што-небудзь немагчыма.

Такім чынам Дорыс Піке саступіла месца свайму двайніку. Новая пацыентка была кіназоркай Дорыс Піке. Абедзьве жанчыны хварэлі на адну і тую ж хваробу. Неўзабаве яны пасябравалі. У новай Дорыс Піке не было ніякай хваробы, але яна не ведала пра гэта.

— Ваша апавяданне вельмі зацікавіла мяне, містэр О'Мур,— сказаў Олаф.— Але якая карысць ад яго Дорыс Піке? Чым гэта ёй дапаможа? Я думаю, што да зомбінга могуць прысудзіць і рэпліката.

— Як гэта «чым дапаможа»? Дык я ж вам толькі пра тое і талкую, містэр Уэстмен, што рэплікат запраграмаваны так, што не можа падняць руку на чалавека. Дорыс Піке не можа, не здольна прычыніць аніякай шкоды чалавеку, як вы — паляцець. І гэта яе фізічная асаблівасць.

— А доказы ў вас ёсць?

— Безумоўна, ёсць! Але я не прынёс іх. Яны захаваныя ў надзейным месцы. Вы зможаце атрымаць і выкарыстаць іх крыху пазней.

— А вы не баіцеся, што самарыцяне паспрабуюць адпомсціць вам за тое, што вы раскрылі іхнюю таямніцу?

— Можа, і паспрабуюць. Але я не збіраюся вяртацца ў клініку. Гары яна гарам!





Я аддаў ёй трыццаць гадоў жыцця і ўсе трыццаць гадоў атрымліваў жабрацкую плату. Ну, ды тут я сам вінаваты, ніхто мяне, дурня, не прымушаў. Шкода толькі, што паспяшаў змыцца. Колькі яшчэ там поскудзі засталося! Нам, простым людзям, медыкі заўсёды здаюцца вельмі прывабнымі фігурамі. Як жа, догляд, чуласць, самаадданасць! Усё гэта брудная хлусня! Незразумела, чаму гэта чалавек павінен гінуць з-за паразітаў! Каб іх халера! Трыццаць гадоў яны вадзілі мяне за нос! А зараз прыйшла мая пара! І калі згаворымся аб цане, усе доказы — вашы.

— Але мне спачатку хацелася б паглядзець на іх,— запярэчыў Олаф.— Калі доказы сапраўды будуць такія важкія, вы атрымаеце немалыя грошы.

— Ну і выдатна! Канчаю гнуць хрыбціну і хоць апошнія гады пажыву як чалавек. Павандрую, смачна паем і, увогуле, буду рабіць усё, што захачу.

— Гэта ваша справа, як патраціць вашы грошы,— адказаў Олаф.— Мяне цікавіць, калі мы сустрэнемся.

— Хоць бы і заўтра. Але не тут. Давайце ў «Амбасадоры», ведаеце, у бары наверсе? Згода?

### 4

— Значыць, паперы ў цябе? Пакажы,— Мак Магнус працягнуў руку.

— На жаль,— кісла ўсміхнуўся Олаф.— Пэддзі О'Мур сёння загінуў. Ён зваліўся з адзінаццатага паверха гатэля «Амбасадор».

— Ці не самарыцяне папрацавалі?

— Хто яго ведае, можа, і яны. О'Мур не ацаніў іх як след і быў вельмі неасцярожны. Калі гэта і сапраўды злачынная арганізацыя, лёгка ўявіць яе моц. А не мог О'Мур скончыць самагубствам?

— Ты высвятляў гэта?

— Спрабаваў, але там узніклі цяжкасці з паліцыяй. Толькі імя лейтэнанта Фірэвэла крыху дапамагло.

— На тым і збіраешся скончыць? — іранічна спытаў Магнус.

— Зусім не. Але тут я спудлаваў. Смерць О'Мура абарвала тую нітачку, якую даў мне ягоны расказ. А можа, усё гэта — плён хворага ўяўлення? Вось наконт гэтага я і хачу пагаварыць з табой.

**Заканчэнне ў наступным нумары**

**Пераклаў з фінскай**
**Якуб ЛАПАТКА**




Ян СКАРАДЗІНСКІ

# ЧАЦВЁРА, БЕЗ ЯКІХ...



## ПОЛ МАКАРТНІ

Пол нарадзіўся ў Ліверпулі 18 чэрвеня 1942 года.

Якім ён запомніўся ў «Бітлз»? Становішча зоркі папулярнай музыкі не перашкаджала яму быць папярэдлівым і рамантычным. Дзяўчаты — прыхільніцы ансамбля лічылі яго самым цікавым у «Бітлз». Нягледзячы на велізарны талент, Пол уступаў Ленану як асоба, у творчасці быў больш схільны да канфармізму. Што яшчэ? Прыроджаны меладыст. Ляўша.

Яго сяброўкі жыцця? Спачатку — актрыса Джэйн Эшэр, потым — Лінда Істман, фатограф. Любімая страва? Кураня. Напой? Малако. Хобі: дзяўчыны, сон, кіно.

Выказванне пра «Бітлз»? «Я сапраўды быў першы, хто пакінуў групу... Ансамбль наш павінен быў скончыць менавіта так хаця б таму, што з 1966 года мы ігралі толькі ў студыі, не маючы аніякага кантакту з гледачом».

Чым ён займаўся ў ансамблі? Быў сааўтарам большай часткі рэпертуару, цудоўна спяваў, добра граў на бас-гітары, горш — на некаторых іншых інструментах (напрыклад, клавішных, перкусіі, проста гітары). Пад канец існавання групы стараўся падпарадкаваць сабе калег.

Што стварыў і што спеў? Разам з Ленанам напісаў такія кампазіцыі ранняга перыяду «Бітлз», як, напрыклад, «Кахай мяне» і «Пакута» («Калі ласка, парадуй мяне» *), «Чакаць» («Гумавая душа»), а таксама «Ад мяне да цябе» і «Яна кахае вас», якія выйшлі на «саракапятках». Часта спяваў дуэтам з Ленанам, прычым іншы раз іх вакальныя «кавалачкі» ў кампазіцыях чаргаваліся. Быў і вядучым вакалістам у нумарах, створаных імі ў сааўтарстве — як, напрыклад, у песні «Я ўбачыў яе» з альбома «Калі ласка, парадуй мяне». І ўсё ж часцей яму даводзілася пісаць песні (і пры выпадку, натуральна, спяваць) самастойна. Пацверджанне таму — кампазіцыі «Усё маё каханне» са зробленым у стылі «кантры» гітарным сола («Разам з «Бітлз»), лірычная «Я кахаю яе» і рок-н-рольная «Каханне не купіш» («Вечар цяжкага дня»), а таксама «Мішэль» з некалькімі вершаванымі радкамі на французскай мове і выдатная кампазіцыя «Учора» («На дапамогу!»), у якой выкарыстаны скрыпічны квартэт. А ў прыдуманай Полам кампазіцыі «Я хачу паціснуць тваю руку», што выйшла на «саракапятцы», голас аўтара і кампазітара гучыць разам з голасам Ленана.



У другім — пазначым умоўна — перыядзе творчае дзейнасці «Бітлз» Макартні паўстае перад намі перш за ўсё як кампазітар, які прываблівае развітым пачуццём меладызму — згадаем хаця б такія яго работы, як «Тут, там і ўсюды» («Рэвальвер»), кампазіцыю «Яна пакідае дом» («Аркестр адзінокіх сэрцаў сяржанта Пэпера»), якая чаруе вакалам і падымае тэму масавых уцёкаў моладзі з бацькоўскага дому, кампазіцыі «Чорны дрозд» і «Я зраблю гэта» («Белы альбом»), «Доўгая звілістая дарога» і «Няхай будзе так» з аднайменнага альбома, песню «Дурань на гары», якая выйшла спачатку на «саракапятцы», а затым была ўключана ў альбом «Чароўнае таямнічае падарожжа».

Не пазбягаў герой гэтае часткі нашага расказу і іншых музычных формаў. У парадыйным ключы выканана, напрыклад, напісаная ім песенька «Калі мне споўніцца шэсцьдзесят чатыры» («Аркестр клуба...»). Нешта падобнае на рытмы «рэгі» чуецца ў «Аб-ла-ды, аб-ла-да», дынамічная музыка з вакальнымі атакамі — у «Чаму мы не робім гэта па дарозе» (абедзве кампазіцыі ўвайшлі ў «Белы альбом»). Напісаны ім і іранічная «О, дарагі!» («Манастырская дарога»), перад выкананнем якой Пол доўга «здзіраў» сабе горла, выпрацоўваючы патрэбную хрыпату, а таксама «нармальныя» рокавыя нумары «Чароўнае таямнічае падарожжа» з аднайменнага альбома, «Яна ўвайшла праз акно ваннай» («Манастырская дарога»), «Эй, Джуд!» і «Лэдзі Мадона», выдадзеныя на «саракапятках». Трэба, аднак, заўважыць, што некаторыя Полавы песенькі (асабліва «Срэбраны малаток Максвела» з альбома «Манастырская дарога») выдавалі яго схільнасць да стварэння банальнай поп-музыкі, што ў вядомай ступені вызначыла накірунак ужо менш цікавых пост-бітлаўскіх пачынанняў музыканта.

Вядома, Макартні быў і вядучым вакалістам ва ўсіх творах, пералічаных у папярэднім абзацы. Але, пішучы песні самастойна, ён працягваў і супрацоўніцтва з Ленанам (прыклад: «Элінор Рыгбі» з альбома «Рэвальвер»), і, апроч таго, спяваў у некаторых рок-н-рольных стандартах («Канзас Сіці» з «Бітлз» для распрадажы»).

Сенсацыя? У 1968 годзе распаўсюдзілася «праўдзівая» пагалоска пра тое, што Макартні мёртвы. На адной толькі вокладцы альбома «Манастырская дарога» было столькі сімвалаў на гэты конт, што проста жах. Ленан на ёй быў падобны на святара, Стар — на агента пахавальнае канторы, Харысан — на далакопа, Макартні, натуральна,— на нябожчыка, бо быў босы (а ў некаторых краінах мёртвых паводле звычаю хаваюць без абутку) і адзіны, хто ішоў не ў нагу з астатнімі. Акрамя таго, нумар на аўтамабілі, што стаяў у аддаленні, пры жаданні можна было расшыфраваць так: «Каб быў жывы, меў бы 28 гадоў...» У дадатак да ўсяго калегі Макартні па ансамблі аб'явілі конкурс на яго двайніка.



* У дужках даецца назва альбома.

Заканчэнне. Пачатак у № 8

## ДЖОРДЖ ХАРЫСАН

Як і ўсе астатнія ўдзельнікі «Бітлз», Джордж нарадзіўся ў Ліверпулі. Здарылася гэта 25 лютага 1943 года.

Які ён быў? Спакойны, трохі сарамлівы і скрытны. Быў містыкам. У спрэчкі паміж Ленанам і Макартні не ўступаў.

Яго сяброўка жыцця? Манекеншчыца Паці Бойд. Любімая страва? Барановы рэбры і бульба фры. Любімы напой? Гарбата. Хобі? Машыны, пласцінкі, кіно, а таксама — хоць гэта, уласна кажучы, было больш, чым хобі — культура, рэлігія і мастацтва Сярэдняга Усходу.

Выказванне пра «Бітлз»? «Мы не маглі быць вечна. Усё рана ці позна «праходзіць».

Яго роля у «Бітлз»? Пісаў песні, няблага спяваў, іграў на лідэр-гітары (не будучы вялікім інструменталістам, рабіў, аднак, вытанчаныя і вынаходлівыя сола) і некаторых іншых інструментах: сітары, фартэпіяна, акампаніруючай гітары. Гэта ён, зачараваны Усходам, і ў першую чаргу Індыяй, звярнуў увагу калег на карыснасць новых, плённых для творчасці культурных крыніц.



Што ён напісаў і што спеў у ансамблі? Спачатку спяваў разам з усімі (з Джонам і Полам, напрыклад, у кампазіцыі «Чалавек з ніадкуль» з альбома «Гумавая душа»), быў і вядучым вакалістам як у стандартах («Пасунься, Бетховен» — «Разам з «Бітлз», «Усе дзяўчаты хочуць сябраваць са мною» — «Бітлз» для распрадажы»), так і ў работах, падпісаных Ленанам і Макартні («Які я шчаслівы, што танцую з табою» і «Словы, сказаныя сёння» — «Вечар цяжкага дня»). Неўзабаве пачаў спяваць і ўласныя песні, спачатку досыць немудрагелістыя: «Пакіньце мяне ў спакоі» («Разам з «Бітлз»), «Я табе занадта падабаюся» і чароўную «Я маю патрэбу ў табе» («На дапамогу!»), а затым і больш складаныя, напрыклад, вальс «Я, мне, маё» («Няхай будзе так»), выдадзены на «саракапятцы» «Стары карычневы чаравік», і іншыя. Узлёт таленту Харысана, аднак, несумненна прыходзіцца на альбом «Манастырская дарога» (кампазіцыі «Што-небудзь» і «Сонца ўзыходзіць»), а таксама работу «Пакуль мая гітара пяшчотна плача» з «Белага альбома»; ноткі «індускай» настальгіі, якія чуюцца ў гэтых творах, бяруць пачатак ад акордаў яго ж «індароку» (тут можна згадаць такія рэчы, як «Я таксама цябе кахаю» і «У табе і па-за табою», запісаныя адпаведна на альбомах «Рэвальвер» і «Аркестр клуба...»). Сітар быў упершыню выкарыстаны Джорджам у кампазіцыі «Нарвежскі лес».

Цікаўная падрабязнасць: адну з кампазіцый Харысан напісаў разам з Ленанам. Яна вытрымана ў стылі «Шэдаўз» [1] і называецца «Хацець быць ценем».

А ўвогуле, творы Харысана рабіліся каштоўным і важкім дапаўненнем да работ Ленана і Макартні.

Чакаеце сенсацыі? Калі ласка. Некалі прыхільнікі Піта Беста, папярэдніка Рынга Стара ў групе, незадаволеныя зменаю ў складзе «Бітлз», выказалі сваё абурэнне гэтак актыўна, што падбілі вока аднаму з музыкантаў. Ім быў Джордж.

**Пераклаў з польскай Ю. Цыбін**

**P. S. Гэты расказ пра знакаміты ліверпульскі квартэт мы хацелі дапоўніць дыскаграфіяй пласцінак «Бітлз», выдадзеных у СССР. Выявілася, што дапаўняць, уласна кажучы, і няма чым: на сённяшні дзень фірма «Мелодия» выпусціла толькі два дыскі-гіганты з запісамі ансамбля («Вечар цяжкага дня» і «Смак мёду»). Яшчэ дзесяткі два песень у розныя гады выйшлі на «міньёнах» і зборных пласцінках (часта нават без указання назвы ансамбля). Нягуста. Праўда, адсутнасць запісаў «Бітлз» органы, якія загадваюць музычнай прапагандаю, паспрабавалі «кампенсаваць», выпусціўшы адзін за другім ці то чатыры, ці то пяць альбомаў, дзесяткі тэлесюжэтаў і паўнаметражны фільм, прысвечаны творчасці другога ансамбля. Таксама, між іншым, з краіны, што амываецца морам. І назва ў яго такая ж кароткая, толькі гучыць трохі інакш: «АББА». Памятаеце!.. Не!.. Ну што вы...**

[1] Папулярная англійская група 60-х гг. (Заўвага перакладчыка.)

Казімір МАЛЕВІЧ

# АД КУБІЗМУ І ФУТУРЫЗМУ ДА СУПРЭМАТЫЗМУ

(НОВЫ ЖЫВАПІСНЫ РЭАЛІЗМ)

*ВЕРНІСАЖ*



К. МАЛЕВІЧ. Аўтапартрэт. 1933.

## Фрагменты

Калі знікае прызвычаенасць свядомасці бачыць у карцінах выяву куточкаў прыроды, мадоннаў і бессаромных Венер, тады толькі ўбачым чыста жывапісны твор.

* * *

Я ператварыўся ў нуль формаў і вылавіў сябе з віру дрэні акадэмічнага мастацтва.

* * *

Узнаўляць аблюбаваныя прадметы і куткі прыроды — усё адно, што захапляцца злодзеем сваімі закаванымі нагамі.

* * *

Толькі тупыя і нямоглыя мастакі прыкрываюць сваё мастацтва шчырасцю.

* * *

У мастацтве патрэбна ісціна, а не шчырасць.

## МАСТАЦТВА ДЗІКУНА І ЯГО ПРЫНЦЫПЫ

Дзікун — першы заклаў прынцып натуралізму: выяўляючы свае рысункі з кропкі і пяці палачак, ён зрабіў спробу перадаць сабе падобнага.

Гэтай першай спробай была пакладзена аснова ў свядомасці і перайманьнасці формаў прыроды.

Адгэтуль узнікла мэта падысці як мага бліжэй да твару натуры.

І ўсе намогі мастака былі скіраваныя на перадачу яе творчых формаў.

* * *

Тэхнічны бок нашага часу ідзе ўсё далей наперад, а мастацтва намагаюцца адсунуць усё далей назад.

Вось чаму вышэй, велічней і каштоўней усе тыя людзі, якія ідуць за сваім часам.

І рэалізм XIX стагоддзя куды большы, чым ідэальныя формы эстэтычных перажыванняў эпохі Адраджэння і Грэцыі.

* * *

Ствараць — значыцца жыць, вечна ствараць новае і новае.

І колькі б мы ні расстаўлялі мэблю па пакоях, мы не павялічым і не створым іх новай формы.

І колькі б ні пісаў мастак месячных краявідаў або кароў на пашы і заходаў сонца, будуць усё тыя самыя кароўкі і тыя самыя захады. Толькі ва ўсё горшым выглядзе.

А колькасцю ж напісаных кароў вызначаецца геніяльнасць мастака.

* * *

Прырода ёсць жывая карціна і можна ёю цешыцца. Мы жывое сэрца прыроды. Мы самая каштоўная канструкцыя гэтай велізарнай, жывой карціны.

Мы яе жывы мозг, які павялічвае яе жыццё.

Паўтараць яе — ёсць крадзёж, і той, хто яе паўтарае — ёсць злодзей, нікчэмнасць, якая не можа даць, а любіць узяць і выдаць за сваё. (Фальсіфікаты).

* * *

Прынцып дзікуна ёсць задача стварыць мастацтва ў бок паўтарэння рэальных формаў натуры.

Намерваючыся перадаць жыццё формы — перадавалі ў карціне мёртвае.

Жывое ператварылася ў нерухома-мёртвы стан.

Усё бралася жывое, трапяткое і мацавалася да палатна, як прымацоўваюць насякомых у калекцыі.

* * *

Мастакі былі чыноўнікамі, што апісваюць маёмасць натуры, аматарамі калекцый заалогіі.

Бліжэй да нас моладзь занялася парнаграфіяй і ператварыла жывапіс у пажадлівы хлам.

Не было спробы чыста жывапісных задач, як задач, без ніякіх атрыбутаў рэальнага жыцця.

Не было рэалізму самаэтнай жывапіснай формы і не было творчасці.

* * *

Футурызм адкрыў «новае» ў сучасным жыцці: прыгажосць хуткасці.

А праз хуткасць мы рухаемся хутчэй.

І мы, яшчэ ўчора футурысты, праз хуткасць прыйшлі да новых формаў, да новых адносін да натуры і рэчаў.

Мы прыйшлі да супрэматызму, пакінуўшы футурызм, як пралазіну, праз якую будуць праходзіць тыя, што адсталі.

Футурызм кінуты намі, і мы, хто найсмялейшы, плюнулі на алтар яго мастацтва.




Вокладка кнігі Казіміра Малевіча.

Манументальная постаць Казіміра Малевіча, вялікага творцы XX стагоддзя, стаіць у гісторыі сусветнага мастацтва побач з такімі апосталамі, як Ле Карбюзье, Піт Мандрыян, Пабла Пікаса. Лепшыя музеі Нью-Йорка, Амстэрдама, Ленінграда і Масквы экспануюць яго выразны жывапіс. У Венгрыі, Славакіі, ГДР і ЗША выдаваліся манаграфіі, прысвечаныя творчасці Казіміра Севярынавіча Малевіча і яго вучняў.

З 1918 па 1922 год Казімір Малевіч жыў і працаваў у нашым Віцебску, дзе стварыў сваю мастацкую школу. Сярод яго паслядоўнікаў былі і такія цяпер сусветна вядомыя мастакі, як Лісіцкі і Чашнік. Малевічава школа УНОВИС (сцвярджэнне новага) займалася распрацоўкаю новага жывапісна-архітэктурнага стылю супрэматызму (ад лацінскага supremus — вышэйшы). Тэарэтычнае абгрунтаванне супрэматызму Казімір Малевіч выклаў у сваіх артыкулах: «Ад кубізму і футурызму да супрэматызму» — новы жывапісны рэалізм, 1915 год, Масква; «Супрэматызм — 34 малюнкі», 15 снежня 1920 года, Віцебск.

Ніводнае палатно не выклікала ў XX стагоддзі столькі спрэчак, як «Чорны квадрат» (1913) Казіміра Малевіча. Нават «Белы куб на белай плоскасці» Ле Карбюзье і неапластыцызм Піта Мандрыяна не сустрэлі такой агрэсіўнай варожасці і неразумення, як «Чорны квадрат», нягледзячы на тое, што ўсе яны вырашалі адны і тыя ж задачы па абнаўленні і ачышчэнні жывапісных і архітэктурных формаў. І гэта, зрэшты, не дзіўна, бо спажывецка-прымітыўнае стаўленне да мастацтва было да Малевіча і засталося пасля яго. Меркаванне, што судзіць і ацэньваць жывапіс мае права кожны, і сёння ўспрымаецца як неабвержны закон. Але чаму тады ніхто не асуджае матэматыкаў за тое, што яны займаюцца алгебрай, а не толькі арыфметыкай! Напэўна, збольшага мы ўсё ж зразумелі, што, каб выказвацца пра навуковае адкрыццё, трэба, як мінімум, ведаць сам прадмет. Але якую цану мы заплацілі за сваё разуменне! Колькі нам каштавалі выказванні семінарыста пра мовазнаўства! Колькі чалавецтва страціла з-за тых адзнак, што выстаўлялі астраномам інквізітары!

Адкрыцці, зробленыя Казімірам Севярынавічам Малевічам, калі іх метафарычна параўнаць з навуковымі, займаюць такое ж пачэснае месца, як сістэма Каперніка ў астраноміі ці геаметрыя Лабачэўскага ў матэматыцы.

Казімір Малевіч адкрыў новы падыход да архітэктурнай формы. Дзякуючы яго лабараторным доследам узнік канструктывізм, і мы маем магчымасць хутка будаваць шматпавярховыя гарады.

Для тых, каму будзе недастаткова змешчаных у часопісе рэпрадукцый і фрагментаў з артыкула «Ад кубізму і футурызму да супрэматызму», раю прачытаць кнігу Kazimir Malevič «O nepredmetnom svete» state 1915—1922 (Bratislava, 1968). Толькі не кажыце, што гэта благая і непатрэбная кніга, асабліва калі вы не ведаеце славацкай мовы.

Адам ГЛОБУС



К. МАЛЕВІЧ. Дрывасек. 1912.

* * *

І цалкам натуральнае ваша неразуменне. Хіба можа зразумець чалавек, які ездзіць заўсёды ў таратайках, перажыванні і ўражанні таго, хто едзе ў экспрэсе або ляціць у паветры.

* * *

Мастак павінен ведаць цяпер, што і чаму адбываецца ў яговых карцінах.

Раней ён жыў нейкім настроем. Чакаў, калі ўзыдзе месяц, змяркання, надзяваў зялёныя абажуры на лямпы і ўсё гэта наладжвала яго, як скрыпку.

Але калі ў яго спытаешся, чаму гэты твар крывы або зялёны, ён не мог даць дакладнага адказу.

«Я так хачу, мне так падабаецца...»

Урэшце гэтае жаданне прыпісалі інтуітыўнай волі.

Такім чынам, інтуітыўнае пачуццё не гаварыла ясна. А калі так, дык яно было не



К. МАЛЕВІЧ. Супрэматычны жывапіс. 1916.

толькі ў паўсвядомым стане, але і было зусім пазасвядомае.

У карцінах была блытаніна гэтых паняццяў. Карціна была паўрэальная, паўвычварная.

## ЖЫВАПІС У ФУТУРЫЗМЕ

Футурысты вылучаюць, як галоўнае, дынаміку жывапіснай пластыкі.

Але не знішчыўшы прадметнасці, дасягаюць толькі дынамікі рэчаў.

Таму футурыстычныя і ўсе карціны мінулых мастакоў могуць быць зведзены з 20-ці фарбаў да адной, не страціўшы сваёй уражлівасці.

Карціна Рэпіна «Іаан Грозны» можа быць зняфарблена і дасць нам аднолькавае ўражанне жудасці, як і ў фарбах.

Сюжэт заўсёды заб'е фарбу, і мы яе не заўважым.

Тым часам як распісаныя твары ў зялёнае і ў чырвонае забіваюць да пэўнай ступені сюжэт і фарба прыкметная болей. А фарба ёсць тое, чым жыве жывапісец: значыцца, яна ёсць галоўнае.

* * *

І вось я прыйшоў да чыста фарбных формаў.

І супрэматызм ёсць чыста жывапіснае мастацтва фарбаў, самастойнасць якога не можа быць зведзена да адной.

Бег каня можна перадаць аднатонным алоўкам.

Але перадаць рух чырвоных, зялёных, сініх мас алоўкам нельга.

Жывапісцы павінны адкінуць сюжэт і рэчы, калі хочуць быць чыстымі жывапісцамі.

* * *

Прадмет, напісаны па прынцыпе кубізму, можа лічыцца закончаным тады, калі вычарпаны дысанансы яго.

А ўсе формы, якія паўтараюцца, павінны быць прапушчаны мастаком, як паўторы.

Але калі ў карціне мастак знаходзіць мала напружанасці, дык яго воля ўзяць гэта ў іншым прадмеце.

Такім чынам, у кубізме прынцып перадачы рэчаў адпадае.

Робіцца карціна, а не перадаецца прадмет.

Адгэтуль выснова такая:

Калі ў мінулыя тысячагоддзі мастак імкнуўся падысці як мага бліжэй да выяўлення рэчы, да перадачы яе сутнасці і сэнсу, дык у нашай эры кубізму мастак знішчыў рэчы з іх сэнсам, сутнасцю і прызначанасцю.

З іх абломкаў вырасла новая карціна.

Рэчы зніклі, як дым, для новай культуры мастацтва.

* * *

Квадрат не падсвядомая форма. Гэта творчасць інтуітыўнага розуму.

Аблічча новага мастацтва!

Квадрат — жывое царэўнае дзіця.

Першы крок чыстай творчасці ў мастацтве. Да яго былі наіўныя выродствы і копіі з натуры.

* * *

Усё бяжыць з мінулага да будучага, але ўсё павінна жыць цяперашнім, бо ў будучым адцвітуць яблыні.

След цяперашняга сцірае заўтра, а вы не паспяваеце за бегам жыцця.

Ціна мінулага, як жарон з млына, цягне вас у вір.

Вось чаму мне ненавісныя тыя, якія абслугоўваюць вас надмагільнымі помнікамі.

Акадэмія і крытыка ёсць гэты жарон на вашай шыі — стары рэалізм, плынь, што цячэ да перадачы жывой натуры.

У ім чыняць гэтаксама, як у часы вялікай інквізіцыі.

Задача смешная, бо хочуць, чаго б гэта ні каштавала, на палатне прымусіць жыць тое, што бяруць у натуры.

Тым часам, калі ўсё дыхае і бяжыць,— у карцінах застылыя паставы.

А гэта пытка горшая за калесаванне. Скульптурныя статуі адухоўленыя, значыцца, жывыя, стаяць на мёртвай кропцы, у позе бегу.

Хіба не пытка?

Укласці душу ў мармур і потым ужо з жывога здзекавацца.

Але ваш гонар — гэта мастак, які здолеў катаваць.

Вы скажаце, і птушак у клетку таксама для задавальнення.

І для ведання трымаеце жывёл у заалагічных садах.

Я шчаслівы, што вырваўся з інквізітарскай катоўні акадэмізму.

Я прыйшоў да плоскасці і магу прыйсці да вымярэння жывога цела.

Але я буду карыстацца вымярэннем, з якога ствару новае.

1915 г. Масква

**Пераклаў з рускай**
**Васіль СЁМУХА**



К. МАЛЕВІЧ. Архітэктон. 1926.



**Алена САЗАНОВІЧ**

Мал. Канстанціна ВАШЧАНКІ

ПОГЛЯД

# АЛЬМА МАТЭР З БУТЭРБРОДАМ ЗА ШЧАКОЮ



**Вуглы газеты**
**пастаянна загіналіся.**
**І чытаць**
**было вельмі нязручна.**
**Газета ўвогуле**
**лепш чытаецца,**
**калі вісіць на сцяне.**
**Яшчэ свежая.**
**Калі яна пахне тушшу і чарнілам.**

**А цяпер, калі яе скруцілі ў рулон, выгляд у яе быў досыць занядбаны. Я замацавала яе вуглы ўсім, што трапілася пад руку. Блакнотам, падручнікам, скрыначкаю ад сашчэпак. І стала чытаць.**

**Газета «ВозГлас». Нумар другі. Рэдкалегія: Аляксей Аляксандраў, Аляксандр Талаш, Сяргей Вішнеўскі — студэнты 3-га курса Мінскага педінстытута. Гістфак.**

**З артыкула «Хто мы!»:**

**«...Традыцыйна студэнцтва ўяўляла сабою самую адукаваную, рэвалюцыйную, а галоўнае, салідарную групу ў грамадстве. Што ж мы маем у нас сёння з адукаванасцю і салідарнасцю...**

**ВНУ страціла тую аснову, на якой грунтавалася сапраўдная цікавасць да вучобы як пастаяннай творчасці. Аднак гэта не самы страшны вынік. Студэнт не толькі развучыўся адукоўваць сябе, але ён страціў і свой сацыяльны твар. Ён перастаў быць актыўным увогуле, а не толькі ў пазнанні. Атрымліваючы веды як гатовыя бутэрброды, не затрачваючы на іх прыгатаванне ані грама сіл, мы з аднолькавай абыякавасцю пражоўваем і глытаем як навуковую ісціну, так і бутэрброд... І вось мы бачым, як выраджаецца ўслед за адукаванасцю яшчэ адна ўласцівая студэнту якасць — здаровая рэвалюцыйнасць. Імкненне да ўсяго прагрэсіўнага і новага...»**

**А мне ў камітэце камсамола інстытута сказалі пра гістфак, як пра «бурлівы» факультэт. Тады пры чым тут абыякавасць будучага гісторыка, які з цяжкасцю перажоўвае зачарсцвелы бутэрброд ведаў!**

**— Ігар, ваш факультэт і праўда «бурліць»! — спыталася я ў сакратара камітэта камсамола гістфака Ігара Карпенкі.**

**Ігар падрабязна і грунтоўна расказаў пра змены на факультэце:**

**Пра тое, як адзін раз на тыдзень студэнты займаюцца самастойна.**

**Як уводзіцца вольнае наведванне.**

**Як далучаюць студэнтаў да працы ў складзе вучонага савета.**

**Як удзельнічаюць яны ў пасяджэннях стыпендыяльнай камісіі.**

**Як, як, як... Такіх «як», у прынцыпе, можна налічыць досыць шмат. Калі б не было гэтак доўга і нудна. Хаця менавіта дзякуючы гэтым «як» можна пэўна сказаць:**

**«Вы ведаеце, на гэтым факультэце перабудова ідзе поўным ходам. У рамках дазволенага».**

**Так, вядома. Калі не браць у разлік усё той жа ўпамянёны бутэрброд, якім гультаявата частуюцца гістфакаўцы...**

**...На гістфаку ўсё ішло ў рамках устаноўленага. Устаноўленага ўжо з улікам сённяшняга часу. Прагаласавалі за змены. І гэтыя змены пасяліліся на факультэце (без іроніі) у параўнанні з іншымі факультэтамі досыць трывала.**

**Але аднае раніцы гэтыя досыць трывалыя рамкі ўстаноўленага рассунуліся. У іхнюю прастрань, забітую параграфамі, указаннямі, сходамі, сціпленька (ці не надта) уціснулася газета. Звычайная такая насценная газета. Метр на метр. Пароды ватманаўскай і гуашавай. З кідкаю назваю «ВозГлас» і шорсткім эпіграфам: «Пусть тишину вокруг нас нарушит возглас...»**

**Ну як, парушыў! Вядома. Без пытанняў. Тым больш што газету зрабілі тры студэнты. Без апекуноў. Без указанняў і без падказак. Самі. Набалела — і зрабілі. Накіпела — і напісалі.**

**— Ну і як, парушыў! — паўтараю сваё пытанне аўтарам гэтага выдання. Аляксею. Сашу. Сяргею.**

**— Першы нумар нас натхніў. Нас віншавалі з поспехам. Казалі, што мы малайцы. Водгукі пра газету клеілі на сцяну.**

**— Мы прыдумалі крыжыкі. Хто з намі згодны — стаў крыжык на асобны ліст паперы. Многія малявалі іх на самой газеце.**

**— Хаця ўжо пасля першага нумара пачаліся сякія-такія звадкі. Нібыта ў нас асабістая антыпатыя да прафсаюзных лідэраў. Таму мы іх «прапясочылі» ў першым нумары.**

**— «Дзякуй, што вы думаеце нас, «сірых і ўбогіх», далучыць да мудрасці»,— чуліся рэплікі. Гэта з нагоды нашай рэкламы ў «ВозГласе» платонаўскага «Катлавана» і бялоўскіх «Пярэдадняў».**

— Але, у прынцыпе, гэты нумар быў досыць зычліва прыняты і студэнтамі, і дэканатам. Галоўнае, чаго мы хацелі дамагчыся,— гэта абудзіць усіх ад сну. І нам здавалася, што гэта вось-вось удасца...

«ВозГлас». Усё той жа другі нумар. Верш «Помнік». Вызначаны дэканам факультэта як апалітычны і безыдэйны.

Не буду меркаваць пра мастацкія асаблівасці верша. Але смеласці яму не пазычаць. Нават на сённяшні дзень. А ў словах «безыдэйны» і «апалітычны», па-мойму, варта было б зняць прыстаўкі. Час распісваецца паводле законаў іншага правапісу.

Затое потым, дзе трэба і можна, нядрэнна пахваліцца: «А вось у нас сапраўдная дэмакратыя. Самі студэнты выдаюць газету. І такія вершы ў ёй друкуюць!» Так, не было б газеты і мне наўрад ці б сказалі пра гістфак як пра «бурлівы». Так што палітыка бізуна і перніка і сёння яшчэ ў сіле. На жаль.

Але справа нават не ў дэканаце. І не ў прафсаюзнай і камсамольскай арганізацыі. Справа ў саміх студэнтах. Якія па-ранейшаму знаходзяцца ў стане зімовае спячкі. З поўным ротам разжаваных бутэрбродаў.

З артыкула «Хто мы!»:

«Сапраўдную ініцыятыву, бескарыслівы імпэт, імкненне жыць і вучыцца з цікавасцю мы з поспехам падмянілі шырокай і спакойнай «ракою грамадскага жыцця», вызначыўшы ёй рэчышча і хуткасць цячэння, а разумеючы, якую цяжкую ролю адвялі капітанам гэтае ракі, іхнюю работу мы назвалі «грамадскай нагрузкаю». І цячэ гэтая рака са сваімі капітанамі, што ніколі не тонуць, пасярод велізарнага, застылага ў абыякавасці мацерыка — здаровай студэнцкай масы. І як ні круці, паміж ракою і сушаю няма ні кантакту ні ўзаемаразумення».

Другі нумар студэнцтва сустрэла мёртвай цішынёю. Чытаць — чыталі. Ці дачытвалі — яшчэ невядома. Водгукаў — аніякіх. «Возгласы» былі. Але не тыя, на якія хацеў працаваць «ВозГлас». Былі тыя, на якія ён не хацеў працаваць. Накшталт: «На фіга вам усё гэта трэба!»

Было аб'яўлена, што другі нумар скочваецца. І трох «пісак» запрасілі ласкава на «актыў». Тэма пасяджэння: як актывізаваць студэнцкія масы.

На «актыве» абмяркоўвалася ідэя, выкладзеная ў газеце: органам студэнцкага самакіравання лічыць агульны сход студэнтаў.

«ВозГлас». Другі нумар. З артыкула «Хто мы!»:

«Давайце раз у месяц збірацца ўсёй грамадою факультэта на наш студэнцкі сход. Падкрэсліваю: менавіта студэнцкі... Збірацца... як студэнты гістфака, без прадстаўнікоў дэканата. Без выкладчыкаў. Давайце будзем вырашаць нашы студэнцкія пытанні і праблемы. Давайце будзем выпрацоўваць нашы канкрэтныя наказы прадстаўнікам у Савеце інстытута.

...Дык хто мы! Паспрабуем адказаць на гэтае пытанне нашай дзейнасцю...»

Яны, як сапраўдныя гісторыкі, хацелі прыдумаць нешта накшталт «народнага веча». Іх не падтрымалі. Але калі б іх не падтрымалі толькі на «актыве»! Тэматыка пасяджэння якога не такая ўжо і далёкая ад тэматыкі «ВозГласа»: «Як актывізаваць студэнцкія масы!» Калі б іх не падтрымалі ў дэканаце... Было б прасцей. Была б магчымасць гучна выкрываць спробу «вярхоў» задушыць шчырыя пачынанні «нізоў». У тым уся і справа, што карэспандэнтаў газеты не падтрымалі самі «нізы». Самі студэнцкія масы.

Але чаму!

Адны лічылі, што ўсё гэта робіцца з нейкай карыслівасцю.

Сяргей: «Але гэта смешна. Мы ні на якія пасады не прэтэндуем».

Іншыя лічылі, што хлопцы спрабуюць разбіць факультэт. І пры гэтым проціпаставіць сябе камсамолу і прафсаюзу.

Аляксей: «Але гэта няпраўда. Мы выдатна разумеем: калі што і адбываецца ў студэнцкім жыцці, дык гэта справа рук камсамола. Дакладней, яго лідэраў. Але не саміх студэнтаў. Менавіта таму мы хацелі не проціпаставіць сябе камсамолу, а дапамагчы яму. Дапамагчы падняць актыўнасць саміх студэнтаў».

Дык у чым жа справа! Чаму на закрытым камсамольскім сходзе, які ўпершыню праводзіцца на гістфаку без прадстаўнікоў дэканата і выкладчыкаў, толькі адзінкі паднялі рукі за ідэю «народнага веча». І лес рук — супраць. А парторг факультэта «па-партыйнаму» падзякаваў студэнтам за тое, што яны далі сапраўдны бой гэтай жменьцы адшчапенцаў, якія проціпаставілі сябе масе. А хтосьці назваў дзейнасць трох студэнтаў «варожай вылазкай». Зусім «сугучна часу». Ці ж не так!

Ігар Карпенка, сакратар камітэта камсамола: «Мы, увогуле, ішлі на гэты сход з пэўнай мэтаю: калі масы не падтрымаюць наш пункт гледжання, мы падаём у адстаўку. Ну самі падумайце, што яны прапаноўвалі! Агульны сход няхай вырашае свае пытанні. А камсамольскі і прафсаюзны — свае. А ў нас усіх, па-мойму, адна галоўная задача: падрыхтаваць высокакваліфікаваных спецыялістаў. Ідэю «тройкі» адкінулі. Нашы масы ўсё-такі ўмеюць ацаніць сітуацыю».

Я хуценька прыкінула: як бы я прагаласавала ў гэтай сітуацыі! Напэўна, супраць. Але, вядома, не таму, што спалохалася б за камсамол і прафсаюз, якія нехта хоча «падмяніць» агульным студэнцкім сходам. Проста, калі над тваім вухам гучыць уладнае: «Хто за тое, каб праводзіць у абавязковай форме яшчэ адзін сход!..» — міжволі падумаеш: «Яшчэ адзін! Мне па вушы гэтых хапае. Не ведаеш, як ад іх адвязацца». Тут, бадай, можна разлічваць на тры-чатыры ўзнятыя рукі. Ад сілы.

З РАЗМОВЫ З АЎТАРАМІ «ВОЗГЛАСА»:

— Нас проста не зразумелі. І ў першую чаргу вінаватыя мы самі. Не здолелі растлумачыць усё як след.

— Адна дзелавая прапанова была прынята на гэтым сходзе: мы можам выкладаць свае думкі ў любой форме. І пры гэтым наша газета мае права быць самастойнаю. Не належаць ніякай арганізацыі.

— Але мы, вядома, спадзяёмся, што ў перспектыве яна ўсё-такі стане органам студэнцкага самакіравання.

Чый «ВозГлас»! Шукаючы адказ на гэтае пытанне, нямала дзідаў зламалі. Нейкая незразумелая газета. Нічыя. Адкуль! Куды! З якіх такіх радасцей! У нас жа кожны друкаваны орган належыць якой-небудзь арганізацыі. Нават калі гэтая «газета» выходзіць экспромтам. Выдаецца за пяць хвілін. На двайным аркушы, вырваным наспех са сшытка. Робіцца «галёркаю», што сумуе на лекцыі. Усё роўна, калі газета — павінна быць і яе арганізацыя.

«ВозГласу» было прапанавана стаць органам камітэта камсамола. І аднаго з рэдактараў увесці ў склад камітэта. Яны адмовіліся. Прынцыпова.

Усё роўна. Падумайце. Станьце чым-небудзь органам. Ну... Ну... Напрыклад, органам навуковага студэнцкага таварыства. І чаму б не органам таварыства па ахове прыроды! Ці барацьбы за цвярозасць! І яны не дужа ахвотна дапісалі: «Студэнцкае навуковае таварыства». І гэтае «СНТ» красавалася, пакуль да іх не падбег яго абураны старшыня. І не пачаў разбірацца: ці ж не дзякуючы гэтым тром літарам яны хочуць заваяваць сабе папулярнасць!

Але ўсё абышлося нармальна. І досыць дэмакратычна. Дзякуючы той самай камсамольскай арганізацыі. На закрытым камсамольскім сходзе пастанавілі: «ВозГлас» можа быць і органам усяго толькі трох чалавек і няблага пры гэтым сябе пачуваць.

Саша: «У чым парадокс!.. Выкладчыкі выявілі сябе больш дэмакратычнымі, чым студэнты. Камсамол, які, можна сказаць, дыскрэдытаваў сябе, паставіўся да нас зусім неабыякава. Увогуле, пайшоў нам насустрач. Студэнты ж — індыферэнтныя. Так і жывуць, як жылі. Так і дыхаюць. Усё па-ранейшаму. І нікому нічога не трэба».

Можа, і праўда: кожны народ варты тае ўлады, якую мае!

Я размаўляю са «жменькаю адшчапенцаў». Якія ніколі не былі галоўнымі асобамі грамадскага жыцця. Але якім раптам так захацелася змяніць гэтае грамадскае жыццё. І ў якіх нічога не атрымалася.

Можа, таму, што мае равеснікі, якія ніколі не давяралі ніякім ініцыятывам, наўрад ці змогуць у іх паверыць сёння. Ці проста на гэта патрэбны час. Шмат часу...

Размаўляю далей з «апазіцыяй». Ці «адшчапенцамі», як іх яшчэ называюць. Разумныя. Начытаныя. Інтэлігентныя. Няўжо яны разлічваюць штосьці выправіць! Разбіць недавер. І змяніць выраз твару студэнта. З запляснелым бутэрбродам за шчакою.

І я зусім шчыра паўтараю чыёсьці пытанне:

— Навошта вам усё гэта трэба!

— Чым болей дэмакратычных формаў, тым хутчэй навучымся дэмакратыі. Хіба не так! І яшчэ мы за тое, каб да ВНУ вярнулася ягоная сапраўдная назва: альма матэр,— сказаў хтосьці з іх. А можа, усе разам.

...«ВозГлас» скруціўся ў рулон. Я паспела прабегчы вачыма па апошніх радках:

«...Мы хочам вольнага і роўнага кантакту — на самыя розныя тэмы, якія хвалююць нас і як студэнтаў канкрэтнага факультэта, і як грамадзян нашай Радзімы».




# «КАБ НЕ ПРАПАСЦІ Ў АДЗІНОЦЕ...»

Святлана БАРТОХАВА,
спецыяльны карэспандэнт

МНОГІЯ журналісцкія матэрыялы пра камандзіроўкі пачынаюцца з дарожнай лірыкі. Напрыклад, з апісання стройных бярозак, што мільгацяць за акном цягніка, альбо звонкіх кропляў дажджу, што барабаняць па шкле ўсё таго ж акна... Мабыць, гэта павінна дапамагаць чытачу настроіцца на суперажыванне, а аўтару — зрабіць разбег і адладзіць дыханне.

Уратавальны лірычны ўступ... Яго не будзе, чытач. Тэма маёй камандзіроўкі не схіляе да лірыкі, хутчэй наадварот. Паверце, мне няпроста пачаць размову пра тое, што ў недалёкім былым лёгка ўпісвалася ва ўсеагульную словатворчасць, застаючыся пры гэтым гучным, які ні да чаго не абавязвае, лозунгам. І ўсё-ткі я рызыкну. Рызыкну загаварыць пра нашую адказнасць. Адказнасць за тое, што адбываецца з тымі, хто жыве побач з намі.

Вось напісала добрае слова «адказнасць» — і амаль фізічна адчула ягоную заношанасць і спарахнеласць. Памятаеш, «адказныя» былі ўсе і за ўсё — а ў выніку ніхто і ні за што. Не бяруся сцвярджаць, нібыта сёння гэтаму слову ўжо вярнулі ягоны першапачатковы змест, але ўсё ж спадзяюся, што адносіны да яго зменяцца. І таму звяртаюся да Вашага сэрца. Гучна, але менавіта так: да сэрца! Бо, як сказаў Экзюперы, відушчае адно толькі яно.

У першым нумары «Крыніцы» быў надрукаваны ліст Ларысы Тамільчык з г. Слоніма Гродзенскай вобласці — пра інвалідаў-«карчагінцаў». Публікацыя аказалася слабенькім сігналам званочка, якога так ніхто і не пачуў, а калі пачуў, дык ніяк на яго не зрэагаваў.

Ці шмат ведаем мы пра «карчагінцаў»!.. У камітэтах камсамола, напрыклад, адказ на маё пытанне быў няпэўны. Пра афганцаў-інвалідаў памятаюць, з імі вядзецца, як кажуць, «пэўная работа». А «карчагінцы»... Камсамол, якому да ўсяго ёсць справа (ва ўсялякім разе мы прывыклі думаць, што гэта так), імі не займаецца, значыцца, і самой праблемы нібыта не існуе. Доўгі час гэтая балючая тэма — як, дарэчы, і мноства іншых, не менш балючых тэм — не выпускалася на старонкі прэсы. І толькі цяпер мы пачынаем адсоўваць заслону...

Удумайцеся ў лічбу, чытач: у нашай краіне каля трох працэнтаў насельніцтва — інваліды. Не палянуйцеся, зрабіце нескладанае арыфметычнае дзеянне. Падлічыце і ўявіце: некалькі мільёнаў чалавек — гэта ж цэлая краіна! Цэлая краіна людзей, адрэзаных ад свету грамадскай недасведчанасцю. Ці абыякавасцю!.. Мільёны людзей, якім востра нестае дапамогі і якія, на наш сорам, часта абдзеленыя нават элементарнай увагаю...



Каб даведацца пра «карчагінцаў» з першых рук, я паехала ў Слонім да Ларысы Тамільчык.

Шчыра кажучы, я пераступала ганак яе хаты са змяшаным пачуццём няёмкасці і віны. Яшчэ ў двары ўбачыла першыя прыкметы таго, што тут пасялілася бяда: самаробныя поручні з абодвух бакоў вузкае сцежкі, груваастская інвалідная каляска ля сцяны. Цяжкае, невядомае мне жыццё — а тут я са сваімі пытаннямі...

Мяне сустрэў Ларысін бацька, Антон Якаўлевіч, правёў па ўтульнай, з гарадской мэбляю хаце ў вялікі пакой, папрасіў пачакаць. Праз нейкі час з'явілася Ларыса, якую падтрымліваў бацька. Ён дапамог ёй уладкавацца на канапе, абсталяванай як рабочы куток: поручні ўздоўж, каб можна было трымацца, столік з пішучай машынкаю, кнігі і паперы, раскладзеныя на канапе і століку.

Мая суразмоўніца — абаяльная дзяўчына з жывымі разумнымі вачыма. Адзначаю сабе вобразнасць яе мовы і пазней даведваюся, што Ларыса піша вершы. Паэзію яна любіць да самазабыцця, на рабочым століку заўсёды ляжаць Цвятаева і Ахматава, якія падтрымліваюць у сумную часіну. Ларыса шмат чытае і аналізуе прачытанае, асабліва класіку. Была ўзрушаная, адкрыўшы для сябе Уладзіміра Караткевіча, і нават пачала перакладаць яго на рускую мову, каб самастойна прасачыць таямнічы працэс нараджэння ягоных вобразаў.

— Калі б лёс не шпурнуў мяне ў маё змушанае становішча, я б так не вырасла ў душы,— расказвае Ларыса.— Мабыць, паціху ператваралася б у «сярэднюю пасрэднасць». Здаровы ж чалавек жыве зусім у іншым вымярэнні, часта раскідваючыся на глупствы і не спяшаючыся напаўняцца. І ўсё-ткі набытае ў маім становішчы, вядома, не параўнаць з тым, што я перажыла і страціла.

Бяда ў яе жыцці грымнула нечакана. У пятым класе перахварэла на грып — цяжкі, з высокай тэмператураю і ўскладненнем. Гэта стала пачаткам блукання па пакутах, якое працягваецца трынаццаць гадоў. Быў час, калі Ларыса не магла ні рухацца, ні гаварыць; здавалася, што толькі вочы ў ёй і жылі. Ляжала і марыла, як возьме калі-небудзь кнігу, лыжку, маміну руку, як зможа апрануцца і прычасацца без чыёйсьці дапамогі. У думках вадзіла пальцам па коўдры, уяўляючы, як будзе пісаць літары,— і здавалася гэта не-

магчымым, нязбытным шчасцем...

Яны адольвалі хваробу спакваля — Ларыса і яе бацькі. Кожная маленькая перамога прыносіла велізарную радасць і ўсяляла ў сэрца надзею. Ларыса дома скончыла сярэднюю школу, настаўнікі і аднакласнікі пяць гадоў штодня прыходзілі да яе з урокамі.

— Галоўнае ў жыцці — чалавечая дабрыня,— кажа Ларыса.— У кожнай сотні людзей знойдзецца і Хрыстос, і Іуда, і ўсё-ткі, нягледзячы ні на што, у народзе болей дабрыні, чым злосці. Я адчула гэта на сабе, калі вучылася ў школе.

— А што было пасля школы?

— А пасля... На жаль, часта бывае і так, што добрыя пачуцці застаюцца ляжаць у чалавеку дзесьці на самым дне, незапатрабаваныя і невыяўленыя. Часам даводзіцца сутыкацца з такой чэрствасцю, што рукі апускаюцца... Мне пашанцавала, побач са мною — самаахвярныя бацькі, а як іншым? Самае страшнае для інваліда — адчуваць сябе абузаю, і кожны зварот аб дапамозе да чужых людзей — пакутлівы, а іншы раз і зневажальны, таму што не заўсёды сустракаеш разуменне...

— У вас былі такія выпадкі?

— Але... Напрыклад, нядаўна патэлефанавала ў кнігарню, спыталася, ці ёсць патрэбныя мне кнігі па мастацтве. Адказалі, каб прыйшла сама і паглядзела. «Я не магу хадзіць без чыёйсьці дапамогі»,— кажу. «А ў мяне вялікі аддзел, і мне няма калі хадзіць па ім і глядзець вашыя кнігі!» Здавалася б, дробязь, а ў мяне камяк у горле... Болей я да іх не звярнуся... Ведаеце, можна зразумець, чаму некаторыя інваліды не вытрымліваюць — співаюцца, становяцца злосныя. Гэта ж невыносна: увесь час памятаць пра тое, што ты нікому не патрэбны, што ты лішні... Дарэчы, клуб «Карчагінец» многіх утрымлівае на паверхні. Вось і мне ён таксама дапамог...

— А як вы даведаліся пра клуб?

— Пачула па радыё перадачу, напісала на аб'яўлены адрас. Мне адказалі — і я стала членам мясцовага аддзялення «Карчагінца», у якім аб'ядналіся інваліды з Прыбалтыкі, Калінінградскай вобласці і Беларусі. Цэнтральны савет клуба знаходзіцца ў Свярдлоўску. Клуб наш завочны, яно і зразумела: нам няпроста сустракацца, тым больш што многія прыкаваныя да ложкаў. Мы сябруем па перапісцы, стараемся падтрымаць адно аднаго чым можам. У нас ёсць, напрыклад, каса ўзаемадапамогі, ёсць розныя службы: медыцынская, юрыдычная, тэхнічная... «Карчагінцы» шэфствуюць над інтэрнатамі для дзяцей-інвалідаў. У нас на Беларусі выпускаецца і сваё рукапіснае выданне — «Ветразь», яно выходзіць кожны месяц. Аб'ём невялікі, трошкі больш за дваццаць старонак. Фармат такі, каб змясціўся ў звычайным канверце: зручна перасылаць па ланцужку. У «Ветразі» мы дыскутуем на розныя тэмы, дзелімся вопытам па выкарыстанні методык для лячэння, знаёмімся з творчасцю «карчагінцаў»... Вялікія надзеі ўскладаем на Беларускае таварыства інвалідаў, якое хутка павінна стварыцца. Яно будзе вырашаць усе нашыя праблемы, пачынаючы з працаўладкавання і канчаючы, скажам, будаўніцтвам спецыялізаваных санаторыяў. Ва ўсякім разе вельмі хочацца верыць, што менавіта так і будзе...

— А як жа «Карчагінец»? Ці не адпадзе неабходнасць у ім?

— «Карчагінец» заўсёды будзе неабходны — «каб не прапасці ў адзіноце», як спявае Булат Акуджава. У клубе мы вучымся любіць і верыць — а як жа без гэтага жыць?..

І сапраўды, як жыць, калі не любіць і не верыць?..

Вярнуўшыся ў Мінск, я пабывала на канферэнцыі, прысвечанай утварэнню Беларускага таварыства інвалідаў (БелТІ). На канферэнцыю прыязджалі дэлегаты з усёй рэспублікі — з кіёчкамі, мыліцамі, у інвалідных калясках... У кожнага свой лёс, свая горыч. Ніколі яшчэ на мяне не абрушвалася столькі чужога болю адначасна. Шчымела сэрца, было цяжка глядзець і слухаць, і я не саромеюся прызнацца ў гэтым... Цікава, калі і хто першы абвясціў пра тое, што жаласлівасць зневажае чалавека? Можа, гэтая ганарлівая, а па сутнасці жорсткая формула павышае жыццяўстойлівасць тых, каго мы пазбаўляем спачування? Пытанне рытарычнае... Калі знішчаецца жаласлівасць, у грамадстве квітнее яе процілегласць.

Гэта яна, бязлітаснасць, дазваляе кінуць у твар маці, якая страціла ў Афганістане адзінага сына: «А я яго туды не пасылаў!» Гэта бязлітаснасць парадзіла незлічоныя дамы састарэлых пры заможных сваяках і ўзбагачалася на горы людзей з чарнобыльскай зоны, патрабуючы непамерную плату за месца пад паўднёвым сонцам... Мы паспелі выхаваць нямала жорсткасардэчных суграмадзян — а цяпер вось цешымся вынікамі... Здаецца, ужо схамянуліся, занепакоіліся. Усё часцей гаворым пра дэфіцыт спагады, якая, дарэчы, заўсёды была сінонімам усё той жа слепа адмаўляемай намі жаласлівасці. Спрадвечная народная жаласлівасць-любоў — першы крок да жадання дапамагчы. Яна не зневажае! І не будзем яе саромецца.

Дык успомнім жа тых, каму неабходныя нашая спагада, нашае спачуванне, успомнім — і дапаможам. Якім чынам? Гэта могуць быць «Атрады добрых спраў», «Клубы міласэрнасці», «Цімураўскія заставы» — галоўнае не ў назве. Вось дзе неабсяжны фронт работы для членаў камсамольскіх арганізацый і нефармальных аб'яднанняў.

З чаго пачаць? Ну хоць бы вось з чаго: узяць у аддзеле сацыяльнага забеспячэння мясцовага выканкома спісы інвалідаў, падзяліць іх на катэгорыі (скажам, у залежнасці ад магчымасці інвалідаў перамяшчацца, ад іх узросту ці зыходзячы з якіхсьці іншых момантаў). Пайсці па адрасах, даведацца, якая патрэбна дапамога, размеркаваць паміж сабою зоны дзейнасці. І не трэба баяцца катурхаць тых, хто здольны дапамагчы, але пакуль не спяшаецца. Напрыклад, працаўнікоў кінасеткі, якія маглі б арганізаваць для інваліда кінасеанс на доме; ці прадаўца з крамы, цырульніка, медыка, шаўца, працаўніка грамадскага харчавання...

І яшчэ. Бадай што самае галоўнае. Пераважная большасць інвалідаў пакутуюць з прычыны адсутнасці звычайных чалавечых зносін, бо асуджаны на вымушанае адзіноцтва. Паверце на слова, чытач: Вам самому зносіны з імі могуць даць нямала. Скажу пра сябе. Было б перабольшваннем сцвярджаць, што з нядоўгай слонімскай камандзіроўкі я вярнулася зусім іншым чалавекам, але ўсё-ткі на многае гляджу цяпер інакш. Я ведаю: мне будзе няёмка перад сабою, калі дазволю сабе расквасіцца з-за непрыемнасцей, ад якіх, на жаль, я не застрахаваная. Я ўспомню жывыя вочы Ларысы Тамільчык, яе ўпартую веру ў лепшае — і, дальбог, мабілізуюся. Сама таго не падазраючы, яна навучыла мяне цаніць жыццё, павярнула тварам да святла...

Думаю, не давядзецца дыскутаваць наконт таго, што, нягледзячы на нараджэнне БелТІ, ёсць неабходнасць стварыць і беларускае аддзяленне клуба інвалідаў «Карчагінец». Кожны, хто зацікаўлены ў гэтым, можа напісаць у «Крыніцу» альбо членам ініцыятыўнай групы. Вось іхнія адрасы:

225510, Брэсцкая вобл., г. Столін, вул. Пралетарская, д. 32, МЕЛЬНІК Таццяна;

211491, Віцебская вобл., Ушацкі р-н, п.а. Сарочына, в. Райкі, ЕМЯЛЬЯНАВА Ніна;

247306, Гомельская вобл., Кастрычніцкі р-н, в. Пружынішчы, д. 23, ТУКАЧ Роза;

231800, Гродзенская вобл., г. Слонім, вул. Я. Коласа, д. 11, ТАМІЛЬЧЫК Ларыса;

222120, Мінская вобл., г. Барысаў, вул. Транспартная, д. 15, ДЗІВЕЛЬ Галіна;

213412, Магілёўская вобл., Гарэцкі р-н, в. Сава, ВАСПЯКОВА Любоў.

**УВАГА!** «Крыніца» адкрывае пастаянную рубрыку, прысвечаную «карчагінцам». Яе перыядычнасць і змест будуць залежаць ад атрыманых матэрыялаў і лістоў.





Ігар КАЛОЎСКІ

# ТРАНСПЛАНТАЦЫЯ ДУШЫ

## ФРАГМЕНТЫ ЗАЎТРАШНІХ КІНАСТУЖАК

### ЖУРАВЕЛЬ НА ПЕНСІІ

*Однажды в пору первых холодов*
*Мы набрели на кладбище грибов.*
*Они стояли в ледяных кольчугах*
*И, солнцем озаренные, светились.*
*Я отломал стеклянный боровик,*
*В ладонях он оттаял и поник.*
*И грустно брат сказал:*
*«Не пригодились...»*

Ігар ШКЛЯРЭЎСКІ

«Не пригодились...» — паўтарыла далёкае рэха. Але гэта ўжо не пра грыбы... Гэта пра тых, хто не ўмясціўся ў стандартнае рэчышча жыцця, хто не хацеў быць бяднейшым, горшым, меншым за самога сябе.

Адзін з іх — Калоўскі. Кінарэжысёр Ігар Калоўскі. Ён здымаў карціны на розных кінастудыях, качаваў з Іркуцка ў Ленінград, з Ленінграда ў Хабараўск, з Хабараўска ў Мінск... І, качуючы па розных студыях, міжволі стаў падобны на вялікую стомленую птушку, якая пераляцела акіян і вось-вось апусціцца на ваду, каб аддыхацца і набрацца сіл для новых пералётаў. Але людзі з палкамі раптам з'яўляюцца на беразе і падымаюць яе ў паветра. Бывае ж так здараецца: раптам у заліве апускаецца птушка і глядзіць на людзей і не ляціць ад іх. А людзі набліжаюцца да яе і не разумеюць яе, не ведаюць, што яна надсадзіла сваё сэрца і ўжо не можа ўзняцца ў паветра, нават калі людзі прыйшлі забіць яе палкамі ці інструкцыямі.

Бо творчыя пералёты забіраюць у мастака ўсе сілы, але не забіваюць яго фізічна, таму што ёсць узнагарода за бяссонныя ночы, ёсць удзячнасць гледачоў. А прабіванне фільма, калі ўжо галоўнае зроблена, калі ўжо няма сіл, калі ўсе яны пайшлі на стварэнне мастацкага твора, на пакутлівы пошук свежых метафар і вобразаў, пакідае на сэрцы рубцы. Не ўсе людзі ходзяць з палкамі, дый палкі не такія страшныя, як інструкцыі, што можна, а чаго нельга рабіць у мастацтве.

Радаснымі і поўнымі надзеі былі першыя крокі Калоўскага ў кінадакументалістыцы: «Гэта вясна, Таймыр», «Саната» — пра першапраходцаў — пакарыцеляў прыродных багаццяў Поўначы, паэтычны фільм «Аянга» — гэтыя работы пазначаны буяннем творчае фантазіі рэжысёра, рамантычна ўзнёслым бачаннем шматкаляровага і жывапіснага свету. З першымі цяжкасцямі рэжысёр сутыкнуўся, ствараючы фільм «Фізікі», у якім пільныя чыноўнікі ўгледзелі міфічнае раскрыццё «дзяржаўных сакрэтаў», але гэтую карціну ўдалося адстаяць «малой крывёю»: паўтара года Ігар Калоўскі блукаў па лабірынтах сталічных кабінетаў, без зарплаты, але свайго дамогся: фільм выйшаў на экраны і быў адобраны ягонымі героямі — дубненскімі фізікамі, якія ўбачылі ў карціне першую спробу сур'ёзна і глыбока паказаць «непрыкметную» працу савецкіх вучоных, што зрабілі эпахальнае адкрыццё — знайшлі першы трансуранавы элемент.

Багата ў чым наватарскім фільмам, які апярэджваў свой час, была стужка пра перадавога будаўніка Барыса Каваленку, які трагічна загінуў у авіяцыйнай катастрофе. Гэтая праца прынесла Калоўскаму велізарнае творчае задавальненне і глыбокую творчую траўму. Ідучы не ад кан'юнктурных сцэнарных схем, а ад жыцця, таленавіты рэжысёр, які не спыняў свайго пошуку, прыйшоў у супярэчлівасць з уяўленнямі пра кінадакументалістыку, якія панавалі ў канцы 70-х гадоў. Механізм застойнага перыяду імгненна зрэагаваў на нестандартную сітуацыю: рэжысёр быў адхілены ад працы над карцінаю на апошнім этапе. Дзякуй Герду Франку, які здолеў рэалізаваць востры матэрыял свайго папярэдніка, не дазволіў творчай энергіі Ігара Калоўскага змарнавацца. Цяпер фільм «Без легенд» справядліва лічыцца этапнай працаю савецкай кінапубліцыстыкі, у цітрах жа імя галоўнага яго стваральніка — па сутнасці і рэжысёра, і сцэнарыста, і аператара,— згубілася сярод некалькіх імёнаў аператараў.

А вось фільм «Хатынь, 5 км», створаны ў 1968 годзе на «Беларусьфільме», адстаяць тады не ўдалося, і ён дваццаць гадоў праляжаў «на паліцы». На традыцыйным штогоднім конкурсе фільмаў беларускай кінастудыі ў гэтым годзе Ігару Калоўскаму быў прысуджаны за гэтую карціну спецыяльны прыз журы «За творчую смеласць і грамадзянскую мужнасць пры раскрыцці тэмы Хатыні ў беларускім дакументальным кіно». Фільм нарэшце быў ацэнены па сваёй вартасці, выпушчаны на экран. Дапамог час. Дапамагло і тое, што сярод членаў журы былі Святлана Алексіевіч і Аляксей Герман, якія на сабе адчулі згубную атмасферу нядаўняга часу (іх думкі пра фільм «Хатынь, 5 км» глядзіце на развароце).

Здавалася б, цяпер настаў час для такіх, як ён, і ён зможа працаваць на поўную сілу сфармаванага майстра ў росквіце творчых сіл. І мне балюча бачыць цяпер Ігара Калоўскага ў бальнічным калідоры. Яго высокая і згорбленая фігура ў казённым халаце, накінутым наапашку, з рукавамі, што матляюцца, напамінаючы бяссільна абвіслыя крылы стомленага жураўля. Здавалася б, што пасля такіх цяжкіх і доўгіх пералётаў ён знайшоў нарэшце прыстанак на Беларускім тэлебачанні: за цыкл знятых тут фільмаў пра няпросты лёс выдатных прадстаўнікоў нацыянальнае літаратуры Янку Купалу, Максіма Багдановіча, Петруся Броўку і Максіма Гарэцкага ён быў адзначаны летась Дзяржаўнай прэміяй БССР. Выпрабаванні не зламалі волі мастака, але пакінулі адчувальныя шрамы на яго сэрцы. Цяжкая хвароба сэрца прымусіла Ігара Калоўскага пайсці на пенсію па стане здароўя.

Сэрца Ігара Калоўскага мае патрэбу ў складанай хірургічнай аперацыі. На гэты крык аб дапамозе адгукнуўся Элем Клімаў, кіраўніцтва Саюза кінематаграфістаў СССР, якое выдзеліла яму вялікую суму ў валюце, каб лепшыя замежныя спецыялісты зрабілі яму аперацыю. Але чаму не ў нас, не ў нашай краіне? Ды таму, што застой, які адбіўся на асабістым лёсе мастака, адбіўся на ўсіх сферах жыцця, у тым ліку і на медыцыне. Пра гэта будзе фільм, сцэнарый якога піша цяпер Ігар Калоўскі. Умоўная назва работы — «Трансплантацыя душы». Падрыхтоўчыя матэрыялы да фільма і прапануюцца зараз увазе чытачоў. Мы публікуем фрагмент сцэнарыя — дыялог Ігара Калоўскага і прафесара Мікалая Яўсеевіча Саўчанкі.

Вадзім НЕБЫШЫНЕЦ

— Калі я папрасіў дырэктара Інстытута трансплантalогіі органаў, прафесара І. Шумакова выказаць думку аб рабоце Барыса Васільевіча Пятроўскага, той адмовіўся наадрэз. Я быў дужа здзіўлены... А вы, Мікалай Яўсеевіч, Пятроўскага ж выдатна ведаеце на працягу некалькіх дзесяцігоддзяў. Што гэта за «цуд» такі, што гэта за фенамен такі — Пятроўскі? Нястрыманае самалюбства ці звычайнае параджэнне мінулага часу? Вы разумееце, куды я хілю, што я хачу ад вас пачуць?

— ...Восемдзесят гадоў!

— Я ведаю, што хутка Пятроўскаму споўніцца восемдзесят гадоў.

— Роўна. Пятага ліпеня еду ў Маскву яго віншаваць.

— Як вы думаеце, наш урад адзначыць гэты юбілей?

— Не думаю. А можа, ордэн які дадуць, «Дружбы народаў», напрыклад.

— Калі не будуць разбірацца.

— Калі не будуць разбірацца...

— Яго падвядзе вынік шматгадовай дзейнасці, у выніку якой былі «закрытыя» многія накірункі медыцыны, з-за чаго не вылечыліся мільёны людзей.

— Можа, задужа строга. Вы ведаеце, пры ўсім, што вы сказалі, ён шмат зрабіў. Асоба, канешне, супярэчлівая, самаўладная, але... вы разумееце, ён жа таксама быў багата ў чым абмежаваны. Узяць цяперашняга міністра Чазава. Яго навуковае імя вельмі высокае. А імя міністра? Што ён будзе рабіць як практык-міністр? Ужо цяпер відаць, што Яўгену Іванавічу цяжка, надта цяжка.

— Цяжка сёння не толькі ў медыцыне. Цяжка выцягваць з сутарэнняў усю краіну...

— Чазаў шмат чаго абяцаў, але ўжо ясна, што многае выканана не будзе. Што скажуць, калі ён пойдзе з гэтай пасады, мы цяпер не ведаем. Ніхто надоўга ў крэсле не будзе затрымлівацца. Я, напрыклад, дваццаць адзін год быў на пасадзе міністра ў рэспубліцы. Гэта зусім недапушчальна. Два тэрміны — і досыць. Няхай прыходзіць новы чалавек, з новымі ідэямі, з новымі задумамі. Таму Пятроўскі... У яго, канешне, моцны быў суб'ектыўны бок.

— Растлумачце мне, калі ласка, такую прынцыповую падрабязнасць. Пятроўскім было накладзена вета, якое стала дзяржаўным законам,— забарона забору донарскага сэрца. Мазгавая смерць ім дагэтуль не прызнана! А донарская нырка, якую ён перасадзіў? Беззаконне!! Задаволіў сваё самалюбства, хваравітую ганарыстасць — і закон пашырыў рамкі, пасунуўся! Пераможаныя літаратурным словам, пляскаюць у ладкі Рашыдаву чытачы, якія лічаць яго сваім кумірам!

— А я выпісаў поўны збор твораў Рашыдава. Дзецям сказаў і калегам: «Хлопцы, выпісвайце Рашыдава, а то потым будзеце з-пад зямлі даставаць і не дастанеце».

— А пісьменнік Брэжнеў у вас ёсць?

— А як жа? Я зразумеў вашую задуму. Зразумеў. Вы хочаце паказаць той перыяд шырэй, паказаць, наколькі нашая медыцына адстала ад сусветнай навукі толькі з-за суб'ектыўных паняццяў, суб'ектыўных прычын?

— Быў час, калі самалюбівым амбіцыям, чыноўнаму паразітызму былі шырока расчыненыя вароты. Гэты час быў больш разбуральны, чым вайна! Развалілася эканоміка. Засыпалі «гербіцыдамі» маральнасць, сумленне, гонар, душу чалавечую. Гэтыя страты можна выправіць толькі праз пакаленні.

— Я разумею, пра што вы гаворыце. Барыс Васільевіч багата чаго зрабіў, каб стварыць першы ўзровень спецыялізаванай дапамогі. А Яўген Іванавіч Чазаў усё гэта цяпер разбурае. Я не занадта адкрыта гавару?

— А які сэнс нашай размовы без адкрытасці?

— І тое, што я стварыў дваццаць гадоў назад,— таксама цяпер разбураецца. Я працую на кафедры ў мединстытуце. Кафедра гіне. Як самастойная адзінка — гіне. Як і кафедра анкалогіі, іншыя кафедры. Барыс Васільевіч гэта ўсё разумеў, усё разумеў. І я б яго не крытыкаваў гэтак жорстка, як вы яго крытыкуеце. Не крытыкаваў бы гэтак. Не, не, не... Што ж да перасадкі сэрца ў тыя часы... не было ў нас тады тэхнічнай базы.

— Мне дакладна вядома, што Пятроўскі рыхтаваўся да перасадкі сэрца, рыхтаваў сенсацыю. Але яго апярэдзіў прафесар Вішнеўскі. Як жа Пятроўскі збіраўся выканаць гэтую складаную аперацыю без тэхнічнай базы? Толькі дзеля сенсацыі?

— Гэтай базы і цяпер няма. Гэта я вам кажу як былы міністр аховы здароўя. І грошай на гэта няма.

— Гэтая мелодыя мне ўжо знаёмая — няма грошай. Хутка і космас закрыем! Няма грошай! Няма — і ўсё. І СНІД не будзем заўважаць. Няхай ён «ходзіць» дзесьці там, за мяжою. Так, ці што?

— Ну, вы ж ведаеце, каб зрабіць атамную бомбу — трэба было пазбавіць электраэнергіі ўсю Сібір.

— Ведаю. Сам сядзеў пасля вайны пры лучыне. «Пры лучыне» ў літаральным сэнсе слова. Пры лучыне рабілі ўрокі. А недзе побач «будавалі» бомбу.

— Але гэта ж з перасадкаю сэрца паўтарыць было нельга. Нам чатыры працэнты давалі! Усяго чатыры працэнты нацыянальнага даходу давалі на медыцыну! У Францыі — восем. У ФРГ — дзевяць. У Японіі — дзесяць! У Амерыцы — таксама. А нам — чатыры працэнты! Цяпер Чазаў Яўген Іванавіч замахнуўся на многія рэчы. Дванаццаць мільёнаў валюты першай катэгорыі даецца Міністэрству аховы здароўя. Усяго дванаццаць мільёнаў! Адна толькі ўстаноўка драбнення камянёў у нырцы каштуе мільён долараў! Вось так. А яна павінна быць у кожнай бальніцы! Камп'ютэрная ўстаноўка — мільён. Наша прамысловасць іх не выпускае. І валюту першай катэгорыі нам не даюць. Вось, калі ласка,— гродзенскі азотнатукавы камбінат атрымаў свабодную валюту, і першае, што ён робіць, купляе ўстаноўку для драбнення камянёў магнітнымі хвалямі. У Мінску яе няма і не хутка будзе, а ў Гродна, на азотнатукавым, ёсць. Вось яна — свабода! Купілі за кошт свайго бюджэту. Дык што ж Яўген Іванавіч будзе рабіць са сваімі дванаццаццю мільёнамі? Ды нічога! Вось мы ўзялі адну дарагую ўстаноўку ў Даніі. Стаіць ужо чацвёрты год. Мы не можам аплаціць.

— А яна хоць працуе?

— Працавала. Цяпер зламалася. Але мы не можам у фірму звярнуцца па дапамогу. Сорамна. Дагэтуль не заплацілі грошай. І грошай няма, і ўстаноўка не працуе.

— Хто ж вінаваты?

— А я ведаю? Грошай няма — і ўсё! Пакуль мы не вырашым пытанне нашага тэхнічнага пераўзбраення, мы не зможам ні на што спадзявацца.

— Мы ўжо адстаём ад вядучых краін на дзесяцігоддзі. І ўсё ж вы абараняеце былога міністра Пятроўскага?

— Так. Я яго абараняю.

— І спрабуеце аб'ектыўна гэта аргументаваць. З дапамогаю «эмацыянальнага поля», як у той гродзенскай устаноўцы, стараецеся расцерці ў парашок камяні маёй «прадузятасці».

— Так.

— Добра. Вернемся на зямлю. Хто загубіў псіхатэрапію? Хто апраўдаў поўную бездапаможнасць нашай медыцыны перад строгімі выпрабаваннямі жыцця — алкагалізмам і наркаманіяй?

— Бачу, вы ў курсе гэтага пытання.

— Значыцца, вы згодныя, што цэлая галіна была загублена на корані?

— Гэта трохі не так гучыць.

— Ах вось як. Мы прыкрылі вочы на тое, што алкаголь генетычна ўплывае на новае пакаленне, падразаў карані сацыяльна-нацыянальнаму дрэву. А як зразумець гэтую жудасную статыстыку: у ЗША адзін псіхатэрапеўт на трыста чалавек, занятых у грамадскай вытворчасці, а ў нас — адзін на трыццаць тысяч. Гэта праўда. Калі б у нас псіхолагі былі ў школах, калі б былі... Дзяўчынкі-шасцікласніцы думаюць, дзе і каму аддаць сваю нявіннасць. Дарэчы, у Аўстраліі самыя высокааплатныя спецыяльнасці — юрыст, доктар і псіхолаг.

— Прыярытэт гуманітарыям. Мы закранаем тэму прэстыжнасці? Прэстыж, вядома, залежыць і ад нас саміх. Акуліст Фёдараў, напрыклад. Хіба гэта не ўзор? Вы ведаеце, якая зарплата ў яго хірургаў? Пяцьсот-восемсот рублёў у месяц.

— Калі два-тры гады назад была міжнародная выстаўка ЭКСПО ў Японіі, то стэнды савецкага павільёна, у якіх дэманстраваліся работы Фёдарава, былі самыя папулярныя. Вось вы вядучы спецыяліст краіны і нават Еўропы па трансплантацыі ныркі. Вашыя работы можна параўнаць з фёдараўскімі поспехамі?

— Дрэнныя нашы справы. Дрэнныя. Гэта нашая ганьба.

— А навошта нам даганяць Ліхтэнштэйн па колькасці аперацый, калі, падлічана ўжо, па колькасці трансплантацый сэрца мы ўжо гэтую «гіганцкую» краіну не дагонім. Гэта сказаў Чазаў. Гучыць, як ў Чэхава.

— Гэта нашая ганьба. Маральна і прафесійна мы ўжо даўно гатовыя. Але дзе ўзяць абсталяванне? Дзе ўзяць прэпараты? КНДР... Кім Ір Сен закупіў для Пхеньяна радзільны дом, якіх пакуль няма нідзе ў свеце. І па абсталяванні, і па будаўніцтве, і па дызайне. На Кубе вырашылі рабіць аперацыі па перасадцы сэрца. Гэта палітычнае пытанне для Кубы. У Балгарыі ўсё ў парадку. А ў нас... На Пятроўскага ўсё ж валіць нельга. Доўга абмяркоўвалася пытанне: ці можна браць орган у донара, калі б'ецца сэрца? Мы тут, на Беларусі, бралі. Бралі. І не пыталіся ні ў кога дазволу. І рабілі, як выявілася цяпер, правільна. Час даказаў правільнасць таго, што мы рабілі. І колькім людзям мы прадоўжылі жыццё!! Але калі б хто-небудзь падаў на нас у суд — усё. На гэтым бы ўсё і закончылася. Калі мозг не працуе — гэта ўжо не чалавек. Гэта біялагічны аб'ект. Але ж сэрца б'ецца! А ў жыцці як! Да тае пары, пакуль б'ецца нашае сэрца, мы жывыя, мы змагаемся за ідэалы нашай партыі, за нашу Радзіму, за Сталіна і г. д. Пакуль б'ецца сэрца! А для нас, медыкаў, не сэрца, а галаўны мозг. Вядома, Барыс Васільевіч затармазіў гэтую справу. Затармазіў. Былі аб'ектыўныя прычыны з-за нашага жабрацтва тэхнічнага. Былі, вядома, і суб'ектыўныя прычыны. Калі б мы тады пачалі, то, бясспрэчна, былі б ужо далёка. Безумоўна, далёка.

— Такое паняцце, як «саслоўнасць», перашкаджае ці дапамагае медыцыне?

— Вы хочаце праверыць дынастыі медыкаў?

— І гэта таксама. Ваш сын, Аляксандр Мікалаевіч Саўчанка, сказаў, спаслаўшыся на старажытную кітайскую мудрасць, што сапраўдны доктар нараджаецца ў трэцім пакаленні. Ці існуе ў вашай прафесіі вострая залежнасць ад генатыпу?

— Думаю, што гены тут ні пры чым. Мае бацькі былі сяляне. Бацька, дзед і прадзед былі сялянамі. Гены не будзем кранаць. А вось выхаванне, сямейныя традыцыі...

— Прыналежнасць да асобага свету?

— Я думаю, што гэта мае вялікае значэнне. Мой сын не збіраўся быць медыкам. У дзевятым класе ён марыў аб радыётэхніцы. У дзесятым захапляўся хіміяй. Пасля дзесяцігодкі неяк прыйшоў да мяне ў клініку, папрасіў паглядзець на тое, што робім мы ў аперацыйнай. Аперацыя тая, памятаю, была цяжкая. Калі выйшлі з аперацыйнай, ён кажа: «Тата, што тут такога складанага?» Я яму: «Развяжы мне халат!» Ён развязаў: «Тата, ты ж мокры — ад патыліцы да пят!» Я яму: «А ты лёгкую працу бачыў». Ён тады: «Тата — мединстытут. Хірургія! І ўсё». Жонка мая яму кажа: «Куды ты, сын, лезеш у хірургію! Вунь бацька — і міністр, і загадчык кафедры, а толку! Па начах выклікаюць. Ніякага спакою. Ні сабе, ні людзям». А сын разважае інакш: раз выклікаюць, значыцца, яшчэ патрэбны некаму. Я катэгарычна за дынастыю! Праўда, у нас ёсць свая асаблівасць: маладым прафесарам стаў сын міністра. Хутка стаў прафесарам. Ну, напэўна, прозвішча яму дапамагло.

— Напэўна.

— Але ж ён школу закончыў з медалём, а інстытут — з «чырвоным» дыпломам. І працаваў дні і ночы не шкадуючы сябе.

— Я вось гляджу на двух сыноў Сяргея Міхалкова — выдатныя выйшлі рэжысёры. Абодва клянуцца, што бацькава прозвішча толькі замінала ім.

— Думаю, што гэта не так. Хітраць нешта. Вось Любімаў. Паехаў з Масквы, цяпер зноў вярнуўся на Таганку. Гэта што, нармальна? Або Іосіф Бродскі? Геній, ці што?

— Лаўрэат Нобелеўскай прэміі.

— Ну, гэта што — Пушкін сённяшняга дня? Шолахаў — лаўрэат, і лаўрэат Бродскі! Гэта што, адназначна? Аднолькавыя фігуры!

— Пасля вайны Нобелеўская прэмія ў галіне навукі ў нас усяго адна. Адна! Будзем ганарыцца літаратураю... Зараз такое пытанне... строгае, бадай. Скажыце, калі ласка, з-за чарнобыльскай гісторыі вас сумленне не мучыць?

— Беларусь панесла значна большыя страты, чым Украіна. Гэта бясспрэчны факт. У тую хвіліну нам ніхто не мог сказаць, што мы чагосьці не рабілі, штосьці недагледзелі. А вопыт у нас быў? Вы разумееце, рабілася ўсё магчымае ў тых паўнамоцтвах, у тых сілах, якія ў нас былі. Усё рабілася. Мы не выступалі з панічнымі заявамі. Я захоўваю адзін вельмі цікавы дакумент. Гэта мой тэкст, з якім я збіраўся выступаць па рэспубліканскім тэлебачанні, і тэкст канчатковы, выдадзены мне. Яны значна адрозніваюцца. Вось. Я сам асабіста ўдзельнічаў у адсяленні людзей. Я дваццаць дзевятага красавіка быў ужо ў Чарнобылі, паглядзеў на паказанні дазіметрыстаў і кажу ім: «Таварышы, вы што тут у спецхалатах ходзіце! У вас васемнаццаць міляў на зямлі, а ў нас на Беларусі — чатырыста. Што вы маскарад тут ладзіце! У нас — ч а т ы р ы с т а!» Я прашу паказаць мне карту, на якой занесена паражэнне тэрыторыі. Намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР Шчарбіна, які ўзначальваў Штаб, паказвае мне карту, а там Беларусь нават не нанесена. Я кажу: «Што ж вы робіце! Дзе нашы раёны!» Так што рабілася ўсё. Мы страцілі цэлы тыдзень. Украіна ніводнага слова не сказала, нікога не папярэдзіла. А потым у нас рабілася ўсё. Бюро ЦК КПБ кожнага дня збіралася на пасяджэнні. Маскоўская камісія шмат разоў прыязджала. Вы ж нават не ведаеце, што ўжо было ўсё падрыхтавана да таго, пра што цяпер ужо можна гаварыць. Чацвёртага-пятага мая рыхтаваліся ўзарваць рэактар! Мы сядзелі двое сутак і распрацоўвалі план эвакуацыі насельніцтва з двухсотпяцідзесяцікіламетровай зоны. Ніхто ж гэтай працы нашай не бачыў. Была маса недахопаў. Вопыту ж такой працы ні ў кога не было. А калі б мы падымалі паніку? Пачалі б на ўсіх вуглах крычаць, што ў нас моцнае заражэнне! Ну і што! Карысці ніякае! Калі б вы тады пад'ехалі да дзевятай бальніцы, то ўбачылі б кіламетровыя чэргі людзей на праверку. На праверку. На праверку стаялі. Іх жа ўсіх праверылі.

— Нядаўна сюды з Масквы прыехаў паэт Ігар Шклярэўскі, які аддаў грошы ад атрыманай Дзяржаўнай прэміі СССР на азеляненне берагоў Прыпяці. Дык вось, ён прыехаў, каб разам з лясніцым выбраць участкі гэтых азелянення́ў, а прыйшлося

## Святлана Алексіевіч:

Маё стаўленне да гэтае тэмы нельга назваць нармальным. Напісаўшы дзве кнігі сведчанняў аб злачынствах фашызму на нашай зямлі, досыць страшныя кнігі, і праслухаўшы сотні расказаў пра той трагічны час, я думала, што да маёй свядомасці боль ужо не зможа прабіцца. Боль Хатыні і памяць чалавека аб пакутах, якія ніколі не праходзяць. Калі я паглядзела фільм Ігара Калоўскага «Хатынь, 5 км», я зразумела, як талент рассоўвае межы, гаворыць пра невычэрпнасць пазнавальнага. Мне зноў захацелася плакаць, мне зноў запаміналіся чалавечыя твары, эмоцыі ўзнікалі там, дзе, мне здавалася, чалавечыя сілы ўжо вычарпаны. Я яшчэ падумала, калі глядзела гэты фільм, як дзіўна: фільм зроблены дваццаць гадоў назад, але яго мова зусім не састарэла, больш таго, гэтая мова смялейшая і больш арыгінальная, чым ва ўсіх астатніх дакументальных стужках, створаных летась на «Беларусьфільме», якія мы прагледзелі за тыдзень. Такое ўражанне ў мяне было, што мы за дваццаць гадоў пайшлі не ўперад, а назад. Было пачуццё жалю, што ўсе гэтыя знаходкі, усе вобразы, метафары фільма Калоўскага праляжалі марна дваццаць гадоў. Калі б фільм выйшаў на экраны дваццаць гадоў назад, то, напэўна, нашае беларускае кіно было б цяпер іншае. Гэта фільм быў першы, пасля якога з'явіліся фільмы Дашука і кнігі беларускіх аўтараў, якія раскрываюць трагічную гісторыю беларускіх хатыняў.

## Аляксей ГЕРМАН:

Бываюць фільмы-разведчыкі, не толькі фільмы,— любыя творы мастацтва,— бываюць фільмы-першаадкрывальнікі. Гэтыя фільмы першыя выходзяць на часта замініраваную дарогу і, на жаль,— быў такі час,— гэтыя фільмы першыя і гінулі. Такая гісторыя здарылася з фільмам Ігара Калоўскага пра Хатынь, які быў закрыты тут, у вас на Беларусі, у 1968 годзе. Паколькі цяпер адбываецца перыяд дэмакратызацыі і ажыўлення грамадскай атмасферы ва ўсіх галінах нашага жыцця, у тым ліку і ў кінематографе, выходзяць на экраны закрытыя стужкі. І выяўляецца, што ў абсалютнай большасці гэта былі неабходныя фільмы, менавіта дзякуючы сваёй навізне ці вастрыні пастаноўкі праблемы, несправядліва забароненыя. Цяпер менавіта яны даюць нам прызы на міжнародных кінафестывалях, атрымліваюць грамадскае прызнанне, а галоўнае, адчуванне свабоды мастака... Рэжысёр ужо пастарэў на дваццаць гадоў, а фільм, на маю думку, не састарэў ані. Вось якая дзіўная ўласцівасць мастацтва! Колькі мы ўжо бачылі фільмаў пра Хатынь, а гэтая карціна ўсё роўна б'е ў грудзі навылёт і вымушае плакаць... А багата што з гэтага фільма, скажам, як яно ёсць, расцягнулі ўжо. Мы ж, кінематаграфісты, глядзім фільмы адно аднаго, а потым свядома ці міжволі нейкія фрагменты куды-небудзь ды ўваходзяць. Аднак гэты неверагодны твар старога, пра які я чытаў, і вось я бачу яго на экране, з неверагоднымі вачыма, расказы гэтых незвычайных жанчын — усё гэта б'е навылёт. Гэты фільм не састарэў, таму што яшчэ ў 1968 годзе ў ім быў закладзены, на маю думку, магутнейшы зарад мастацтва! Я ўдзячны нашаму часу за тое, што гэтыя фільмы выходзяць на экраны, і перакананы, што ўсе спробы — а спробы закрыць якуюсьці карціну, забараніць якісьці мастацкі твор робяцца то ў адным, то ў другім месцы,— яны ўсё роўна неадменна закончацца правалам. І людзі, якія спрабуюць рабіць гэтую чорную справу, асуджаны, бо праўда заўсёды на баку мастака, таму што ён не выдумвае праблему, ён яе бачыць, а знішчаючы мастака ці яго твор, праблему не знішчаюць — яна працягвае жыць, існаваць. Таму што мастацкі твор — толькі адгалосак гэтай рэальнай праблемы.

хаваць маці, якая з тых раёнаў. Шклярэўскі лічыць, што яе не ўберaглі ад Чарнобыля.

— У мяне сястра памёрла старэйшая.

— З Гомельшчыны?

— Так, з Кармы. Паўплываў на яе Чарнобыль ці не, цяпер ніхто на гэта не адкажа. Так, трагедыю гэтую ніхто не планаваў, ніхто нас да яе не рыхтаваў. Цяпер у міністэрстве, яшчэ пры мне закладзена, ёсць картатэка на ўсіх дзяцей, якія нарадзіліся пасля. Як бы яны сябе ні адчувалі, а яны ўжо ў нас у картатэцы. І мы назіраем за імі.

— А што з тымі, хто жыве побач з зонаю?

— Яны ўсе занесены ў саюзныя рэгістры. І за імі вядзецца пастаянны нагляд, апараты «Ичь» так званыя на ўсіх навесілі, каб ведаць, якую сапраўдную дозу атрымаў чалавек. Дазіметры выдалі ўсім механізатарам, даяркам, усім работнікам сяла. Навошта рабіць безадказныя заявы!

— Да заяў у нас яшчэ не дайшло, а вось грамадскае адчуванне я вам магу сказаць.

— Грамадскае адчуванне! Цікава.

— Ды ёсць такое адчуванне, што ў насельніцтва Беларусі не было крыніцы элементарнае інфармацыі. Не было падказана самых простых формаў абароны, дэзактывацыі, рэжыму харчавання. Магу цяпер гаварыць пра сябе, пра маю сям'ю. Мы не ведалі нічога. Тэлефоннымі званкамі людзі перадавалі адно аднаму пра тое, што трэба ў кватэрах вільготнай анучаю праці ўсё, старацца не трапляць у гэтыя дні пад дождж, дбайна мыць абутак пасля вуліцы. Гэта рэкамендавалі сябры, суседзі, саслужыўцы, але не Міністэрства аховы здароўя БССР. Трэба было біць трывогу!

— А што вы цяпер хочаце?

— Хачу спытацца ў вас пра тое, ці мелі вы права на разгубленасць? Усе ж ападкі выпалі на нашай тэрыторыі. Чаму не была пашырана зона?

— А хто б нам гэта дазволіў? Гэта раз. Потым, кожнае пытанне ў нас разглядвалася на камісіі.

— Але ж воблака пайшло сюды.

— Маліцца трэба, што гэтае воблака не села на Гомель. Не апусцілася на шасцісоттысячны горад. А потым, як зразумець, дзе мяжа? Вучоныя ўстанавілі, што, вось, трыццаць па цэзіі — трэба народ адсяляць. А калі дваццаць дзевяць? Выходзіць, не шкодна? Пры трыццаці па цэзіі давалі грошы, а там, дзе дваццаць дзевяць, не давалі. Вось як! Вось такія панавалі ўмоўнасці. Таму я гэтае «грамадскае адчуванне» спытаю: а што ж нам трэба было рабіць? Што! Вось дагэтуль у Карме не п'юць свайго малака. Здаюць усё! На перапрацоўку.

— А хіба гэта можна?

— Так, пасля перапрацоўкі — умоўна — малако здаровае. Умоўна.

— Значыцца, гэтыя прадукты можна спакойна ўжываць?

— Умоўна. Масла можна есці, хоць яно з павышанай радыяцыяй. Людзі там жывуць, і людзі разумеюць небяспеку. У мяне стрыечны брат — рыбак, на Сожы жыве. Ужо два гады рыбы не есць. А колькі ён яе лавіў! Нядаўна налавіў рыбы, паклаў на вяселлі на стол — ніхто не з'еў аніводнага кавалачка. Можа, яна ўжо і няшкодная, але яе ніхто яшчэ доўга не будзе есці. Усе думаюць пра небяспеку. Самае галоўнае, што абараніцца ад гэтых невялікіх доз практычна немагчыма. Разумееце, немагчыма! У нас ужо была падобная аварыя ў пяцьдзесят сёмым годзе. Статыстычных зрухаў у здароўі людзей не было тады адзначана. Разумееце, не было. Дапусцім, што з'явіцца сотня лішніх захворванняў на рак, з'явіцца. Гэта мізэр. Але гэта ўжо не мізэр, калі гэта датычыць цябе, тваёй сям'і, тваіх унукаў. Закране хвароба сваё дзіця — і гэта ўжо не мізэр. Статыстыкай ужо не прыкрыешся. Але вось тыя сто чалавек раз'ехаліся хто куды. І іх статыстычна не выявіш. Як быць у такім разе? Гадоў праз пятнаццаць-дваццаць могуць выявіцца вынікі. Тэарэтычна. Падкрэсліваю, тэарэтычна. Што будзе — будзем назіраць... Гэта вы са мною, як з былым міністрам, я так разумею, размаўляеце?

— Не. Я размаўляю з вамі як з удзельнікам тых падзей, а ўвогуле, вядома, як з адказнай асобаю, ад якой залежала палітыка абароны, інфармацыі і самаахова.

— Я вам скажу, што было грубым парушэннем! Грубейшым парушэннем. Здарылася аварыя. У нас ва ўсіх канверты ў сейфах ляжаць. Патэлефанаваў бы мне начальнік грамадзянскай абароны ці, дакладней, украінскі начальнік патэлефанаваў бы нашаму начальніку грамадзянскай абароны і сказаў толькі адно слова: «Уцечка!» Адно толькі слова, і мы ведалі б, што рабіць з гэтымі пакетамі, з нашымі кадрамі і г. д. Гэта здарылася ў суботу, а я даведаўся пра гэта ад свайго сябра, намесніка міністра аховы здароўя Украіны, толькі а дзесятай гадзіне раніцы ў панядзелак. Гэта ж быў прыватны званок. Ён сам не ведаў, што рабіць. Проста падзяліўся са мной інфармацыяй! Разумееце, проста падзяліўся!

— Проста, як прыяцель з прыяцелем?

— Натуральна. Я адразу за тэлефон і званю ў Гомель: «Што там у вас здарылася?» Яны мне: «Нешта здарылася ў Чарнобылі». Я адразу задзейнічаў санітарную службу: «Неадкладна дазіметрыю!» Ужо ў дванаццаць гадзін мы мелі першыя дадзеныя. Яны былі дрэнныя. Гэтая праца была неафіцыйная! А афіцыйна Мікалай Мікітавіч Слюнькоў толькі ў дванаццаць гадзін даведаўся пра Чарнобыль. Вось дзе грубейшая памылка. Вось дзе галовы трэба паадкручваць. А потым ужо пачалі дзейнічаць у меру сваіх сіл. Я ўжо дваццаць дзевятага званю з Чарнобыля свайму намесніку: «Косця,— кажу,— неадкладна разгарні пяцьсот ложкаў!» А ён кажа: «Мікалай Яўсеевіч, пяцьдзесят загадалі». Я кажу: «Косця, я ж на месцы, тут! Пяцьсот неадкладна!» І мы разгарнулі не пяцьсот, а семсот. І ўсіх жа дзяцей, якія атрымалі дозу, паклалі ў шпіталь. Усе прайшлі праз аздараўляльныя піянерскія лагеры. З хаосам, з недахопамі, з «брудам» іншы раз, але ўсе прайшлі.

— А хто вас інфармаваў аб спецыфіцы гэтай небяспекі?

— Ніхто. Як горка жартаваў адзін мой сябра, нам выдалі цеплавізары, якія з вялікай верагоднасцю адрозніваюць халадзільнік ад праса. Вось такія ў нас былі дазіметры. Дый тых не было. Масква давала што магла. Дый у Маскве нічога не было! Узбекістан, Таджыкістан дапамагалі чым маглі. Колькі толькі спецрэйсаў было адпраўлена ў Таджыкістан, каб прывезці дазіметры неадкладна. Ніхто ж не лічыў, што спецрэйс каштуе чатырнаццаць тысяч рублёў. Ніхто не лічыўся з гэтым! Толькі не думайце, што я апраўдваюся... Мне ўжо пара... У мяне кафедра. Ехаць трэба.

— Апошняе пытанне. Тое, што вы чалавек з хваткай, гэта ведаюць не толькі ў медыцынскім свеце. А ваш пераемнік? Гэта што — часовы чалавек?

— Зразумеў вашае пытанне, зразумеў. Скажу вам шчыра, што людзі часам дапускаюць неправамерныя параўнанні, неправамоцныя. Яны параўноўваюць міністра, які прасядзеў на гэтай пасадзе дваццаць гадоў, з чалавекам, які толькі што заступіў на гэтую пасаду. Калі б мяне параўноўваць з маім папярэднікам, дык быў бы той самы эфект. Я думаю, што малады міністр разбярэцца і са сваімі абавязкамі справіцца. Дарэчы, я яго рэкамендаваў. Я, праўда, называў не толькі яго прозвішча, абмяркоўвалася некалькі кандыдатур. Новы міністр — прафесар, а вопыту ён набярэцца. На гэта патрабуецца час.

— Скажыце, калі ласка, а сумяшчэнне навуковай і адміністрацыйнай нагрузак правамоцнае? У гэтым ёсць які-небудзь толк?

— Калі мне задаюць такое пытанне, я адказваю: я хачу быць гуляючым трэнерам. Заняткі навукай і хірургіяй мне як міністру даюць права, маральнае права, на роўных размаўляць з хірургам, з тэрапеўтамі, з педагогамі, з галоўнымі ўрачамі бальніц. Калі я буду толькі ў кабінетах сядзець, маральнага права на роўных размаўляць са спецыялістамі ў мяне не будзе. Я хачу быць гуляючым трэнерам, дагэтуль.

— І гэта цяжка?

— Звычка.

— Вы гатовыя паўтарыць гэтую размову, калі тут будзе стаяць кінакамера?

— А якія праблемы мы будзем рашаць?

— Нашая з вамі мэта не вырашаць праблемы, а завастраць іх. Перад сабою, перад грамадствам, перад будучыняю.

— Зараз па вашым пытанні. У Чазава ёсць ідэя стварыць «Совтрансплант». Усесаюзнае аб'яднанне. Цяпер затармазілася гэтая ідэя, бо ў праекце заяўлены непамерныя патрабаванні — трыста восемдзесят мільёнаў валюты першай катэгорыі. Ніхто не дасць такой сумы. Далі б хоць дваццаць мільёнаў і ўжо можна было б пачынаць здзяйсняць гэты праект. Трэба купіць добрую апаратуру. Абнавіць старую. Яна ўся ледзь трымаецца. Шмат цудоўнай апаратуры, дарэчы, выпускаецца сацкраінамі. Але, галоўнае, мы задыхнемся, калі не будзем асвойваць айчынную медыцынскую тэхніку, яе вытворчасць. Задыхнемся.

— Сумна.

— Так, вясёлага мала.

— Як спецыяліст, вы каціруецеся высока. Да вас звярталіся па дапамогу з-за мяжы?

— Нядаўна былі хворыя з Грэцыі.

— Разлік быў валютаю?

— Ні капейкі не атрымаў.

— Вы ж можаце адкрыць рахунак і зарабляць валюту. Вы і ваша клініка.

— А хто мне гэта дазволіць?

— У нас няма валюты, а вы можаце яе зарабляць для краіны, так?

— З гэтага пакуль нічога не атрымліваецца.

## ІМГНЕННІ З ЖЫЦЦЯ ГІМНАСТКІ



Фотарэпартаж Дзмітрыя ЛУПАЧА

Марына ЛОБАЧ

Алесь НАВАРЫЧ

Кажуць, калі Алесь Наварыч разам са сваім курсам ездзіў на будоўлі, да яго звярталіся ўсе, у каго забалела галава ці жывот або паўскоквалі мазалі. Яно і не дзіўна: да таго, як трапіць на рускае аддзяленне філалагічнага факультэта БДУ, Алесь колькі гадоў павучыўся ў Мінскім медыцынскім інстытуце. Ужо на рускім аддзяленні філфака стаў пісаць апавяданні. Летась надрукаваў сваю першую аповесць.



АПАВЯДАННЕ

# БАБІНА ЗОЛАТА

Залезлі ў бабін куфар і выцягнулі хустачку, на рагу якой быў заціснуты вузельчык. Зубамі развязалі, аж там чырванаватыя манеты з двухгаловым Змеем Гарынычам замест нашага герба. Адкуль нам было ведаць, што гэта царскае золата?

Брат падзяліў манеты — дзве забраў сабе, па адной даў мне і глуханямому суседу, які лазіў з намі ў куфар. Ад зайздрасці, што у брата дзве манеты, я ў той момант, калі ён нагнуўся ў куфры, зняў клямку-упірач, апусціў вечка і чорным ад часу ключом замкнуў брата ў куфры. Мы з Немцам (гэтак у нас называюць нямых) ускочылі на куфар і ўсчалі індзейскі танец помсты. Брат ад страху верашчаў, але тут дзверы каморы-выстэмпкі расчыніліся — гэта была маці, якая чамусьці рана вярнулася з работы. Выскачыць на двор удалося толькі Немцу. Нам жа былі ўчынены вывяды, чаго мы лазілі ў бабін куфар. Прызнанні маці стымулявала пачубваннем датуль, пакуль мы не сказалі, што нічога не ўзялі, хіба што во — манеткі.

— Божачкі! — пляснула маці рукамі, кінулася ў куфар, пачала перакідаць шэрыя сувойцы, перамацваць мяшэчкі, храбусцела высахлымі ў прах зёлкамі, рассыпала белую і стракатую хвасолю, перамешвала яе з акасцянелымі ад часу чарніцамі. Маці збялела, божкала і шукала нешта пад нічальніцамі і бёрдамі, перабірала ў патаемнай скрынцы куфра паперы: ужаўцелую купчую на зямлю з завіткамі польскіх подпісаў і трыма крыжыкамі ў сведчанне бабулінай непісьменнасці, сівенькую кніжку «Паньствовэй касы ошчэндносьцёвэй» з пяццюдзесяццю злотымі на ёй... Пер態трэсвала бабульчыны транты: даўнінныя камізэлькі, гарсэты, чаравікі з высокай шнуроўкай і драўлянымі абцасамі, тонкія ангельскія бюстаношы, што засталіся з польскіх часоў і ў якіх калыхаліся пераважна грудзі шляхтунак.

Вярнуўся з работы бацька — стомлены і злосны. З трывогай зазірнуў ён у куфар, пачаў варочаць кулі запалак, якія бабуля хавала на выпадак вайны. З-пад клункаў з мылам бацька выцягнуў хустачку з разблытаным вузлом...

— Дзе яшчэ адна капейка?

Што нам было ўтойваць?

— У Немца, яму адну аддалі...

— Вот ёлупы, сваё ж золата аддалі!..

І бацька з маткай кінуліся на вуліцу: дзе ж падзеўся Немец?

Хлопчык гуляў на дарозе ў пяску. Як яму ні тлумачылі, ён толькі спалохана плюскаў зіркачамі і пераступаў з нагі на нагу. Тут падштурхнулі мяне да яго, бо я з ім вадзіўся і ведаў спосаб зносін. Я намаляваў на далоні колца, рукой ад грудзей паказаў, што мы яе, манету, яму падарылі, і матлянуў галавой, пытаючы, дзе яна. Немец засвяціўся, разумеючы мяне, нешта мармытнуў, што ён часам рабіў, але раптам твар яго скрывіўся... Ён каўтнуў, зусім як качаня, якое глытае плотку... На вачах у Немца выступілі слёзы.

— Э-э-э...— з болем прамычэў глуханямы і з выразам віны паказаў, што рот у яго пусты.

— Каўтнуў! Наша золата каўтнуў! — жахнулася маці.

— Цыц ты! — загадаў бацька. Ён уважліва агледзеў Немцаў рот, потым павёў хлопчыка да ягоных бацькоў.

Таго ж дня пад вечар мы падслухалі за суседскім хлеўчуком Немцава кракtанне і такую гаворку:

— Што ж, вы кажаце, глынуў ён важнае?

— Ну, Еўко, важнае. Нашае ён праглынуў, нашае важнае...

— Нашто хлопца мучыць, ён жа не хоча... А яно вялікае?

— Як сярэдненькі гузік... Ты ж нам, Еўко, паспрыяй, га?

З-за хлеўчука бацькі выйшлі расчараваныя.

— Ну, раз мы табе, Еўко, прызналіся, ты ж глядзі! Словам, каб па-суседску...— казалі мае бацькі, развітваючыся з суседкай.

— Так і чакайце, так і чакайце! — казала праз мінут дваццаць Еўка, Немцава маці, ставячы перад малым патэльню смажаных яек.— Мой хлопчык — маё і ўсё!

А ў нашай хаце дзяжурны старанна падмятаў падлогу, памочнік дзяжурнага чапляў на сцяну старэнькую палітычную карту свету за 1949 год, якую бацька прывёз з войска з Далёкага Усходу. За той час, пакуль з'явіліся ў бацькі мы, пакуль мы раслі, на карце было нароблена шмат якіх памет. Мноства краін з каланіяльных колераў бацька перафарбаваў сельсавецкім чарнілам у чырвоны колер. Каб мы лепш разумелі палітычную сітуацыю, бацька рабіў на карце хімічным алоўкам надпісы: «свае», «не свае». Здаралася, што прыходзілася некалькі разоў мяняць гэтыя надпісы, часта падчышчаць іх сцізорыкам, ад чаго на карце парабіліся сям-там белыя плямы, а то нават і дзіркі.

Сёння ў нас была нечарговая палітінфармацыя. Мы паселі хто на чым, дзяжурны паставіў на стол шклянку з вадой. Пачалі збірацца людзі: прыйшоў старэйшы брат, маці села з шытвом на ложак. Бацька пакашляў у кулак і сказаў:

— Дзеці! Таварышы...— Малодшы брат шморгнуў носам, маці строга глянула на яго.— Улічваючы складаную міжнародную сітуацыю, а таксама нялёгкія сямейныя абставіны, сёння ў нас пойдзе гутарка пра капітал. Перш за ўсё трэба ведаць, што такое золата. Золата — гэта рэдкі каштоўны метал, які не ржавее, не гарыць у агні і не мяняе свой выгляд ні пры якой уладзе. Але, як моцна выразіўся пісьменнік Максім Горкі, золата — гэта жоўты д'ябал.

І пайшло, і паехала. Мала-памалу бацька разышоўся, красамоўства яго распалілася, і ён рабіў галаваскрутныя скачкі з аднаго кантынента на другі, з адной эпохі ў другую, выдаваў звесткі пра залатыя запасы фінансавых акул таго часу — ЗША і Англіі,— пра здабычу золата, пра цану унцыі золата на сусветным рынку. Мы сачылі за бацькавымі вуснамі, глядзелі, як словы выскоквалі з бацькавага рота і разляталіся па пакоі, бегалі па падлозе, шукаючы ратунку ў мышыных шчылінах... Але бацька адчуў, што яго не туды занесла, і ён плаўна прызямліўся на парашуце свайго салодкага гаварэння да нас ў хату, і мы зразумелі, што чатыры бабуліны залатоўкі — яе дзявочы пасаг, а калі яна памірала, халадзеючымі рукамі перадала манеты нашай маме за тое, што маці клапацілася пра хворую старую. Гэтае золата і было сямейным стратэгічным запасам, і прыйшоў час пусціць яго ў ход, бо бэльку ў хаце падпірала свежаабструганая алешына, а ў кутках у мароз заводзіўся іней. Золата будзе ператворана ў цэмент, цэглу, вапну, шыфер. Адна залатоўка, якую праглынуў Немец,— гэта каля дзвюх-трох тысяч цаглін! Мы здзівіліся!

Таго ж вечара мы атрымалі палявы бінокль, які бацька прывёз з зенітных войскаў, і інструкцыю, як біноклем карыстацца. І пачалося для нас баявое патруляванне. Суседка бажылася, што чым толькі яна ні карміла сына, залатая жыла не адкрывалася ёй, а ў доказ яна штораз дэманстравала начны гаршчок. Калі гулялі з Немцам мы — усчынялі праверку на месцы. Калі ж хлопчык загульваўся з другой кампаніяй, мы сачылі за яго дзеяннямі ў бінокль, старанна загортваючы пасля яго ў анучку, каб не дай божа трапіў пясок у тонкі механізм наводкі на рэзкасць.

Справа выйшла за межы нашых сем'яў. На вёску напала залатая ліхаманка. Немцавы сваякі не шкадавалі грошай, і Немец аб'ядаўся пернікамі. Праўда, потым яго забіралі дахаты і не выпускалі датуль, пакуль ён не збегае за хлеў.

Але ўчвэрылася ўсё, калі пачалі пра гэта забываць,— ў той даўні душны вечар, калі прывезлі ў сяло індыйскі фільм. У клуб набілася поўна людзей. Нас, малых, не пускалі не таму, што фільм быў «да шаснаццаці», але таму, што не ў кожнага было гэтулькі грошай — цэлых дваццаці капеек. Каб не баяцца праверкі, Генусіха — жонка кінамеханіка Генуся — хавала абілечаных дзяцей пад сцэну, і дзеці глядзелі забароненае праз шчыліны ў падлозе. Калі на фільме дзяцей было больш, чым дарослых, і на экране паміж дзядзькам і цёткай пачыналася каханне, Генусь шапкай затыкаў кінапраектар, каб захаваць нашы норавы ў чысціні. Уздымаўся неверагодны гвалт, піск і верашчанне, але цнатлівасць была зберажона.

У той незабыўны вечар мы схаваліся ў шатах велізарнай ліпы, што распасцерла галіны над клубам, у якім пачалі круціць зваблівую кінастужку. Мы чакалі. Вось касірка стралой пранеслася вакол клуба, разганяючы нявопытных падгледжвальшчыкаў, кінулася назад у залу, бо самой карцела глядзець, а мы спусціліся ў змроку з ліпы, павешаліся на шалёўкі клубных вокнаў, сталі на мысках ног на адлівы, утуліліся адзін аднаму пад рукі, каб хоць нешта выгледзець праз вузенькую шчыліну. Каму не хапала месца ля вокнаў, ішоў да тыльнай сцяны будынка, дзе можна было пачуць хоць словы фільма. Потым мы мяняліся месцамі. Тут нехта крыкнуў: «Шухар!» Каршуном наляцела Генусіха, бязлітасна лупцавала пачкам блакітных у змроку білетаў, разагнала нас і зноў знікла. Мы ж падступаліся да вокнаў.

У гарачы момант, калі на экране пачало тварыцца нешта салодкае і тым часам трагічнае для нас, калі акцёры перайшлі на шэпт, а мы пачалі адціскаць адзін аднаго ад светлых шчылін, раптам Немец дабраахвотна саступіў са свайго месца і пабег за прыбіральню. Праз пэўны час ён выйшаў адтуль у вялікім роздуме. Але раптам рашуча накіраваўся да дзвярэй клуба. У мяне, як ў ката па поўсці, прабеглі іскры здагадкі — у хлопца выйшла Яно! Немец скеміў, што за капеечку такую яго не тое што ў кіно пусцяць... І вось Немец знік за дзвярыма.

У зале падзеі разгортваліся наступным чынам. Немец спачатку зарабіў блакітным пачкам па галаве, але тут Генусіха ўбачыла перад сваім носам у святле індыйскага экраннага сонца залаты кругляк. Генусіха ведала толк у манетах. Яна ў прыцемках адрознівала медныя капейкі ад белых, вобмацкам вызначала іх намінал, якія яны б ні былі: пазелянелыя, пацёртыя, счарнелыя. Ёй ніхто не мог падсунуць польскіх грошай. Аднаго разу начысцілі тры капейкі да бляску і выдалі іх за дваццаць, але Генусіха зверыла дома рахунак і выявіла недастачу ў семнаццаць капеек. Наступнага разу адзін з нас намерыўся быў паўтарыць фокус з начышчанымі капейкамі, але яму Генусіха зрабіла такі пошвырак, што ён лобам адчыніў дзверы. А тут яна ўбачыла золата ў руках дзіцяці. Генусіха падштурхнула Немца ў бок сцэны, а сама асцярожна паспрабавала золата на зуб. Так, гэта было золата. Касірка ад узрушэння не магла паварушыцца. Ні разу ў жыцці не трымала залатоўку ў руках!

Тым часам мы з братам раіліся, як ратаваць фамільнае золата. І ў той момант, калі жанчыны ў зале размазвалі па тварах слёзы замілавання, мужчыны пакрэктвалі, бо стрымваліся, каб не сказаць што салёнае, дзве маладыя настаўніцы круціліся ў крэслах, а на сцэне была індыйская любоў, у глядзельню ўскочыў мой брат і гаркнуў:

— Бацько! А з Немца нашае золато выйшло!

Што тут пачалося! Грымнуў рогат, запалілася святло, усе ўбачылі, што ля выключальніка стаіць наш бацька, а Генусіха скурчылася над сваёй сумачкай з грашыма, і твар быў у яе пабіты ўвесь чырвонымі плямамі. Бацька ўважліва глядзеў на яе.

— У мяне няма! Далібог няма! — закрычала Генусіха, але гэтым выдала сябе, бо пачырванела яшчэ гусцей.

А тым часам дырэктар школы падыходзіў да сцэны, адкуль пачалі выскокваць дзеці... Дырэктар трыбушнуў заслону — і адтуль выскачылі вучні, як выскокваюць вераб'і з бэзу, калі туды ўваб'ецца кот. Маладыя настаўніцы лавілі сваіх выхаванцаў. Узняўся неймаверны гармідар. Мужчыны сварыліся і валтузіліся з Генусіхай, патрабуючы золата, злоўленыя дзеці плакалі, і толькі адзін Немец, падлезшы на сцэне пад самы экран, не чуючы вэрхалу, стагнаў, як і ўсе нямыя, ад задавальнення, бо глядзеў каляровае жыццё далёкай Індыі, дзе лоўкія дзяўчаты з голымі пупамі танцавалі басанож і сыпалі адна на адну чырвоныя і блакітныя кветкі.



## ЗА СЯМЮ ПЯЧАТКАМІ

Дзмітрый КАПУСЦІН

# АДКУЛЬ ХЛОПЧЫК?

### НАТАТКІ СЕКСАПАТОЛАГА АБ ПРАБЛЕМАХ ПОЛАВАЙ АСВЕТЫ

Тэлефонны званок у кабінеце сексапаталогіі Мінскай кансультацыі па пытаннях шлюбу і сям'і пачуўся ў канцы працоўнага дня. Усхваляваны голас у трубцы літаральна маліў тэрмінова сустрэцца са старшакласнікамі аднае з мінскіх школ. «Мы вельмі разлічваем на вашую лекцыю. Я, вядома, не спецыяліст, але думаю, што прачытаць яе трэба так, каб хлопчыкам не захацелася болей жыць полавым жыццём; прынамсі, пакуль яны не здадуць выпускныя экзамены. А то ў нас зацяжарала вучаніца, і ёсць звесткі, што і іншыя дзеці жывуць гэтым жыццём»,— казала старшыня бацькоўскага камітэта школы. Атрымаўшы згоду, яна з задавальненнем падвяла рысу: «Вось і добра. Пасля вас мы запросім гінеколага для дзяўчынак, і на гэтым пытанне закрыем». Міжволі падумалася: няўжо дарослы чалавек сапраўды ўпэўнены, што адной лекцыяй можна вырашыць усе праблемы юнацкае сексуальнасці! І хіба саракапяціхвілінная сустрэча з сексапатолагам зможа замяніць падлетку тую гіганцкую інфармацыю пра сексуальнасць чалавека, якую яму абавязаныя былі даваць усе гады вучобы ў школе!

На жаль, перабудова нашага быцця на сучасным этапе ўсеагульнае перабудовы не закранула гэтае найвастрэйшае праблемы, ад якой мы старанна ўхіляліся не адно дзесяцігоддзе. Шматразовыя спробы вучоных і спецыялістаў данесці да шырокіх мас хоць бы якія навукова абгрунтаваныя звесткі пра інтымнае жыццё метадычна абрываліся тымі, для каго словы «секс» і «распуста» азначалі адно і тое ж. Найнармальнейшая і найнатуральнейшая патрэба жывога арганізма аб'яўлялася, як і сотні гадоў таму, «д'яблавымі падкопамі», хаця і выказвалася словамі зусім не архаічнымі. Яшчэ і сёння людзей, якія займаюцца вывучэннем сексуальнасці чалавека, разглядваюць ледзь не як патэнцыяльна небяспечных нашаму грамадству і не надта ахвотна звязваюцца з імі, абмяжоўваючыся просьбамі прачытаць адну-дзве лекцыі. І гэта нягледзячы на тое, што практычна кожны чалавек адчувае тыя ці іншыя цяжкасці ў пытаннях полавага выхавання ці сужэнскага жыцця. Полавая культура нашага суайчынніка знаходзіцца на дужа нізкім узроўні, вызначаючыся прымітывізмам меркаванняў і ўбогасцю ведаў. Дагэтуль практычна не праводзяцца сацыялагічныя даследаванні на гэтую тэму. Полавая асвета і выхаванне засноўваюцца на густах людзей, якія згадваюць свае ўласныя сексуальныя паводзіны трыццаці-саракагадовай даўнасці.

Рыхтуючы да публікацыі нашую першую навукова-папулярную кнігу «Гармонія шлюбу», мы з маім сааўтарам У. Уладзіным знайшлі цікавыя дадзеныя аднаго даследавання. Яшчэ ў далёкім 1922 годзе вучням дзвюх школ г. Адэсы было прапанавана задаць ананімна любыя пытанні на агульнамедыцынскія тэмы. Калі запячатаную скрынку з запіскамі ўскрылі, то выявілася, што з зададзеных 120 пытанняў 119 датычылі праблем полу, полавага жыцця і полавых паводзін. Учытваючыся ў пытанні, якія хвалявалі яшчэ нашых бабуль і дзядуль у час іхняга юнацтва, з горыччу прыйшлося канстатаваць, што такія ж самыя запіскі мы атрымліваем на лекцыях ужо ад іх унукаў і ўнучак. Узровень полавай асветы павысіўся, напэўна, толькі ў справаздачах і зводках.

Цяпер за такое сумнае становішча вінавацяць бацькоў, школу, медыкаў... І прыходзяць да адзінае высновы: вінаватыя ўсе! Але калі ўсе разам, то канкрэтна — ніхто. Паспрабуем усё ж разабрацца, які ўклад уносіць у полавую асвету кожны з названых бакоў.

БАЦЬКІ. Хто з іх не хоча бачыць сваё дзіця здаровым, гарманічна развітым і шчаслівым у сямейным жыцці! Пытанне быццам і недарэчнае, ды ўсё ж... Мы робім часам тытанічныя высілкі, нешта дастаючы, наладжваючы, але выяўляем поўную бездапаможнасць перад простым пытаннем пяцігадовага карантыша: «Адкуль я ўзяўся!»

Сёлета мы папрасілі адказаць 630 вучняў старшых класаў пятнаццаці мінскіх школ на пытанні ананімнай анкеты.

На пытанне: «Як часта вы гаворыце з бацькамі на тэмы полу і полавых зносін!» 40 працэнтаў юнакоў адказалі: «Ніколі». Падобны варыянт адказаў выбралі 20 працэнтаў васьмікласніц, 31 працэнт дзевяцікласніц і 24 працэнты дзесяцікласніц. Калі ж аб'яднаць два досыць блізкія адказы («ніколі» і «вельмі рэдка»), то выявіцца, што практычнай карыснай інфармацыі па такой важнай для моладзі праблеме не атрымліваюць:

| | ЮНАКІ | ДЗЯЎЧАТЫ |
|---|---|---|
| 8-ы клас | 74 % | 54,5 % |
| 9-ы клас | 68 % | 69 % |
| 10-ы клас | 75 % | 63 % |

Адносіны ў сучасных бацькоў да сексу, шчыра скажам, неадназначныя. З аднаго боку, рытм жыцця, розныя негатыўныя з'явы нібыта падштурхоўваюць іх да сур'ёзнай размовы са сваім сынам або дачкою. А з другога — «з намі ніхто не гаварыў, але, дзякуй богу, выраслі», забываючыся часам на тое, якою цаною даставаліся ім запозненыя шматкі ведаў, колькі было набіта пры гэтым сінякоў ды гузакоў. Але нават калі бацькі і вырашаць пагаварыць з сынам ці дачкою на інтымную тэму, размова будзе каштаваць ім вялікіх эмацыянальных затрат. Бо непазбежна паўстануць новыя цяжкасці: гэта і няведанне сексалагічных тэрмінаў, і страх абудзіць сексуальнасць «да часу», і поўная адсутнасць інфармацыі пра стадыі сексуальнага развіцця дзіцяці і падлетка і г. д. Не дзіва, што на падобную размову бацькі адважваюцца толькі тады, калі далей ужо адкладваць няма куды: у сына з'явіліся палюцыі, у дачкі — менструацыі. А ці ведаюць таты і мамы, што, на думку сексолагаў, для правільнага псіхасексуальнага развіцця дзіця павінна атрымаць звесткі аб рознай будове полавых органаў хлопчыкаў і дзяўчынак не пазней 3—4 гадоў! Што інфармацыя пра цяжарнасць павінна даводзіцца да дзяцей ужо ў 5—7 гадоў, а пра ролю бацькі ў дзетараджэнні — у 6—8 гадоў! Цікавыя дадзеныя ў сваёй кнізе «Псіхагігіена полу ў дзяцей» прыводзяць ленінградскія сексолагі Д. М. Ісаеў і В. Я. Каган. Выяўляецца тое, што мы рупліва ўтойваем нават ад дзесяцікласнікаў (напрыклад, пра самое існаванне полавага жыцця), ужо ведаюць нашы маленькія дзеці. І не дзе-небудзь, а яшчэ ў старшай групе дзіцячага садочку (прынамсі, сярод абследаваных ленінградцамі дзяцей) пра гэта ведаў кожны пяты хлопчык і кожная дзесятая дзяўчынка!



Сутыкаючыся з псіхалагічнымі цяжкасцямі, не маючы адпаведных ведаў для сур'ёзнай размовы, бацькі міжволі займаюць пазіцыю назіральніка-чужаніцы, чакаючы актыўнасці альбо школы, альбо медыкаў.

Можа, педагогі, у адрозненне ад бацькоў, маюць большыя веды, смялейшыя, лепш бачаць праблему і б'юць трывогу!

ПЕДАГОГІ. Некалькі гадоў таму, чытаючы лекцыю для жаночай аўдыторыі ў адным з ГПТВ пад Гомелем, я меў магчымасць назіраць за такім вось стаўленнем да нашай працы. Пачатак лекцыі адкладваўся — чакалі дырэктара. І хаця лектар выявіў жаданне пагаварыць з дзяўчатамі сам-насам, без выкладчыкаў, апошні рад у зале займалі менавіта яны. Ёмка ўладкаваўшыся на першым радзе ў поўнай адзіноце, дырэктар дазволіў пачаць лекцыю. Ягоны пазбаўлены якогасці выразу твар хмурыўся ўсялякі раз, калі ён чуў словы: «полавы», «сексуальны» і г. д. Часам ён азіраўся на залу і праз некалькі абсалютна пустых радоў пільна разглядваў аўдыторыю. Пасля заканчэння лекцыі дырэктар падышоў да групы выкладчыкаў, што згуртаваліся ля ўвахода. Пра што ішла гаворка, можна было толькі здагадвацца, бачачы спалоханыя твары выкладчыкаў і рэзкія ўзмахі рукі «самога». Нават не развітаўшыся, ён выйшаў з залы міма дзяўчат, якія ціснуліся да сцяны. І тады мне падумалася: чаму ад гэтага пыхлівага чыноўніка ад педагогікі залежыць часам так шмат, нярэдка нават будучае сямейнае шчасце яго выхаванцаў! Чаму з-за яго і да яго падобных сотні тысяч маладых людзей блукаюць у цемры ў пошуках элементарных сексалагічных ведаў! І хто з такіх чыноўнікаў панёс калі-небудзь хаця б мінімальнае пакаранне, няхай нават чыста фармальнае, за бяздзейнасць, за нястворання або разбітыя сем'і! Але ж ён, чыноўнік-педагог, практычна непаражальны, бо адказвае за падрыхтоўку толькі СПЕЦЫЯЛІСТА, і няма яму справы да таго, якую АСОБУ ён выхоўвае.

Пра адносіны сучаснай педагогікі да праяў сексуальнасці можна меркаваць і на такім прыкладзе. У другім выданні дапаможніка для настаўнікаў «Этыка і псіхалогія сямейнага жыцця» пад рэдакцыяй І. В. Грабеннікава, перапрацаваным і дапоўненым, колькі ні шукайце, не знойдзеце аніводнае хоць трохі вартае парады для настаўніка па складаных пытаннях дзіцячай і падлеткавай сексуальнасці, на той выпадак, калі, барані божа, да яго як да спецыяліста па «сямейным жыцці» звернуцца бацькі ці навучэнцы. Зрэшты, пра ўсе шматлікія праблемы сексуальнасці там сказана літаральна наступнае: «Нярэдка паспешнасць, з якой бяруць шлюб некаторыя людзі, выклікана няўменнем, а часам нежаданнем справіцца з новымі пачуццямі, звязанымі з полавым выспяваннем, з першай, раней невядомай чуллівасцю. Паддаўшыся раптоўным эмоцыям, дзяўчаты і юнакі спяшаюцца ўзяць шлюб, каб як мага хутчэй спазнаць фізічнае каханне...» І далей: «Спатоліўшы пачуццёвы голад, маладыя сужэнцы сутыкаюцца з натуральнымі праблемамі, якія не заўсёды ўмеюць, а часам і не жадаюць правільна вырашаць. Не хапае жыццёвага вопыту, сацыяльна-педагагічнай сталасці...» Як кажуць, памры, лепей не скажаш! І ці ж не нагадвае гэта вядомую ўдаву, якая высекла самую сябе! Няўжо складальнікам невядома, што ў школе не выкладаюць прадмет «сексалогія» і вышэй названы курс мусіць хоць неяк запоўніць і гэтую пустэчу ў адукацыі школьніка! Можа, такія «драбніцы» выпалі з поля зроку складальнікаў! Ці яны палічылі іх неістотнымі, нявартымі галоснасці! Але ж не забыліся яны на старонцы 139 даць дэталёвую праграму размеркавання некаторых сямейных абавязкаў. Чытаем (даём у арыгінале): «Например, белье в прачечную будет собирать жена, а относить его раз в две недели или раз в месяц, в зависимости от потребности семьи, возьмется муж. Большой стиркой будут заниматься вместе (или поочередно) раз в три недели. А маленькие постирушки жена сделает среди недели». Адмысловыя падрабязнасці, ці ж не так! Дарэчы, гэта з раздзела пад назваю «Пачатковы перыяд шлюбу». А вось наступны за ім называецца — як бы вы думалі!..— «Сям'я, якая чакае дзіця»... Так і хочацца ўсклікнуць, перафразаваўшы вядомую горкаўскую фразу: «АДКУЛЬ ХЛОПЧЫК!»

Пры чытанні адзінага, па сутнасці, падручніка для школы, у якім проста павінна быць найноўшая і найсучаснейшая інфармацыя пра сексуальнасць падлеткаў і моладзі, ствараецца ўражанне, што складальнікі не знаёмыя ні з працамі І. Кона, ні з працамі ленінградскай школы сексалогіі.

Адзнаку ж падобнай нясмеласці педагогаў ставяць самі школьнікі. «Настаўнікі не могуць пераадолець псіхалагічны бар'ер! А час ужо!» (вучань 9-га класа). «Раз школьная праграма размовы пра секс не прадугледжвае, то і настаўнікі не возьмуць на сябе такую вольнасць. Яны любяць падпарадкоўвацца!» (вучаніца 8-га класа).

ШКОЛЬНІКІ. Не трэба быць прарокам, каб ведаць: вакуум сексалагічных ведаў, у стварэнні якога мы, дарослыя, так старанна прымаем удзел, запаўняецца. Прычым, запаўняецца з самага ранняга дзяцінства і такой інфармацыяй, пра якую мы можам толькі здагадвацца, хоць усё роўна нават не спрабуем штосьці змяніць. Што ж дало анкетаванне мінскіх школьнікаў!

Штодня на тэмы сексу размаўляюць адно з адным 10 працэнтаў васьмікласнікаў і 20 працэнтаў дзевяцікласнікаў. Цікавасць гэтая трохі зніжаецца ў выпускным класе. Некалькі разоў на месяц і часцей такія размовы вядуць равеснікі:

| | ЮНАКІ | ДЗЯЎЧАТЫ |
|---|---|---|
| 8-ы клас | 80 % | 61 % |
| 9-ы клас | 91 % | 60 % |
| 10-ы клас | 78 % | 60 % |



Думаю, што сяго-таго прымусіць задумацца і такая інфармацыя: 11 працэнтаў апытаных дзяўчат і 24,5 працэнта юнакоў заявілі, што ўпершыню ўбачылі порнавыданні (фільмы, кнігі, фатаграфіі і г. д.) да 5-га класа, а ў 13—14 гадоў гэтым ужо могуць «пахваліцца» 56,4 працэнта дзяўчат і 77,3 працэнта юнакоў. Узнікае пытанне: як гэтая рэальная інфармацыя суадносіцца з тым, што толькі праз год мы адважваемся ў падручніку «Анатомія і фізіялогія чалавека» пачаць размову пра тое, што людзі, выяўляецца, маюць розную полавую сістэму і чымсьці адрозніваюцца ад вядомых цэлулоідных галышоў, любімых цацак нашага дзяцінства. Агульнавядомая адарванасць школы ад рэальнага жыцця літаральна даходзіць да крайнасці, калі гаворка ідзе пра яе стаўленне да інтымных перажыванняў школьнікаў. Самі навучэнцы папраўляюць школьную праграму! Напрыклад, яны лічаць, што пра шкоду курэння трэба гаварыць не пазней як у 2—3-м класе, пра алкагалізм — з 3—4-га, пра венерычныя захворванні — з 5—6-га, пра псіхагігіену полавых зносін і кантрацэпцыі ўжо ў 7—8-м класе.

Нашае наступнае пытанне ў анкеце было такое: «Ці ведаеце вы равеснікаў, якія жывуць полавым жыццём, і як вы да гэтага ставіцеся!» Адказ:

| | ВЕДАЕМ юнакі | ВЕДАЕМ дзяўчаты | СТАВІМСЯ АДМОЎНА юнакі | СТАВІМСЯ АДМОЎНА дзяўчаты |
|---|---|---|---|---|
| 8-ы клас | 75 % | 46 % | 33 % | 55 % |
| 9-ы клас | 75 % | 69 % | 17 % | 51 % |
| 10-ы клас | 90,3 % | 80,2 % | 31 % | 42 % |

Да гэтага варта толькі дадаць, што 40 працэнтаў дзяўчат-старшакласніц і 49 працэнтаў юнакоў паставіліся да гэтага абыякава.

«Ці лічыце вы для сябе магчымымі полавыя зносіны з жаніхом, нявестаю, з чалавекам, які падабаецца, і проста знаёмым (знаёмай)!» — на гэтае пытанне далі станоўчыя адказы:

| ДЗЯЎЧАТЫ | 8-ы клас | 9-ы клас | 10-ы клас |
|---|---|---|---|
| з жаніхом | 45,4 % | 35,9 % | 55,6 % |
| з чалавекам, які падабаецца | 8,4% | 13 % | 22,6 % |
| з проста знаёмым | — | — | — |
| **ЮНАКІ** | **8-клас** | **9-ы клас** | **10-ы клас** |
| з нявестаю | 70,3 % | 72 % | 80,5 % |
| з чалавекам, які падабаецца | 44,9 | 59,6 % | 52,8 % |
| з проста знаёмай | 11,9 % | 14,6 % | 13,9 % |

Абапіраючыся на ацэнку, дадзеную школьнікамі тым крыніцам, з якіх яны атрымліваюць асноўную сексалагічную інфармацыю, можна сказаць, што разам з самай малашаноўнай групаю (бацькі і педагогі) найбольшы поспех маюць равеснікі, кнігі і «кампетэнтныя дактары», сустрэчы з якімі «павінны быць не радзей, чым 1 раз у 3 месяцы» (з анкеты).

ДАКТАРЫ. Здавалася б, хто яшчэ можа быць больш кампетэнтным у пытаннях сексуальнасці, як не медыкі. Хто, як не яны, павінны данесці да шырокіх мас насельніцтва праўду пра норму і паталогію сексу, навучыць арыентавацца ў гэтай складанай галіне бацькоў, школьнікаў, педагогаў, маладажонаў. Але думаць так, зыходзячы з узроўню сексалагічных ведаў большасці медыцынскіх работнікаў, было б прынамсі наіўна. Прапаную правесці невялікі эксперымент: спытайцеся ў любога, першага сустрэчнага доктара, ці чуў ён у сценах ВНУ хаця б адну лекцыю па сексалогіі ці сексапаталогіі. Перакананы, што ў 99-і працэнтах выпадкаў адказ будзе адмоўны. Дый цяпер праграмаю медінстытутаў не прадугледжваецца чытанне падобных лекцый. Таму няма нічога дзіўнага, што, сутыкаючыся з тымі ці іншымі праявамі сексуальнасці, і асабліва падлеткавай, большасць дактароў не могуць даць кампетэнтны адказ на пытанні бацькоў, педагогаў ці саміх школьнікаў.

Падрыхтоўка спецыялістаў-сексапатолагаў у нас у краіне ўсё ж праводзіцца — але якімі сіламі і якімі тэмпамі! Дзве-тры сумежныя кафедры некаторых інстытутаў удасканальвання дактароў (і ў першую чаргу — адзіная кафедра сексапаталогіі Украінскага інстытута ўдасканальвання дактароў пад кіраўніцтвам праф. Крышталь В. В.) рыхтуе ў год 40—50 дактароў. Як вы думаеце, калі школьнікі дачакаюцца «кампетэнтнага» суразмоўцу!..

Таму галоўнай на сённяшні дзень (і анкеты школьнікаў гэта пацвердзілі) крыніцаю спецыфічнай праўдзівай сексалагічнай інфармацыі з'яўляюцца ў абсалютнай большасці выпадкаў кнігі.

КНІГІ. Скажам шчыра: навукова-папулярная літаратура па праблемах полу ў нас выдаецца. І нашмат часцей, і большымі тыражамі, чым раней. Ну, а на ўсялякія «драбніцы» можна не звяртаць увагі. Напрыклад, на такія:

— выпускаецца неабходная літаратура 1 раз у два-тры гады;
— увесь тыраж разыходзіцца за некалькі гадзін продажу;
— друкуецца на найгоршай паперы і абавязкова ў папяровых пераплётах;
— пасля частаколу рэдактараў і рэцэнзентаў змест кнігі робіцца амаль стэрыльны;
— прызначаецца яна, у першую чаргу, зусім не школьнікам.

Апошнім часам маюць месца пэўныя змены, і яны абнадзейваюць. Сёлета ў маі міністрам аховы здароўя СССР падпісаны загад аб паляпшэнні сексапаталагічнай дапамогі насельніцтву і адначасна прызнаны статус доктара-сексапатолага. Гэтым загадам прадугледжана ўвядзенне ў праграму медыцынскіх ВНУ факультатыўнага курса «Асновы медыцынскай сексалогіі» ў аб'ёме 20 гадзін, выпуск адпаведных дапаможнікаў і даведнікаў. Лёд скрануўся...

І закончыць гэтыя нататкі хачу пытаннем, якое кожны доктар-сексапатолаг чуе ад сваіх пацыентаў некалькі разоў на дзень: «І чаму я не ведаў гэтага раней!»

І праўда, чаму!

# ПАРТРЭТ ФУТБОЛА Ў ІНТЭР'ЕРЫ

## СУБ'ЕКТЫЎНЫЯ НАТАТКІ

Амаль адначасова на двух розных стадыёнах, аддаленых адзін ад аднаго многімі часавымі паясамі, здарыліся падзеі, якія прыцягнулі да сябе вельмі неадэкватную ўвагу спартыўнае прэсы. У Мюнхене, на алімпійскім стадыёне зборная Савецкага Саюза па футболу хаця і прайграла галандцам, але выклікала мора захапленняў, а ў Сеуле наша другая каманда, далікатна названая «зборная клубаў», прайграла камандзе Чэхаславакіі.

Пра чэмпіянат Еўропы наша прэса пісала ўзахлёб. Выдае на тое, што трэнерскі геній Валерыя Васільевіча Лабаноўскага і несумненны поспех яго каманды стаў мяккім флёрам, які схаваў досыць вострыя абрысы зігзагаў, выбоін і іншых няроўнасцей нашай футбольнай гаспадаркі, якія непрыкметна напомнілі пра сябе і ў Сеуле. А калі дадаць да гэтага зусім ужо скандальнае выступленне нашых клубных каманд у еўрапейскіх турнірах, то яшчэ незразумела, ці можна лічыць індульгенцыяй на мінулы і будучы час выступленне зборнай краіны ў ФРГ.

Хаця, вядома, футбольныя генералы хацелі б менавіта гэтага.

І калі я гляджу, як трэніруюцца на гудронавым полі нашы юныя футбалісты, калі чытаю пра тое, як віцебскі «Віцязь» з-за адсутнасці футбольнага поля ездзіць гуляць у суседнія райцэнтры, як нашы каманды майстроў з абласных гарадоў гуляюць пры пустых трыбунах, а старшыя трэнеры ў гэты час заклапочаныя тым, каб як найспрытней ўладкаваць сваіх гульцоў — бо, нягледзячы на свой адкрыты прафесіяналізм, яны пазбаўлены футбольнага статуса і здавольваюцца ў звычайным жыцці хто чым: хто — «інструктарам фізкультуры», хто — «малодшым сяржантам звыштэрміновай службы», хто — «токарам-шматстаночнікам». Калі я гляджу на ўсё гэта, дык нешта задумваюся: можа лічыцца поспех у Мюнхене бранявым шчытом супраць крытыкі ці яго можна разважліва параўнаць з фігавым лістком, якім немагчыма прыкрыць пачуццё незадаволенасці, што выспявала дзесяцігоддзямі!..

*(старонка працягваецца ніжэй)*

мі рэпарцёраў пра чараўнікоў мяча Жаірзіньё, Герсана, Тастаа. Але «чараўнікі», зачараваўшы гледачоў фантастычнай тэхнікай, прайгравалі няхай сабе і не такім бліскучым майстрам, ды ўсё ж супернікам больш мэтанакіраваным, і раз'юшаная тарсіда была гатовая аддаць учорашніх куміраў на з'ядзенне акулам, што грэюцца на водмелях каля пляжаў Капакабаны.

У рэшце рэшт, пераможцаў ніколі не судзяць, а пераможаным заўсёды гора...

Ды толькі мы памятаем і другое, памятаем, як у Мексіцы наша каманда паказала невысокі вынік, але на радзіме гульцоў сустракалі як пераможцаў. Усім нам тады спадабалася (хаця, вядома, гэта слабае слова, больш слушна было б гаварыць пра захапленне, якое ахапіла ўсіх, хто бачыў рыўкі Бяланава і дрыблінг Заварава) уменне каманды гуляць. Не вымучваць перамогу за кошт розных «бетонаў», «выязных мадэляў» і іншай мудрагелістай трэнерскай лухты, якая вынішчыла ўсю прыгажосць футбола, а ГУЛЯЦЬ!

І ўсё-такі Валерый Васільевіч Лабаноўскі не перастае пры кожным зручным выпадку паўтараць, што галоўнае — гэта вынік, а ўсё астатняе — эмоцыі, якія не заслугоўваюць увагі. У той тэлеперадачы мне было важна пераканацца самому і даведацца аб рэакцыі тэлеаўдыторыі на тое, наколькі прагматызм можа замяніць пачуцці рамантызму і разумення футбола перш за ўсё як гульні, што мусіць дарыць радасць публіцы, пачуцці, якія доўга культываваліся ў мінскім «Дынама». Мне хацелася даведацца, ці хутка выветрываецца дух тае самае «шчырасці», якую прапагандуе Э. В. Малафееў і якая па ідэі павінна стаць вызначальнаю ў светаадчуванні яго любімых вучняў Сяргея Алейнікава і Сяргея Гоцманава. Ці шматгадовы апанент Малафеева Лабаноўскі здолеў пераканаць хлопцаў сваёй паслядоўнай і жорсткай лініяй на дасягненне Яго вялікасці выніку!

Тэледыскусія ўяўлялася мне важнай не толькі ў футбольным аспекце. Чаго ўжо там утойваць, дужа многія маладыя людзі сёння не па гадах прагматычныя, і размовы пра якіясьці ідэалы, акрамя «канчатковага выніку», здольныя выклікаць хіба што спачувальную ўсмешку. Адзін час мы радаваліся, што на змену рамантыкам, якія апявалі нейкія «блакітныя гарады» і «пах тайгі», на авансцэну грамадскага жыцця выйшлі шыракаплечыя спартыўныя хлопцы, якія цвёрда ведаюць, чаго яны хочуць у гэтым жыцці. Але радасць, як выявілася, была заўчасная, бо юныя прагматыкі прынеслі ў жыццё і жорсткасць, і шмат што іншае з таго, што сёння характарызуецца малазразумелым тэрмінам «негатыўныя праявы». У тым ліку і ў футболе. Імкненне дасягнуць жаданага Выніку, абагаўленне гэтага ідала сталі бабкайпавітухаю для дагаворных гульняў, «дзіўных» вынікаў, судзейскіх недарэчнасцей і ўсяго таго, што ледзь не прывяло да татальнага крызісу ў футболе. Гульня на высокім узроўні, як выявілася, была густа замяшаная на хлусні, а магчыма, і карупцыі, і колькі б ні стараліся розныя адвакаты накшталт Алега Базілевіча абвінаваціць прэсу ў распальванні страсцей, любому непрадузятаму чалавеку было ясна, што наш футбол сур'ёзна хворы. Магчыма, чытачы не забыліся яшчэ на тую тэледыскусію, і мне не хочацца да яе вяртацца. Скажу толькі пра тое ўражанне катарсісу, якое я адчуў пасля досыць вострае размовы. Як добра, што і Гоцманаў, і Алейнікаў захавалі ў сабе і хлапечую непасрэднасць, і сталасць турнірных байцоў, і, самае галоўнае, не дэ-

вальвавалі ў сабе тае любові да футбола, якую нельга засланіць ні прывабнай прапановаю, ні высокімі ганарарамі. Як мне здалося, лінія Лабаноўскага на «вынік» адно дадала сталі іхнім мускулам, але не зрабіла жорсткімі сэрцы. Хаця, вядома, магло б здарыцца рознае...

Сёння ўспаміны пра матчы ў Кёльне. Гановеры, Франкфурце, Штутгарце, Мюнхене адыходзяць у мінулае. Чэмпіянат стаў хоць і недалёкай, але ўсё ж гісторыяй. І як гэта часта бывае, нейкія карціны здаюцца размытымі, а якіясьці прыватныя моманты, наадварот, узбуйняюцца і прыватнымі момантамі ўжо не здаюцца. У першай гульні супраць Галандыі наша каманда выглядала проста спалоханай, хоць некаторыя лічылі, што гэта натуральная асцярожнасць. І цяжка было глядзець, як мучыцца Міхайлічэнка, якому трэнеры далі цвёрдую ўстаноўку «надзець кашулю» на Гуліта, іншымі словамі, выключыць з гульні галандскую суперзорку. Міхайлічэнка дысцыплінаваны спартсмен, але быць «нянькаю» зусім не яго амплуа, і ў выніку ён згубіўся на полі. А потым Міхайлічэнка рашыўся, пайшоў ад Гуліта, і адразу ж карціна на полі рэзка змянілася. Цяпер ужо не галандзец, а Міхайлічэнка быў галоўнай фігураю на стадыёне. І гэта дзякуючы яму наша каманда забіла адзіны, але пераможны мяч. Магчыма, што гэтая смеласць была сустрэта з неадабрэннем, магчыма, вынік апраўдаў учынак Міхайлічэнкі. Усё гэта схавана за сямю пячаткамі закрытай вежы, дзе знаходзяцца футбольныя стратэгі нашае галоўнае каманды. Мне, ва ўсякім разе, гэты вось прыватны момант здаўся адной з галоўных прычын добрага выступлення зборнай.

А вось яшчэ адна маленькая ўспышка ўспамінаў. Каманда Ірландыі, якая перамагла да таго англічан, каманда вопытная, але, шчыра скажам, зусім не бліскучая, за кошт неўтаймаванага характару прыціскае да варотаў нашых футбалістаў. Ужо прапушчаны мяч, на другім паверсе непадзельна гаспадараць ірландцы, і здаецца, што вось-вось Дасаеву прыйдзецца яшчэ раз даставаць мяч са сваёй сеткі. З трэнерскай лаўкі ўскочыў Лабаноўскі — сапраўдная кульмінацыя гульні. І тут Дасаеў просіць замяніць яго. Хто можа асудзіць такога вопытнага галкіпера за яго рашэнне! Толькі ён можа быць суддзёю самому сабе. Месца ў варотах займае Чанаў, і яго ўпэўненасць натхняе абарону, а затым і гульцоў атакі. Пратасаў раўняе лік. А ў наступным матчы Дасаеў зноў займае месца ў варотах. Я шмат думаў пра гэты вось прыватны момант і ведаю, што не ўсе падзяляюць мае пачуцці на гэты конт, але мне было балюча бачыць, як Дасаеў зноў легкакрыла пырхаў пад бэлькаю, ратуючы каманду, выручаючы партнёраў па абароне. Няхай даруецца мне нейкая старамодная сентыментальнасць, але ж не дарэмна капітан пакідае масток апошні. Вядома, Дасаеў не гладыятар, дый увогуле я, магчыма, недаацэньваю ўсемагутнасць медыцыны... Але надта ўжо вялікая была цана тае хвіліны, калі ірландцы смакавалі ўжо перамогу...

Яшчэ адзін фрагмент успамінаў. Кузняцоў, гульня якога ў ФРГ стала легендарнаю, гэтак авантурна і безразважна атакуе італьянскага нападніка, што па трыбунах разносіцца расчараваны гул. Суддзя, бы перст боскі, неадкладна карае за гэтую зусім ужо не зразумелую грубасць. У фінале мы застаёмся без Кузняцова і прайграем. Чаму так здарылася? Ды проста таму, што нашы футбольныя арбітры сваёй беспрынцыпнасцю і дагодлівасцю ў дачыненні да мацнейшых клубаў проста разбэсцілі гульцоў. Футбольныя законы трактуюцца так адвольна, што многія зоркі з вядучых каманд адчуваюць сябе па-за законам. І праўда, хто асмеліцца паказаць кіеўскаму дынамаўцу ці спартакаўцу жоўтую картку за невыкананне правілаў пастраення «сценкі», хто возьме на сябе смеласць аштрафаваць за спрэчкі з арбітрам? Гора суддзю, якому ўсе будуць роўныя: і кіяўляне, і мінчане, і харкаўчане... Вось таму, прыйшоўшы на замежны стадыён, многія нашыя футбалісты пачуваюць сябе сланамі ў краме посуду. Чатырнаццаць жоўтых картак за ўсялякія, па сутнасці, драбніцы былі паказаны нашым футбалістам. Адзін з негатыўных рэкордаў чэмпіянату...

У адным з інтэрв'ю В. В. Лабаноўскі папракнуў УЕФА за «злапомнасць»: маўляў, навошта падлічваць жоўтыя карткі, атрыманыя ў адборачных і фінальных паядынках? Мне здаецца, што гэты папрок трэба адрасаваць не заканадаўцам, а выканаўцам. І перш за ўсё нашым суддзям.

Успаміны пра чэмпіянат... Хіба можна забыцца пра тое, як дружна падтрымліваў нашую каманду стадыён у матчы з Англіяй? І гэта быў не толькі водгук глухой непрыязі да англійскіх заўзятараў, гэтых язваў футбольнай Еўропы. Сімпатыі заходнегерманскіх балельшчыкаў былі аддадзены класнай сучаснай камандзе, ад якой шмат гадоў чакалі прагрэсу і якая сёння апраўдвае чаканні. У пэўным сэнсе поспех нашай каманды ў ФРГ многія параўноўвалі з перабудоваю, дый нічога дзіўнага, бо заходнія людзі прызвычаіліся меркаваць пра глыбінныя працэсы па такіх малаістотных для нас рэчах, як футбольны матч, выступленне артыста, шчырае інтэрв'ю. У гэтым сэнсе мне згадваецца «Франфуртэр альгемайнэ», якая назвала Сяргея Алейнікава «разумным і раскаваным суразмоўцам», што для сотняў тысяч чытачоў гэтай уплывовай газеты нашмат важней, чым якоенебудзь «палітычна спелае», але акруглае чарговае інтэрв'ю нашага футбольнага ці іншага функцыянера, якое анічога не дае ні сэрцу ні розуму. Нашая каманда гэтым разам была суполкаю прывабных хлопцаў, не толькі добрых футбалістаў, але і звычайных людзей, далёкіх ад таго стэрэатыпу, які раней так культываваўся ў вышэйшых спартыўных сферах...

Калі я пісаў гэтыя радкі, на календары быў чэрвень. А сёння, калі вы чытаеце часопіс, ужо верасень, і хутка нашым футбалістам выходзіць на новы экзамен — адборачныя гульні чэмпіянату свету. А яшчэ нашую ўвагу забяруць матчы еўрапейскіх кубкаў, дый першынство краіны толькі ўвайшло ў самую цікавую фазу. Словам, нудзіцца няма калі. І няхай мае горкія радкі пра тое, што не павінен поспех у ФРГ стаць шчытом ад пазітыўнае крытыкі, што добрая гульня галоўнае каманды ні ў якім разе не павінна прытупіць наш погляд на каласальныя праблемы ўсяго футбола, будуць зразуметыя правільна. Што добра, тое, безумоўна, добра, але тузін футбалістаў высокага класа — гэта зусім няшмат для нашага вялікага футбольнага мацерыка...

Я перачытваю лісты нашых чытачоў, якія паступілі ў рэдакцыю пасля заканчэння першынства Еўропы. У іх радасць за добрую гульню ў фінале, засмучанасць (перамога ж была такая блізкая!), але самае частае пытанне — «Раскажыце пра мінскае «Дынама». Цікавасць заўзятараў да сваёй каманды зразумелая, бо выхад на мінскі стадыён Гоцманава і Алейнікава — гэта стымул і для балельшчыкаў, і для каманды. Глядач ходзіць на гульню зорак, гэта даўно вядома. Мы абавязкова раскажам пра мінскае «Дынама», а пакуль прапануем вам узяць удзел у нашым бліц-конкурсе і адказаць на тры пытанні:

1. Хто стане чэмпіёнам краіны сёлета?
2. Якое месца займе ў чэмпіянаце мінскае «Дынама»?
3. Хто будзе лепшым бамбардзірам каманды?

Чакаем вашых лістоў. Той, хто дашле нам найбольш дакладныя адказы, атрымае спецыяльны прыз рэдакцыі. Жадаем поспеху!

**Павел ЯКУБОВІЧ,**
**спартыўны аглядальнік**
**«Крыніцы»**

## КОЛА ЗНАЁМСТВАЎ

— Мне 18 гадоў. Хацелася б пазнаёміцца з равеснікамі, якія захапляюцца індыйскімі фільмамі.

230026, г. Гродна, бульвар 60-годдзя Кастрычніка, д. 33, кв. 61. Галіна РЫБАКОВА.

— Я вучуся ў тэхнічнай ВНУ, мне 19 гадоў. Захапляюся сучаснай музыкай, люблю чытаць, падарожнічаць, вязаць, ды і наогул захапленняў шмат. Сябровак у мяне многа, але ўсё ж няма побач чалавека, якому я магла б даверыцца. Вось і атрымліваецца, што сярод людзей я адчуваю сябе адзінокай. Хачу знайсці сапраўдных сяброў.

212029, г. Магілёў, пр. Шміта, д. 76, кв. 86. Таня А.

— Мне 16 гадоў. Хачу пазнаёміцца з равеснікамі, якія захапляюцца беларускім рокам.

220104, г. Мінск, вул. Жудро, д. 33, кв. 44. Андрэй КАЛТОВІЧ.

— Мне 17 гадоў, я вучуся ў педвучылішчы. Люблю музыку, вершы, спорт. Сапраўдных сяброў у мяне яшчэ не было. Вядома, свет не без добрых людзей, але як іх знайсці!

220102, г. Мінск, вул. Байкальская, д. 33, кв. 88. Наташа БАРЫСАВА.

— Мне 19 гадоў. Хутка я стану ўрачом, буду лячыць дзяцей. Даўно зразумеў, што доктар — чалавек больш тонкі за ўсіх астатніх, бо ён кожны дзень сустракаецца з болем і пакутамі, і бяда для хворых, калі зробіцца жорсткім ягонае сэрца... Студэнты — народ практычны, заклапочаны рознымі праблемамі; гэта фон, які не дазваляе замёрзнуць, але ён ніводнага разу не сагрэў. Хацеў бы знайсці кантакт з хлопцамі, у якіх чыстыя пачуцці і імкненні не змяшаліся з цінай мяшчанства і сытым самазахапленнем.

230015, г. Гродна, бульвар Ленінскага камсамола, 19, п. 116. Аляксей НАФІКАЎ.

— Мне 17 гадоў. Сябры называюць мяне «металісткай», але я люблю не толькі «метал», а любую добрую музыку; праўда, на жаль, ведаю пра яе вельмі мала. Хацелася б пазнаёміцца з чалавекам, які падзяліўся б са мной інфармацыяй, дапамог разабрацца.

220123, г. Мінск, вул. Горкага, д. 46, кв. 8. Алена ЛУКІНА.

## ЧАКАЮ ЛІСТОЎ

— Мне 29 гадоў, жыву у Маскве, працую наладчыкам тэхналагічнага абсталявання. Вельмі люблю чытаць гістарычныя раманы, захапляюся тэатрам, паэзіяй, улюбёны ў свой горад. Хацелася б знайсці блізкую сяброўку. ІГАР.

— Мне 18 гадоў, вучуся ў тэхнікуме. Сяброў у мяне няма, нават у кіно няма з кім схадзіць. Толькі кнігі дапамагаюць скараціць доўгія вечары. Чакаю і спадзяюся, што калі-небудзь усё ж будзе побач сябар. ТАЦЦЯНА.

— Мне 35 гадоў, а сямейнае жыццё яшчэ не ўладкавана. Працую трактарыстам у саўгасе. Моладзі у нас шмат, але мне не па ўзросце. Хацеў бы знайсці спадарожніцу жыцця гадоў трыццаці. МІХАІЛ.

— Мне 28 гадоў, працую выкладчыкам рускай літаратуры ў адной з мінскіх школ. Так атрымалася, што да гэтага часу не знайшлося чалавека, якому я была б неабходная. Вінаватая ў гэтым мая сціпласць і нерашучасць. Характар у мяне кантактны, вельмі люблю дзяцей, захапляюся сучаснай музыкай. ГАЛІНА.



# Будзьце прыгожыя

Працягваючы пачатую ў папярэднім нумары часопіса тэму, публікуем сёння парады польскай журналісткі С. Вяндроўскай тым, хто хацеў бы зрабіць свой жывот прыгажэйшым, а бёдры страйнейшымі.

1. Устань левым бокам да спінкі крэсла (блізка), вазьміся за спінку левай рукою, гэта аблегчыць табе практыкаванне. Цяпер выканай моцны мах правай нагою ўперад, уверх, улева. Пастаў мысок правай нагі на сядзенне крэсла. Паўтары практыкаванне 10 разоў. Затым перастаў крэсла і зрабі мах левай нагою. Памятай пра мернасць дыхання. Старайся як мага больш актыўна загрузіць мышцы бёдраў, мах нагою зрабі як мага шырэйшым. Гэтае практыкаванне спрыяе пахудзенню бёдраў.

2. Ляж на правы бок, правую руку сагні ў локці пад прамым вуглом, далонню ўніз, левай далонню ўпрыся ў падлогу на ўзроўні таліі. Энергічна адштурхніся ад падлогі бёдрамі, абапіраючыся на рукі. Тулава і ногі на адной лініі. Потым апусці бёдры і ляж на правы бок. Практыкаванне паўтары 10 разоў. Затым ляж на левы бок. Паўтары практыкаванне ў другі бок. Практыкаванне спрыяе пахудзенню бёдраў, ягадзіц.

3. Сядзь на падлогу, сагні ногі ў каленях і падцягні стопы як мага бліжэй да бёдраў. Далонямі абапрыся аб падлогу ззаду. У гэтай паставе павольна перанось калені ўправа і ўлева, стараючыся дакрануцца да падлогі. Паўтары 10—20 разоў. Практыкаванне спрыяе пахудзенню бёдраў.

4. Сядзь на дыван, выпрастай ногі ў каленях, рукі выцягні ўперад, лапаткі звядзі разам, галаву падымі. У гэтай паставе пачынай рух уперад: выцягні правую руку і правую нагу рухам ад бядра, потым выканай гэты рух левай рукою і левай нагою. Такім чынам перасоўвайся ўперад на 2—3 метры, паступова павялічваючы дыстанцыю. Гэтае практыкаванне спрыяе пахудзенню жывата і бёдраў.

5. Сядзь на падлогу, далоні пакладзі каля бёдраў. Моцна напруж мышцы жывата. Ляж на спіну, ногі па-ранейшаму трымай адносна тулава пад прамым вуглом. Затым вярніся ў зыходную паставу. Раскачвайся такім чынам 15—20 разоў. Практыкаванне ўмацоўвае мышцы жывата.

6. Ляж на спіну, рукі выцягні ўздоўж цела, далоні моцна прыцісні да бёдраў. На «раз» падцягні калені ўверх, не адрываючы стоп ад падлогі, на «два» прыпадымі бёдры ўверх, абапіраючыся на галаву і стопы. Моцна напруж мышцы ягадзіц, рукі прыціснутыя да бёдраў. На «тры» апусці бёдры. На «чатыры» выпрастай ногі. Памятай пра дыханне. Паўтары практыкаванне 10—15 разоў.

7. Сядзь на падлогу, ногі разам, галаву падымі, спіну выпрастай. Зрабі рэзкі паварот улева, рукамі, трохі сагнутымі ў локцях, абапрыся на падлогу. Адначасна нагамі зрабі вертыкальныя «нажніцы». Абапіраючыся далонямі аб падлогу, вярніся ў зыходную паставу і звядзі ногі разам. Затым тое ж практыкаванне выканай управа. Практыкаванні паўтары па 5—10 разоў у кожны бок, не затрымлівай дыхання. Практыкаванне здасца табе спачатку складаным, таму выконвай яго павольна, уключаючы ў работу ўсё цела. Практыкаванне ўмацоўвае мышцы бёдраў і ягадзіц.

8. Ляж на жывот, галаву задзяры назад, падбародкам абапрыся аб падлогу, рукі выцягні ўздоўж цела. На «раз» падымі рукі (кісці сціснуты ў кулак, локці выпрастаны) і выпрастаную ў калене правую нагу ўверх. Зрабі ў гэты момант удых. На «два» апусці рукі і нагу на падлогу. Зрабі выдых. На «тры» падымі рукі і левую нагу ўверх — удых. На «чатыры» апусці нагу і рукі — выдых. Паўтары кожнай нагою практыкаванне 5—10 разоў, падбародак увесь час упіраецца ў падлогу. Праз некалькі дзён можаш паспрабаваць падымаць абедзве нагі адначасна. Практыкаванне ўмацоўвае мышцы спіны і ягадзіц.

Калі вы лічыце, што бёдры ў вас, наадварот, занадта худыя, ёсць практыкаванні і на гэты выпадак:

1. Пастаў ногі на шырыню плеч, наскі развядзі ў бакі. У гэтай паставе старанна і павольна падыміся на дыбачкі, потым павольна апусціся. Паўтары практыкаванне 25—30 разоў. Каб табе не было сумна, пастаў пласцінку з рытмічнай музыкай.

2. Гэтае практыкаванне трэба выконваць надзеўшы які-небудзь цяжкі абутак, напрыклад, лыжныя бацінкі. Ляж на спіну, рукі выцягні ўздоўж тулава, далонямі ўніз. Падымі выпрастаныя ногі на вышыню 15—20 см. Лічачы да 8, скрыжуй ногі — левую над правай, правую над левай (калені выпрастаны, мышцы напружаны). Затым пакладзі ногі на падлогу, хвілінку адпачні і паўтары практыкаванне. Памятай пра мернасць дыхання. Зрабі практыкаванне 8—10 разоў, паступова павялічваючы колькасць паўтарэнняў да 20.

Гэтаксама ж выканай вертыкальныя «нажніцы». Рухі рабі толькі ў тазасцегнавых суставах (уверх-уніз), адлегласць паміж нагамі каля 30 см.

3. Устань, пяткі разам, мыскі паасобку. На «раз» падыміся на мыскі, на «два, тры, чатыры, пяць» павольна прысядзь, развёўшы калені як мага шырэй (спіна выпрастаная, галава паднятая, рукі свабодна апушчаны ўніз ці на бёдрах — як табе зручней). На «шэсць, сем, восем, дзевяць» выпрастайся, застаючыся на мысках, на «дзесяць» апусціся на ўсю ступню. Калі выконваеш практыкаванне, старайся як мага мацней напружыць мышцы, дыхай мерна.

4. Сядзь на крэсла тварам да спінкі (як на каня). Рукамі вазьміся за спінку крэсла, локці шчыльна прыціснутыя да тулава, стопамі ўпрыся ў падлогу. У гэтай паставе выпрастай, уклаўшы ў рух усю сваю сілу, ногі ў каленях, потым апусці іх. Напружваючы мышцы, паўтары практыкаванне 20—30 разоў.

5. Вазьмі невялікі гумавы мяч, зацісні яго паміж шчыкалаткамі. Лічачы да чатырох, моцна сцісні мяч, на «пяць» расслаб мышцы. Паўтары практыкаванне 10—20 разоў.

6. Устань, ногі на шырыні плячэй. Потым, рухаючы адначасна абедзвюма нагамі, звядзі іх разам. Практыкаванне гэтае выконваць досыць цяжка, але яно эфектыўнае. Спачатку можаш выконваць яго ў спецыяльных суконных чаравіках для націрання падлогі, на слізкім паркеце. З цягам часу павялічвай адлегласць паміж нагамі ў зыходнай паставе. Паўтары практыкаванне 10—40 разоў.

Таццяна ЧАРНЯЎСКАЯ



Фотарэпартаж Яўгена СКУРАТОВІЧА з

# ТРОЙЦА-СЕРГІЕВАЙ ЛАЎРЫ

*Многія цэрквы і манастыры з'яўляюцца сапраўднымі гістарычнымі помнікамі: хіба можна ўявіць сабе Ленінград без Ісаакіеўскага сабора, Масквы без храма Васіля Блаславёнага, Гродна без сярэдневяковага фарнага касцёла?*

*У архітэктуры, скульптуры, старажытным жывапісе сканцэнтраваўся геній выдатных майстроў, якімі заўсёды багатая была наша зямля.*

*У дні святкавання тысячагоддзя ўвядзення хрысціянства на Русі жамчужына старажытнарускае культуры Тройца-Сергіева лаўра была адным з цэнтраў свята.*












**З гэтага вераснёўскага нумара пастаянным госцем нашага часопіса будзе слайд-клуб «Спектр». Першым яго прадстаўляе член маладзёжнай групы «МЕТА» Яўген Скуратовіч.**



Цана 25 кап.
Індэкс 74824

# У аб'ектыве — МАЎРЫКІЙ







У бязмежных прасторах Індыйскага акіяна, у яго паўднёва-заходняй частцы, за 2220 кіламетраў ад афрыканскага кантынента прыблізна 13 мільёнаў гадоў назад з'явіўся невялікі экзатычны востраў вулканічнага паходжання. «Спачатку бог стварыў Маўрыкій, а затым па яго падабенстве рай». Думку Марка Твена падзяляюць усе турысты, якія наведалі гэтую краіну. Маўрыкійцы называюць свой востраў «мадэллю свету ў мініяцюры». На самай справе, тут мірна ўжываюцца індусы, крэолы, кітайцы, выхадцы з Афрыкі і Еўропы; кожны народ захаваў родную мову, рэлігію, норавы і звычаі; культуры розных народаў цесна перапляліся.

**Уладзімір ПАЎЛОВІЧ**

